П'ер СУВЭСТР
Марсель АЛЕН

# ФАНТАМАС

Раман



Мінск
«Юнацтва»
1994

ББК 84(4Фр)
С 89
УДК 840-93

З французскай

Пераказалі для дзяцей

М. А. Клімковіч, М. В. Адамчык

Мастак К. П. Шаранговіч

*Для сярэдняга школьнага ўзросту*

Сувэстр П., Ален М.
С89 Фантамас: Раман: Для сярэд. шк. узросту /Пераказ для дзяцей М. А. Клімковіча, М. В. Адамчыка; Маст. К. П. Шаранговіч.— Мн.: Юнацтва, 1994.—96 с.: іл.
ISBN 5-7880-0932-4.

Сувестр П., Аллен М. Фантомас: Роман.
Гэтая кніга была напісана ў 1910 годзе і дагэтуль знаходзіцца ў актыве сусветнай дэтэктыўнай літаратуры. На яе старонках бясконца змагаюцца знакаміты паліцэйскі камісар Жуў і «геніяльны» злодзей Фантамас. Як сапраўдны дэтэктыў твор поўніцца таямнічымі знікненнямі, загадкавымі злачынствамі і інтрыгамі.

С $\frac{8400000000—002}{М 307 (03) — 94}$ 142—93 ББК 84(4Фр)

ISBN 5-7880-0932-4



# I

## Геніяльны злодзей

— Фантамас?
— Як вы сказалі?
— Фантамас!
— А што гэта азначае?
— Нічога... і ўсё!
— Але хто ён такі?
— Ніхто і разам з тым усё!
— А чым ён займаецца?
— Ён нясе жах!!!

Здаўна павялося, што маркіза дэ Лангрун, якой належаў замак Бале, дзеля таго каб не сумаваць у адзіноцтве і не згубіць старых сувязяў, запрашала кожную сераду знаёмых і сяброў да сябе ў маёнтак на вячэру.

У гэтую сераду ў маркізы гасцявалі: старшыня суда Банэ, ксёндз Сіко, багатая і незалежная маладая ўдава баранеса дэ Вібрэ; з маладога пакалення: абаяльны васемнаццацігадовы юнак Шарль Рамбэр і ўнучка гаспадыні Тэрэза Авернуа.

У тым, што казаў суддзя Банэ, было столькі дзіўнага і таемнага, што ўсе міжволі зацікавіліся таямнічым Фантамасам, пра якога суддзя так і не сказаў нічога пэўнага. Суддзя стаміўся ад пытанняў.

— Давайце мы з вамі, панове, звернемся да статыстыкі,— сказаў ён.

— Цікава, да чаго пан вядзе? — пацікавілася маркіза дэ Лангрун.

— А вось да чаго,— адказаў суддзя.— Нягледзячы на тое, што большая частка злачынстваў застаецца нераскрытай, на іх нельга забывацца, адны з іх здзейснены звычайнымі злачынцамі, а за другімі схаваны загадкавыя асобы. Іх цяжка выявіць: яны занадта разумныя, каб трапіць у пастку.

Малады Шарль Рамбэр зацікаўлена слухаў суддзю.

— Менавіта таму пан нагадаў Фантамаса? — усхвалявана спытаў ён.

— Так, сапраўды, менавіта яго я і меў на ўвазе. Наш час адзначаны існаваннем таямнічага і жахлівага злодзея, якога людзі назвалі Фантамасам! Фантамас!.. Ніхто дакладна не ведае, хто ён такі, і высветліць гэта немагчыма. Фантамас! Ен здатны прыняць аблічча пэўнага, больш за тое, нават вядомага чалавека, а потым раптам з'явіцца ў дзвюх асобах адначасова! Фантамас! Яго няма нідзе і ён усюды! Ягоны цень лунае над самымі жахлівымі таямніцамі, ягоны след знаходзяць там, дзе адбыліся самыя незвычайныя злачынствы...

— Але я не разумею,— перапыніла суддзю маркіза дэ Лангрун і звярнулася да Шарля і Тэрэзы: — Вам, відаць, сумна з намі, старымі?

Баранеса дэ Вібрэ ізноў павярнула размову да Фантамаса:

— Якое дачыненне мае гэты жахлівы Фантамас да знікнення лорда Белсома? На жаль, мы, жанчыны, добра ведаем мужчын: хутчэй за ўсё ён проста ўцёк.

— Наўрад ці, баранеса... Вядома, я б з гэтым пагадзіўся, каб знікненне лорда Белсома не адбылося пры таямнічых абставінах. Лэдзі Белсом непакоілася, бо муж не прыйшоў начаваць, і толькі на наступную раніцу згадала, што перад адыходам ён чытаў нейкі ліст нязвыклых квадратных абрысаў, напісаны чорным атрамантам буйнымі літарамі. Яна знайшла гэты ліст на мужавым стале, аднак усё напісанае знікла за ноч з аркуша. Газета «Капіталь» звярнулася за тлумачэннямі да Жува, знакамітага камісара крымінальнага вышуку, які не раз выкрываў і затрымліваў небяспечных злачынцаў. Гісторыя з лістом насцярожыла Жува, і ён сказаў, што такія загадкавыя выпадкі ён можа звязаць толькі з Фантамасам.

Пасля апошніх слоў прысутныя адчулі сябе ніякавата.

— А хто яны такія, лорд і лэдзі Белсом? — спытала маркіза дэ Лангрун.

— Лорд Белсом у мінулым аташэ англійскага пасольства ў Парыжы,— сказала баранеса дэ Вібрэ.

* * *

Прабіла дзесяць гадзін. Маркіза дэ Лангрун звярнулася да Шарля Рамбэра:

— Цягнік, на якім прыязджае твой бацька, прыходзіць у Верэр а сёмай гадзіне?

— Так. Я ўпэўнены, што бацька ўзрадуецца, калі ўбачыць на вакзале не толькі мяне, але і Тэрэзу.

— Няхай і яна пойдзе з табою,— згадзілася маркіза.— Тэрэза, не забудзься папярэдзіць нашага мажардома Далона, каб падрыхтаваў карэту...

— Добра, бабуля.

Тэрэза з Шарлем сышлі з гасцёўні.

— Хто гэты юнак, Шарль Рамбэр? — пацікавіўся ксёндз.— Колькі ні прыгадваў, не ўспомню...

— Вядома,— азвалася маркіза.— Немагчыма ўспомніць таго, з кім не знаёмы. Хіба што чулі ад мяне часам імя Эцьена Рамбэра, майго даўняга сябра. Мы даўно з ім не бачыліся, але надоечы сустрэліся ў Парыжы на свяце. Дваццаць гадоў таму ён узяў шлюб з чароўнай дзяўчынай, але яна захварэла, баюся, што яна звар'яцела... Эцьену давялося пакласці яе ў клініку.

— Аднак з гэтага не вынікае, што ягоны сын мусіць быць тут, у замку,— заўважыў суддзя Банэ.

— Шарль Рамбэр скончыў сямейны пансіён у Гамбургу. З Эцьенавых лістоў я даведалася, што пані Рамбэр паклалі ў клініку, а сам ён мусіў з'ехаць на нейкі час з Парыжа, вось я і прапанавала: няхай Шарль пажыве ў мяне ў Бале, покуль ягоны бацька не вернецца. Ужо другі дзень Шарль тут.

— А Эцьен Рамбэр прыедзе заўтра? — спытаў ксёндз.

— Так...

Усе раптам змоўклі, бо Шарль Рамбэр вярнуўся ў гасцёўню:

— Вы казалі пра Фантамаса? Гэта так цікава.

— У гэтым няма нічога цікавага,— заўважыў суддзя.

— У наш час жыве такі таямнічы злодзей.

— У пана багатая фантазія,— сказаў суддзя,— залішне багатая, але гэта пройдзе, моладзь нярэдка гаворыць і не думае.

Час быў позні, і госці пачалі развітвацца.

— Шарль, калі ласка, зайдзі да мяне,— сказала маркіза,— я ж абяцала даць кнігу, яна ляжыць на маім сакрэтніку.

У сваім пакоі маркіза здзівілася:

— Відаць, я забылася яе пакласці. Але я ўсё адно павінна адамкнуць сакрэтнік, праверыць латарэйныя квіткі, мой падарунак Тэрэзе,— маркіза адамкнула ампірны сакрэтнік.— Гэта будзе цудоўна, калі маёй маленькай Тэрэзе пашанцуе!

— Сапраўды,— усміхнуўся Шарль.

Маркіза знайшла кнігу.

— Шкада, я бачыла нумар білета, які выйграў у «Капіталь», і забылася яго.

— Я магу прынесці газету,— прапанаваў Шарль.

— Не варта, ксёндз па серадах звычайна забірае прэсу за тыдзень, заўтра ўсё высветлім.

Шарль Рамбэр ляжаў у сваім пакоі, але заснуць не мог. Яго апанавалі трывожныя думкі. Мроіўся зменлівы вобраз Фантамаса. То ўяўляўся асілак са звярыным тварам, то белая істота з вогненнымі вачыма, то нешта неакрэсленае, фантом... Фантамас!!!

## II

## Трагедыя на досвітку

А пятай гадзіне раніцы Шарль Рамбэр і Тэрэза Авернуа выйшлі з замка ў сад. Калі яны міналі стайню, то сутыкнуліся з фурманам: ён выкочваў з-пад паветкі старасвецкую карэту.

— Добрай раніцы, Жан, не спяшайся,— крыкнула Тэрэза.— Мы пройдземся пешкі да вакзала, галоўнае, забяры нас адтуль.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Праз доўгую вакзальную пачакальню яны трапілі на перон.

— Вунь і цягнік,— Тэрэза паказала пальчыкам

на маленькую аблачынку на далягляндзе.— Гэта дым ад паравоза, цягнік выйшаў з тунеля...

— Нарэшце,— сказаў Шарль Рамбэр.

Наблізіўся цягнік. Паравоз пыхнуў парай, скінуў хуткасць, спыніўся. Вагон першага класа стаў супраць Шарля і Тэрэзы. На вагоннай прыступцы стаяў мужчына ў гадах, прыгожы, высокі,— гэта і быў Эцьен Рамбэр. Ен саскочыў на перон, паставіў чамадан і абняў Шарля за плечы:

— Мой хлопчык, мой мілы хлопчык!

Тэрэза далікатна саступіла ўбок. Эцьен заўважыў яе і падаў руку.

— Мая маленькая Тэрэза, як ты змянілася! Ты ператварылася ў дарослую прывабную дзяўчыну з таго часу, як апошні раз я бачыў цябе яшчэ маленькай. Як пачуваецца твая бабуля?

— Бабуля пачуваецца выдатна,— падзякавала Тэрэза.— Яна просіць прабачэння, што не прыехала сустрэць.

— Нашто прабачэнні! Я чакаю, калі сам змагу падзякаваць за тое, што яна дала прытулак майму Шарлю.

Тым часам цягнік рушыў. Утрох яны выйшлі на пляц перад вакзалам.

— Нічога не разумею,— сказала Тэрэза.— Дзе карэта? Дзе Жан?

— Відаць, яго нешта затрымала,— усміхнуўся Эцьен Рамбэр.— Нічога, багаж пакінем у камеры хавання, а самі пройдземся пешкі!

Яны рушылі па дарозе да замка Бале.

Эцьен Рамбэр змоўк на колькі хвілін. Аднак неўзабаве азваўся зноў:

— Я гляджу, паркавую агароджу замянілі, вось гэтай сцяны раней не было, рос жываплот.

— А я ніякага жываплота не памятаю,— рассмяялася Тэрэза.— Мы пойдзем паўз стайні і даведаемся, чаму Жан не прыехаў за намі.

Тэрэза адчыніла маленькую, ледзь бачную брамку і прапусціла наперад Эцьена з Шарлем.

— Але Жана няма,— здзівілася яна.— Чаму ж мы яго не сустрэлі? А, зразумела... Небарака Жан! Іду ў заклад, ён чакае нас каля касцёла, ён жа кожную раніцу возіць мяне туды.

Пад вокнамі маркізы дэ Лангрун Тэрэза крыкнула:

— А вось і мы, бабуля!

Ей ніхто не адказаў. У суседнім акне ўзнік мажардом Далон.

— Які жах! Такая бяда! Сёння раніцай мы знайшлі гаспадыню дэ Лангрун у сваім пакоі нежывую, яе зарэзалі...

## III

## Замкнёнае кола

Дэ Прэль, судовы следчы з пракуратуры Брыва, прыехаў у замак Бале.

— Пан Далон,— звярнуўся ён да мажардома,— прашу расказаць усе падрабязнасці. Як і калі знайшлі цела?

— Звычайна зранку,— распачаў мажардом,— я прыходжу да пані дэ Лангрун павітацца і атрымаць заданне на дзень. Гэтым разам я пагрукаў у дзверы і не пачуў адказу. Я пагрукаў мацней. Не разумею чаму, замест таго каб пайсці, я пхнуў дзверы... Мне цяжка пераказаць тое, што я адчуў, калі ўбачыў маю гаспадыню на падлозе нежывою, з жорстка перарэзаным горлам, на нейкі момант мне нават падалося, што галава яе адсечана...

— Гэта праўда, пан следчы,— пацвердзіў паліцыянт.— Забойства надзіва жорсткае. Раны жахлівыя...

— Нажавыя? — спытаў дэ Прэль.

— Няхай пан удакладніць сам,— паціснуў плячыма брыгадзір.

Следчы разам з мажардомам пайшлі ў спачывальню маркізы. Вялікі пакой быў абстаўлены старасвецкаю мэбляю. Па падлозе раскіданы паперы. Маркіза ляжала на падлозе. На ўсю шырыню шыі зеўрала шырокая рана.

— Жах,— прамармытаў дэ Прэль.

Ён агледзеў цела і зноў звярнуўся да Далона:

— У пакоі нічога не краналі?

— Нічога, пан следчы.

— І да сакрэтніка ніхто не падыходзіў? — удакладніў ён.

— Не, пан следчы.

— Маркіза трымала ў замку буйныя грошы?

Мажардом пацiснуў плячыма.

— Мажлiва, забойца i разлiчваў, што панi дэ Лангрун захоўвала ў замку грошы, але ён не ўзяў нават пярсцёнкаў з начнога столiка, вiдаць, яго нехта напалохаў.

— Акно было адчыненае? — спытаў следчы.

— Маркiза заўсёды спала з адчыненымi вокнамi,— адказаў мажардом.

Далейшы агляд вынiкаў не даў, забойца не пакiнуў нiякiх слядоў. Аднак дзверы на калiдор зацiкавiлi дэ Прэля:

— Глядзiце, цiкава: нехта напалову выкруцiў шрубы з дзвярной засаўкi. Вiдаць, яе хацелi сарваць. Нябожчыца заўсёды замыкала дзверы на засаўку?

— Так! — адказаў Далон.

— Хто з прыслугi жыве ў замку?

— Мары — пакаёўка, Луiза — кухарка i аканом Эрвэ, але ўчора ён тут не начаваў. З дазволу маркiзы хадзiў у вёску, але з умоваю, што ў замак вернецца толькi ранiцаю. Нябожчыца была асцярожнаю жанчынаю, яна баялася, каб уночы ў замак хто не прабраўся.

— Пан сцвярджае,— удакладнiў следчы,— што прымалiся ўсе меры перасцярогi, каб у замак нiхто не трапiў?

— Так, але здарылася, пан следчы, неверагоднае.

— Але забойца мог трапiць у замак удзень? Схавацца, а ноччу забiць. У пакоi гаспадынi сарвана засаўка, значыць, забойца трапiў праз гэтыя дзверы.

Дэ Прэль змоўк i задумаўся. У пакоi чулася толькi парыпванне гусiнага пёрка.

— Значыць, уначы пад час злачынства ў замку былi толькi гаспадыня дэ Лангрун, яе ўнучка мадэмуазель Тэрэза, Шарль Рамбэр i дзве пакаёўкi. Я дакладна вас зразумеў?

— Так, пан следчы. Але схавацца ўдзень у замку практычна немагчыма. На кухнi заўсёды хто-небудзь ёсць, там нiхто не пройдзе. А перад галоўным уваходам усю другую палову дня працавалi садоўнiкi. Яны абавязкова б заўважылi незнаёмага чалавека. Астатнiя ўваходы ў замак заўжды замкнёныя па загаду гаспадынi.— Мажардом развёў рукамi.

— I ўсё ж панi дэ Лангрун забiлi.

— Не разумею, пан следчы,— мажардом Далон адказаў пасля нядоўгiх ваганняў.— Я гарантую, нi-

хто не мог трапіць у замак, а з іншага боку відавочна, што ані пан Шарль Рамбэр, ані Тэрэза, ані пакаёўкі не падыходзяць на ролю забойцы.

## IV

## «Не, я не вар'ят!»

Мінуў дзень — сумны і змрочны. З раніцы Шарль Рамбэр з бацькам хадзілі па вялікіх маўклівых замкавых пакоях. Усю другую палову дня яны разам з Тэрэзай падпісвалі за круглым сталом адрасы сваякоў маркізы на вялікіх канвертах з жалобнай пячаткай. Пан Рамбэр застаўся ў замку да пахавання. Баранеса дэ Вібрэ ўгаворвала Тэрэзу паехаць начаваць да яе, але тая адмовіла.

Эцьен Рамбэр скончыў праглядаць газеты, дзе падрабязна апісвалася трагедыя ў Бале, падняўся на другі паверх і ўвайшоў у пакой да сына.

— Прызнайся мне,— глухім голасам загадаў ён,— прызнайся свайму бацьку!

— У чым? — Шарль адхінуўся ад яго.

— Гэта ж ты забіў!

Шарль хацеў запярэчыць, але голас не слухаўся:

— Я забіў? Мяне вінавацяць у забойстве маркізы? Але гэта жахлівае і гнюснае забойства!

— Вядома, і ты забойца!

— Не, клянуся, не!

— Так! — налягаў Эцьен Рамбэр.

— І гэта кажа мой бацька,— з дакорам сказаў Шарль.

— Супраць цябе ёсць сведчанні, і яны жахлівыя. У тую фатальную ноч ніхто не мог трапіць у замак, ты адзіны мужчына, які быў тут,— Эцьен Рамбэр павярнуўся і пайшоў у ванны пакой, узяў з ніжняй паліцы скамечаны ручнік.

— Глядзі,— прашаптаў ён і разгарнуў ручнік перад сынам.

Шарль убачыў на ручніку крывавыя плямы. Ён знерухомеў і хацеў нешта сказаць, але Эцьен спыніў яго:

— Вось яно, неаспрэчнае сведчанне твайго злачынства!

— Але я не вінаваты... Я нічога не разумею! — Шарль адступіў і сеў у крэсла.

— Бедны мой хлопчык! Бог ведае, мо ёсць абставіны, што аблегчаць тваю віну...

— Няўжо можна паверыць, што я забойца?

— Але ты не вінаваты. Я хацеў бы давесці, што ты не можаш адказваць за свае ўчынкі. Матчына хвароба не магла не адбіцца на сыне.

— Хвароба? — узрушана сказаў Шарль.

— Жахлівая і таямнічая хвароба, над якой ніхто з нас не мае ўлады!

— Божа літасцівы! — крыкнуў Шарль.— Няўжо мая маці вар'ятка?.. Але пры чым тут я?

— Магчыма, у цябе была страшная галюцынацыя, правал у свядомасці,— падказаў Эцьен Рамбэр.

— Не! Не! Я не вар'ят!..

Шарль крычаў і ўжо не стрымліваў сябе, ён кідаў словы ў начную цішыню, безуважны да ўсяго, што не тычылася жахлівай размовы з бацькам... Эцьен Рамбэр таксама забыўся на тое, каб прыцішыць свой голас:

— Калі ты не вар'ят, Шарль, то ты — забойца! Забойца!

Раптоўна яны змоўклі, бо пачулі на калідоры шоргат. Дзверы пакоя паволі адчыніліся, у чорным прагале з'явіўся беласнежны абрыс. Перад імі стаяла Тэрэза — у доўгай начной кашулі, з расплеценымі валасамі, з бясколернымі вуснамі, поўнымі жаху вачыма. Яе калаціла. Цераз сілу яна ўзняла руку і паказала на Шарля...

— Тэрэза, Тэрэза,— зашаптаў Эцьен Рамбэр, укленчыў і малітоўна склаў далоні,— Тэрэза, ты ўсё чула?

— Так...— уздыхнула яна. Вочы яе закаціліся, яна пахіснулася і самлела.

## V

## «Арыштуйце мяне...»

Вось ужо другі дзень пераапрануты валацугам камісар Жуў круціўся ў ваколіцах замка Бале. Захоўваючы інкогніта, ён мог весці расследаванне далей.

Пад час арышту валацугі жандар паводзіў сябе дзіўна: пачціва спыніўся за некалькі крокаў ад пераапранутага камісара, і ягоная рука машынальна ўзнялася да фуражкі.

— Я ж прасіў мяне не турбаваць! — шэптам сказаў камісар. Ягоны твар змяніўся ад крыўды.

— Пан камісар, я мушу сказаць нешта важнае.

— На нас глядзяць, і калі вы падышлі да мяне, то мусіце арыштаваць як валацугу.

— Пан камісар, не магу адважыцца,— адказаў жандар.

Жуў павярнуўся да яго спінаю.

— Я зраблю крок убок,— цвёрда сказаў ён,— нібыта ўцякаю, а вы схопіце мяне і надзенеце кайданкі.

Праз колькі часу валацуга, ужо ў кайданках, пакорліва ішоў побач з жандарам далей ад людзей. Нарэшце абодва схаваліся за дрэвамі.

— Што здарылася? — спытаў валацуга жандара.

— Пан камісар, забойца вядомы. Тэрэза сказала...

## VI

## «Фантамас — гэта смерць!»

Было восем гадзін раніцы. Камісар Жуў набліжаўся да замка, каля агароджы ён сутыкнуўся са следчым дэ Прэлем.

— Вам паведамілі ўжо? — спытаў у яго Жуў. Следчы здзіўлена паглядзеў на яго.

— Калі меркаваць па выразу вашага твару, вы яшчэ нічога не ведаеце. Рыхтуйце ордэр на арышт Шарля Рамбэра.

Камісар, брыгадзір і следчы шпарка пайшлі да замка. Насустрач ім выбег устрывожаны мажардом Далон.

— Дзе Рамбэры? Дзе Рамбэры? — крычаў ён.

Камісар павярнуўся да следчага:

— А пташкі ўжо няма.

У замку Жуў і дэ Прэль папрасілі Далона ўдакладніць некаторыя дэталі.

— Паненка Тэрэза расказала нам пра тое, што чула ўначы: размову паміж бацькам і сынам

Рамбэрамі. Нам — гэта мне і служанкам Луізе і Мары. Гэта было прыблізна а палове сёмай.

— І што вы зрабілі? — спытаў дэ Прэль.

— Я загадаў фурману Жану ехаць і папярэдзіць брыгадзіра.

— Пан следчы,— сказаў брыгадзір,— як толькі я атрымаў інфармацыю, то адразу пабег шукаць пана камісара.

— Вы зрабілі недаравальную памылку,— узлаваўся дэ Прэль,— трэба было сачыць за Рамбэрамі.

— Пан следчы,— запярэчыў брыгадзір,— я паставіў каля ўвахода ў замак Марана.

— І Маран іх не бачыў?

Камісар Жуў здагадаўся, што адбылося.

— Маран і не мог іх бачыць, бо яны ўцяклі яшчэ ўначы.

— Я кіну ўсіх сваіх людзей, каб злавіць іх,— брыгадзір таропка выйшаў.

— Дзе паненка Тэрэза? — спытаў дэ Прэль.

— Яна заснула, пан следчы. Доктар прасіў яе не будзіць...

— Добра,— сказаў следчы,— нам трэба застацца з камісарам сам-насам!

Далон выйшаў.

Першым парушыў маўчанне следчы:

— Дык што, справа скончана? Шарль Рамбэр — забойца?

— Шарль Рамбэр? — Жуў разгублена паціснуў плячыма.— Сапраўды, атрымліваецца, што ён забойца. Але я не веру.

— Не разумею, якія могуць быць сумненні: усе факты супраць яго.

— Але нешта сведчыць і на ягоную карысць,— адказаў Жуў.

— Расследаванне паказала, што злачынства здзейсніў нехта, хто быў у доме.

— Магчыма, але неабавязкова. Спачатку трэба адказаць на два пытанні: які характар злачынства і якімі матывамі кіраваўся злачынца? Калі вы не супраць, давайце зараз жа адкажам. Найперш спытаем сябе: як належыць кваліфікаваць забойства маркізы дэ Лангрун? Першы вывад, да якога прыходзіш,— злачынства адносіцца да катэгорыі забойстваў, здзейсненых з выключнай жорсткасцю. Па знешнім выглядзе ахвяры можна меркаваць пра ха-

рактар забойцы: відавочна, удары такой моцы мог нанесці толькі чалавек нізкага сацыяльнага паходжання, прафесійны забойца.

— Чаму вы прыйшлі да такой высновы? — пацікавіўся дэ Прэль і, запаліўшы цыгару, зручна ўладкаваўся ў фатэлі.

Жуў хадзіў па пакоі.

— Згадайце, як выглядала рана: горла амаль цалкам рассечана нечым вострым. Рану такой глыбіні і шырыні немагчыма нанесці адным ударам. Відавочна, забойца не мог спыніць сябе і перастараўся. Гэта гаворыць пра тое, што забойца забіў без ваганняў і, магчыма, нават без хваляванняў. Усё сведчыць на тое, што забойца чалавек надзвычай дужы.

— Вашы высновы дакладныя,— пагадзіўся дэ Прэль.

— Цяпер паспрабуем,— сказаў Жуў,— вызначыць, якой зброяй карыстаўся забойца. Мы яе не знайшлі, таму я аддаў загад вычарпаць усе прыбіральні, спусціць і вычысціць стаў у парку, абшукаць увесь хмызняк вакол замка. Але незалежна ад гэтага я перакананы, што маркізу забілі не шляхетным кінжалам, а самым прымітыўным нажом.

— Чаму вы так мяркуеце?

— Каб забойца карыстаўся кінжалам, ён біў бы ў сэрца, а ён рэзаў горла. Таму я лічу, што забіў прафесіянал.

— І што з гэтага вынікае? — спытаў дэ Прэль.

— А тое, што наўрад ці гэта Шарль Рамбэр,— значна вымавіў Жуў.

— Сапраўды,— пагадзіўся дэ Прэль.

— А цяпер, пан следчы, разгледзім матывы злачынства — мэты забойства.

— Вядома, рабаўніцтва.

— А што ён узяў? — спытаў камісар Жуў,— усе яе дыяменты засталіся. У пакоі шмат золата і срэбра. Нічога сабе злодзей, які не заўважае, не бярэ ані грошай, ані каштоўнасцяў.

— Вядома, дзіўна,— пагадзіўся следчы.

— Іншая справа, калі забойца — маньяк, вар'ят, які забівае бязмэтна. Цяпер мы можам звузіць кола падазроных,— прапанаваў Жуў.

— На мой погляд,— пачаў следчы,— старыя пакаёўкі Луіза і Мары па-за падазрэннем. Што ж тычыцца валацугаў, якіх мы арыштавалі, калі не

лічыць вас, камісар,— гэта безаблічныя, прымітыўныя істоты.

Жуў сцвярджальна кіўнуў галавою, і следчы казаў далей:

— Цяпер Далон. Можна пагадзіцца, што ён мае бясспрэчнае алібі: усю ноч ён праседзеў разам з урачом каля ложка хворай жонкі. Цяпер паглядзім на Эцьена Рамбэра. Эцьен Рамбэр а дзесятай увечары выехаў з вакзала пасажырскім цягнікам, які прыходзіць у Вар'ер раніцою. Усю ноч у цягніку — лепшага алібі не можа быць.

— Сапраўды, не можа,— пагадзіўся Жуў.— Такім чынам, застаецца толькі Шарль Рамбэр. Злачынства было здзейснена без адзінага гуку. Паглядзіце на гэтыя шрубы, яны проста выкручаныя. Забойца хацеў пераканаць нас, што дзверы былі выламаныя. Але мы разумеем, што маркіза дэ Лангрун ведала забойцу і сама адчыніла яму дзверы. Яна не здзівілася, калі ўбачыла яго, і пусціла да сябе ў пакой.

Жуў нечакана спыніўся, а потым пацягнуў следчага ў пакой Шарля Рамбэра. Ён зайшоў у ванны пакой і паказаў пальцам на цырату, разасланую на падлозе:

— Гэта кроў. Значыць, Тэрэзе не памроілася начная размова.

— Тут нічога не скажаш,— дэ Прэль схіліў галаву.— Гэта даказвае віну Шарля Рамбэра.

— Не, не даказвае! — рашуча сказаў Жуў.

— Пан камісар не жартуе? Як забойца трапіў у дом, калі дзверы былі замкнёныя?

— Па-першае, лёгка падрабіць ключ, а па-другое,— камісар дастаў з кішэні шматок карты, карты Тарыда з камплекта турыстычных схем асобных гарадоў Францыі,— гэта я знайшоў учора ўвечары на дарозе побач з замкам. Надзіва, гэты кавалак якраз з ваколіцы замка Бале.

— Нічога дзіўнага ў тым,— перапыніў яго следчы,— што ў нашым раёне знойдзены шматок карты нашага ж раёна... Вось калі б вы знайшлі ў каго рэшту карты, вось тады...

— Я займуся гэтым,— сказаў камісар Жуў.— Сёння раніцай каля чыгуначнага адхону я бачыў падазроныя сляды. Нагадаю пану, што перад тунелем у сувязі з рамонтам усе цягнікі спыняюцца. І таму можна незаўважна сысці, забіць і незаўважна сесці ў цягнік, гэта ж побач з замкам.

— У такім выпадку гэта быў не Шарль Рамбэр?

— Ёсць яшчэ адна, апошняя версія. Наўрад ці яна вам спадабаецца,— зноў загаварыў камісар Жуў.— Гэта злачынства ў Бале — дзіўнае, загадкавае і таямнічае. Гэта сапраўднае злачынства ў стылі... ФАНТАМАСА!

Дэ Прэль пацiснуў плячыма, калі пачуў ад паліцыянта гэтае знакамітае імя.

— Вось як! Я б ніколі не паверыў, што пан камісар пакліча на дапамогу Фантамаса. Фантамас — гэта занадта лёгкае выйсце, самы просты шлях растлумачыць злачынства. Між намі кажучы, я лічу, што Фантамас не існуе.

— Ніхто ніколі не лічыў мяне баязліўцам,— уздыхнуў Жуў.— Я бачыў смерць, і цэлыя банды зладзеяў кляліся забіць мяне. Мне пагражалі адпомсціць. Мне, камісару Жуву. Але ўсе, хто спрабаваў змагацца з Фантамасам,— мае сябры, усе загінулі. Фантамас існуе.

— То што, ён — д'ябал, гэты Фантамас? — перапыніў яго следчы.— Відаць, такі ж самы чалавек, як і ўсе?

— Так, гэта чалавек, але, паўтаруся, ён геній. У яго нейкі надзвычайны талент забіваць.

За спіною ў камісара пачуліся крокі, і ён азірнуўся: гэта быў задыханы паштар.

— Калі ласка, тэлеграма пану камісару.

Тэлеграма мела наступны змест:

«Тэрмінова вяртайцеся ў Парыж. За знікненнем лорда Белсома хаваецца жахлівае злачынства. Магчымы ўдзел Фантамаса».

## VII

## «Агенцтва «SOUTH STEAMSHIP CO...»

## (Паўднёвае параходнае агенцтва)

— Тут жыве пан Гурн?

Перад кансьержкай дома № 147 па вуліцы Левэр, пані Дуланк, стаяў цёмнавалосы мужчына з вялікімі вусамі, у мяккім капелюшы і паліто, зашпіленым на ўсе гузікі, каўнер узняты ледзь не да вушэй.

— Яго няма,— адказала кансьержка,— ён паехаў, ужо даўно.

— Я ведаю,— налягаў незнаёмы,— і ўсё ж, пані, я мушу прайсці ў ягоны пакой.

Мужчына апусціў руку ў кішэню, нібыта збіраўся паказаць ліст або пасведчанне, але не спяшаўся зрабіць гэта.

— А, зразумела! — апярэдзіла яго кансьержка.— Пан прыйшоў з агенцтва ўзяць рэчы? Нейкая дзіўная назва... Здаецца, ангельская.

Кансьержка выцягнула шуфляду, куды складала пошту, знайшла патрэбны праспект. Незнаёмы кінуў позірк на вокладку.

— Я з «South steamship co...»

— Сапраўды, «South...» — з цяжкасцю вымавіла кансьержка.— Язык зломіш... Аднак у вас не спяшаюцца. Пан Гурн сказаў, што за багажом прыйдуць праз некалькі дзён, а прайшло ўжо тры дні.— Пані Дуланк глянула ў акно.— Але вы без машыны, не ў руках жа вы панесяце чамаданы? — здзівілася яна.

— Зараз я нічога не буду браць. Мне трэба толькі паглядзець багаж.

— Калі трэба, цяжка ўздыхнула кансьержка,— гэта на шостым паверсе.

Кансьержка адамкнула дзверы кватэры. Інтэр'ер сціплы, але густоўны. Вокны выходзілі ў сад. Так што дапытлівых суседзяў можна было не баяцца.

— Трэба будзе праветрыць,— збянтэжылася кансьержка.

— Гэта пані Гурн? — незнаёмы заўважыў на каміне фотаздымак маладой жанчыны.

— Ён нежанаты.

— Сяброўка? — Мужчына ў мяккім капелюшы падміргнуў.

— Не зусім тое, што пан падумаў. Калі пан Гурн у Парыжы, яна бывае ў яго, але заўсёды ўдзень. Элегантная жанчына з вышэйшага свету. Заўсёды пад вэлюмам.

У дзвярах з'явіліся двое грузчыкаў.

— А вось і вашыя рабочыя. Прыйшлі за багажом? — спытала кансьержка.

Незнаёмы хацеў нешта сказаць, але адзін з грузчыкаў, не звяртаючы на яго ўвагі, назваўся:

— Мы абодва з «Паўднёвага параходнага агенцт-

ва», прыйшлі забраць рэчы пана Гурна. Два вялізныя чамаданы і пакункі.

— Як? — здзівілася пані Дуланк.— Вы не разам?

— Не, гэтага пана мы не ведаем. Давай бяры,— звярнуўся адзін грузчык да другога.

— Не,— сказаў незнаёмы,— вы нічога тут не возьмеце.

— Вось заказ, усё дакладна...

Грузчыкі падышлі да рэчаў.

— Бяром!

Пані Дуланк расхвалявалася і хацела выбегчы. Незнаёмы ў капелюшы рашуча ўзяў яе пад руку.

— Прашу не крычаць,— ціха сказаў ён.

Грузчыкі не вытрымалі:

— Якога д'ябла! Мы што, рабаўнікі? Трэба паклікаць паліцыю,— грузчык павярнуўся да свайго таварыша і сказаў: — Збегай за рог дома, прывядзі сюды паліцыянта. Няхай гэты пан спрачаецца пры ім...

...На сходах пачуліся цяжкія крокі. Наверх узняліся грузчык з паліцыянтам. Са з'яўленнем паліцыянта твары ва ўсіх змяніліся. Мужчына ў мяккім капелюшы падышоў да яго і, гледзячы ў вочы, назваўся:

— Крымінальная паліцыя! Камісар Жуў!

Кансьержка, напалоханая тым, што незнаёмы аказаўся камісарам, вырашыла папрасіць прабачэння:

— Каб я ведала, пан камісар...

— Каб вы ведалі,— усміхнуўся камісар,— усё роўна не далі б веры.

Жуў звярнуўся да грузчыкаў:

— Перадайце вашаму гаспадару, што я чакаю яго тут. І няхай возьме ўсе паперы, што тычацца пана Гурна... Зразумела?

Грузчыкі зніклі за дзвярыма. Камісар Жуў высоўваў шуфляды, зазіраў у шафы, пад сталы і адначасова распытваў кансьержку пра пана Гурна.

— Пан Гурн,— расказвала жанчына,— бландзін, сярэдняга росту, дужы, голены па ангельскай модзе, а наогул, звычайны чалавек.

Наўрад ці такі партрэт мог задаволіць паліцыю. Між тым Жуў загадаў паліцыянту сарваць замкі з чамаданаў, а сам ізноў звярнуўся да пані Дуланк:

— У пана Гурна была каханка?

— Але, пан камісар.
— Яна заставалася на ноч?
— Не, ніколі, пан камісар.

Раптоўна паліцыянт, які займаўся чамаданам, ускрыкнуў ад жаху. Жуў азірнуўся і схіліўся над чамаданам. Нягледзячы на тое, што служба прывучыла яго да ўсяго, ён міжволі здрыгануўся. У чамадане ляжаў труп. Пані Дуланк не вытрымала і самлела, паліцыянт кінуўся ёй на дапамогу. Праўда, труп выглядаў не так ужо і жахліва. Мужчына гадоў пад пяцьдзесят з рэзкімі рысамі твару, з высокім ілбом і залысінамі. Ен ляжаў у чамадане, падкурчыўшы ногі і сагнуўшы шыю. На ім быў шыкоўны гарнітур, і па ўсім было відаць, што ён належаў да вышэйшага свету.

— Скажыце, калі ласка,— Жуў звярнуўся да кансьержкі, калі тая нарэшце апрытомнела,— вы ведаеце гэтага чалавека?

— Я ніколі не бачыла яго.

Тут у пакой зайшоў малады чалавек з блакітнымі вачыма. Відавочна, англічанін. Ен назваўся:

— Вуланд, дырэктар «South steamship co...». Мяне прасілі прыйсці да пана Гурна.— Ен паважна і з гонарам увайшоў у пакой, але нечакана ўбачыў расчынены чамадан, а ў ім труп. Ягоны твар не змяніўся, па ўсім было відаць, што ён тыповы англасакс.

— Калі ласка,— папрасіў Жуў,— пакажыце мне ўсе дакументы, што тычацца транспарціроўкі рэчаў з кватэры Гурна.

— Вось ліст, які мы атрымалі з Лондана ад лорда Белсома. Ен просіць нас сёння забраць багаж з кватэры пана Гурна і адправіць на параходзе ў Іаханесбург, дзе ён збіраецца яго атрымаць.

— На чыё імя вы афармілі паперы?

— На імя лорда Белсома.

Жуў колькі хвілін моўчкі глядзеў паперы, потым заўважыў:

— Апошнім часам па Парыжы хадзілі розныя плёткі пра лорда Белсома. У прыватнасці, пра тое, што гэты даволі вядомы чалавек раптоўна знік.

— Я чуў пра знікненне лорда Белсома,— пацвердзіў Вуланд,— але вырашыў выканаць тыя ўказанні, што атрымаў ад кліента.

Вуланд ледзь прыкметна кіўнуў у знак развітання і скіраваў да дзвярэй, але Жуў ізноў звярнуўся да яго:

— Пан Вуланд, вы асабіста знаёмы з лордам Белсомам?

— Не, лорд Белсом заўсёды перадаваў свае загады пісьмова.

Камісар Жуў падзякаваў Вуланду і звярнуўся да паліцыянта:

— Памылкі не можа быць, нябожчык у чамадане не хто іншы, як лорд Белсом, я не раз бачыў яго. Але хто забойца? Усё сведчыць на тое, што забойца Гурн.— Потым ціха і заклапочана дадаў: — Магчыма, я губляю розум, але здзейсніць такое забойства ў самым цэнтры Парыжа і так спрытна заблытаць сляды... Усё гэта нагадвае мне стыль... ФАНТАМАСА!

## VIII

## Жахлівае прызнанне

Пакуль камісар Жуў займаўся расследаваннем новай справы ў Парыжы, у ваколіцы замка Бале падзеі разгортваліся далей. Шарля і Эцьена Рамбэраў яшчэ не знайшлі. Старая Шыкар і валацуга Бузіль скончылі палуднаваць. Старая ўзялася мыць посуд, а Бузіль пайшоў да ракі па ваду.

— Матуля Шыкар! — закрычаў Бузіль.— Сюды! Хутчэй! Здаецца, я зарабіў дваццаць пяць франкаў!

Цікаўная ад прыроды старая Шыкар спусцілася да ракі. Бузіль стаяў па пояс у вадзе. Доўгім кіем ён падганяў штосьці да берага, але плынь была імклівая. Праз колькі часу, увесь мокры, Бузіль выцягнуў на бераг нешта цяжкае. Заінтрыгаваная, старая Шыкар наблізілася і раптоўна ўскрыкнула ад жаху. Бузіль выцягнуў з ракі нябожчыка! Відовішча было жахлівае: юнак, худыя доўгія ногі і рукі, адна нага практычна адарваная, распухлы, знявечаны да непазнавальнасці твар. З ран тырчалі вялікія кавалкі збуцвелага дрэва.

— Відаць, хлопец трапіў пад кола вадзянога млына,— сказаў Бузіль.

— А раптам зноў забойства? — занепакоілася старая.

— Я яго не ведаю, гэта дакладна.

— Вядома, нетутэйшы,— пагадзілася старая.— І апрануты як гарадскі.

— Лепш скінуць яго назад у ваду,— рашуча сказаў Бузіль.

— Нельга! — спыніла старая Шыкар.— Нас нехта мог заўважыць. Лепш паведаміць у жандармерыю.

Бузіль сеў на ровар і паехаў у Сэн-Жары.

У першы дзень Новага года камісар Жуў не выходзіў з дому. Ягоныя думкі былі цалкам занятыя таямнічымі забойствамі. Справа лорда Белсома! Справа маркізы дэ Лангрун! Фантамас! Дзе ён зараз, гэты Фантамас? І чым ён можа займацца першага студзеня? Нечаканы званок у дзверы прымусіў яго спахапіцца. Паштар прынёс тэлеграму:

«У рацэ каля замка Бале знайшлі труп маладога чалавека, твар знявечаны да непазнавальнасці. Па некаторых прыкметах, гэта Шарль Рамбэр. Тэлеграфуйце адказ. Следчы дэ Прэль».

Знявечаны труп. Тапелец. Няўжо гэта сапраўды Шарль Рамбэр?

Зноў пачуўся званок у дзверы. Перад Жувам з'явіўся сам Эцьен Рамбэр. Стомлены, змучаны, ён трымаў у руцэ вячэрнюю газету, якую ад хвалявання паспеў ужо скамячыць.

— Пан камісар, няўжо гэта праўда? Тое, што я прачытаў?

Жуў узяў газету і прачытаў прыкладна такі самы тэкст, як і ў тэлеграме следчага.

— Чаму вы прыйшлі да мяне, пан Рамбэр? — знарок абыякава спытаў камісар.

— Я хачу ведаць! — Эцьен Рамбэр узняў рукі.

— Што ведаць?

— Гэты тапелец — мой сын? Мой бедны Шарль?

— Я сам хачу ведаць гэта.

Эцьен Рамбэр некаторы час вагаўся, нарэшце наважыўся:

— Злітуйцеся над бацькам, пан камісар! Я мушу расказаць нешта жахлівае...

## IX

# Гонар вышэй за ўсё

Ахоўнік перад будынкам суда не мог ачомацца ад здзіўлення. Такой навалы брычак і карэт на гарадскі пляц яму яшчэ ніколі ў жыцці не даводзілася бачыць. Ён адчуваў значнасць моманту.

«Калі з-за гэтага судовага працэсу ўсе так заварушыліся, то адбываецца нешта незвычайнае»,— разважаў ён.

Сапраўды, уся грамадскасць горада сабралася каля будынка суда, дзе пачыналася судовае дазнанне. У судовай зале людзі віталіся і паводзілі сябе вельмі стрымана, напаўголасу абменьваючыся ўражаннямі. Настроены былі ўсе добразычліва і спачувальна. Паступова ў зале ўсталявалася цішыня.

— Мілая Тэрэза,— вымавіла баранеса де Вібрэ, ласкава нахіліўшыся да дзяўчыны, якая ў сваім жалобным строі выглядала асабліва бледнай.— Ты так саслабела. І чаму ты думаеш, што абавязкова мусіш прысутнічаць на гэтым жахлівым працэсе?

— Гэта мой абавязак,— адказала Тэрэза Авернуа.— Усё гэта мае адносіны да забойства маёй бабулі.

Нечакана, быццам электрычны разрад прайшоў па судовай зале, усе раптоўна сціхлі. З'явіўся Эцьен Рамбэр. Ён сеў на прызначаную яму лаву, поруч з адвакатам.

Расчыніліся дзверы, і адзін за адным прысяжныя занялі свае месцы. З'явіліся нетаропкія, сур'ёзныя і ўрачыстыя суддзі. Сакратар абвясціў пачатак судовага пасяджэння і зачытаў абвінаваўчае заключэнне.

— Слухаецца крымінальная справа...

Эцьен Рамбэр, нібы расціснуты цяжарам успамінаў, сядзеў, абхапіўшы галаву рукамі. Са здранцвення яго вывеў пранізлівы голас старшыні суда:

— Падсудны, устаньце!

Эцьен Рамбэр падняўся і скрыжаваў рукі на грудзях. На ўсе пытанні ён адказваў гучным, але безжыццёвым, замагільным голасам.

— Такім чынам,— вымавіў суддзя,— вы абвінавачваецеся ў тым, што дапамаглі ўцячы вашаму

сыну, Шарлю Рамбэру, які праходзіць у нас па справе маркізы дэ Лангрун і падазраецца ў яе забойстве. Вы абвінавачваецеся таксама ў тым, што, жадаючы пазбегнуць публічнай ганьбы, забілі свайго сына, цела якога было знойдзена ў рацэ.

Эцьен Рамбэр абурыўся:

— Пан суддзя, я пратэстую супраць такога выкладання фактаў. У абвінаваўчым заключэнні сказана, і магло быць сказана, толькі тое, што я здзейсніў справядлівы прысуд і пакараў забойцу, якога я не мог перадаць у рукі кату. Але ніякіх супрацьзаконных дзеянняў я не рабіў. Я ўпэўнены, шмат хто ў гэтай зале разумее і падтрымлівае мяне.

— Давайце паразважаем пра вашы паводзіны,— такая апеляцыя да залы не спадабалася судоваму старшыні.— У той момант, як вы вырашылі, што ваш сын забойца, і калі знайшлі акрываўлены ручнік як сведчанне ягонае віны, чаму вы, як сумленны чалавек, не падумалі пра тое, каб перадаць злачынцу правасуддзю, а, наадварот, далі яму ўцячы.

— Пан старшыня, бацькоўскі абавязак не ў тым, каб выдаваць сваё дзіця.

— Добра, пойдзем далей,— працягваў суддзя.— Раскажыце падрабязна, што вы рабілі, як уцяклі з замка?

— Мы рабілі тое, што робяць усе ўцекачы. Хаваліся ў лесе.

— Колькі дзён?

— Чатыры дні.

— Вы забілі яго на чацвёрты дзень?

— Я не забіваў свайго сына. Хаця ведаў, што поруч са мною забойца!

Суддзя паціснуў плячыма:

— Вы прызнаеце, што забілі яго?

— Не прызнаю. Я зрабіў тое, чаго вымагала маё сумленне!

Старшыня ўзняў руку, усталявалася цішыня.

— Спадзяюся, прысяжныя належным чынам успрымуць вашыя ўчынкі... Вы, відаць, нешта параілі сыну?

— Я не мог здрадзіць майму сыну. Я мог зрабіць толькі адно: прымусіць падумаць пра яго ганьбу, я ўмольваў яго знікнуць назаўсёды.

— Вы прызнаеце, што раілі яму скончыць жыццё самагубствам?

— Я раіў яму ўцячы за мяжу.

— Як вы разышліся?

— У апошнюю ноч мы заснулі проста ў полі. Гэта было на беразе Дардані. Раніцой я прачнуўся адзін... Ён... мой сын... знік. Больш я нічога не ведаю.

— Тады чаму праз колькі дзён вы прыйшлі да камісара Жува і адразу спыталі, што яму вядома пра труп вашага сына? — старшыні зноў давялося ўтаймоўваць залу.— Вы не вагаліся, Рамбэр! Вы ведалі, што гэта труп менавіта вашага сына! Як вы даведаліся пра гэта?

— Панове,— Эцьен Рамбэр звярнуўся да прысяжных,— я больш не магу... Я не магу адказаць... Вы ведаеце дастаткова, каб вынесці прысуд.— Небарака апусціўся на лаўку, ён не мог болей нават стаяць.

У зале шапталіся. Публіка не хавала сваёй прыхільнасці да падсуднага.

— Пераходзім да апытання сведак,— гучна абвясціў старшыня.

Перад судом прайшла доўгая чарада сведак: сяляне, якія бачылі Рамбэраў, хлебапёк, які прадаваў ім хлеб, але гэтыя сведкі нічога істотнага не дадалі.

Тым часам старшыня звярнуўся да прысяжных:

— Вялікую цікавасць, несумненна, выклікаюць паказанні камісара Жува, але яны выкладзены ў пратаколе, з якім усе азнаёміліся. Таму я не выклікаю яго. Бачу ў зале паненку Тэрэзу Авернуа, унучку маркізы дэ Лангрун. Гэтая дзяўчына чула, як падсудны спрабаваў дамагчыся прызнання ў сына ў тую ноч, калі яны ўцяклі з замка. Але я лічу, што будзе залішне жорстка зноў выклікаць яе. Аднак мушу ўдакладніць адзін важны для нас момант. Паненка Тэрэза Авернуа, выйдзіце, калі ласка, да трыбуны сведак.

Да дзяўчыны падышоў памочнік суддзі, і Тэрэза выйшла да трыбуны.

— Скажыце,— пачаў суддзя,— ці той гэта чалавек, размову якога з Шарлем Рамбэрам вы чулі ноччу ў суботу ў замку Бале, перад вамі?

— Так, гэта Эцьен Рамбэр.

— Як вы лічыце, калі меркаваць па той размове, ці быў у яго намер забіць сына?

— Я магу сказаць толькі тое, што пан Рамбэр быў моцна ўсхваляваны, і я разумею яго пакуты.

Покуль Тэрэза вярталася на сваё месца, старшыня звярнуўся да прысяжных:

— Слова мае пан пракурор рэспублікі.

Прамова пракурора была складзена па-майстэрску, але ў ёй бракавала доказаў. Пракурор абвінавацію Эцьена Рамбэра ва ўзурпацыі права правасуддзя, ва ўтойванні забойцы і ў забойстве. Следам за пракурорам падняўся адвакат падсуднага. Ягоныя доказы завяршылі судовае расследаванне. Старшыня і члены суда пакінулі залу, каб вынесці свой вердыкт. Эцьена Рамбэра двое жандараў таксама вывелі [redacted] залы. Амаль усе былі на баку падсуднага. У чаканні прысуду кожны меркаваў — якім ён будзе?

Прагучаў званок. Вярнуліся прысяжныя, занялі свае месцы. У цішыні падняўся старшыня прысяжных:

— Перад богам і людзьмі прысяжныя аднагалосна адказалі «не» на ўсе пытанні.

Гэта было поўным апраўданнем Шарля Рамбэра.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## X

## Княгіня Соф'я прымае ванну

Перад парталам гатэля спыніўся шыкоўны аўтамабіль. Адміністратар Луі пачціва схіліўся.

— Вы пойдзеце да сябе? — спытаў ён ветліва ў княгіні, калі яна выйшла [redacted] машыны.

Тая ледзь заўважна кіўнула.

— Ліфт для пані Соф'і Данідавай.

Цень лёг на падлогу хола. Праз імгненне княгіня знікла ў кабіне. Ліфт пайшоў угору.

Княгіня Соф'я займала ў гатэлі «Раяль-Палац» нумар з чатырох пакояў на чацвёртым паверсе. На такую раскошу яна мела права двойчы. Уладальніца вялікай маёмасці і багаццяў, яна да таго ж належала да вышэйшай арыстакратыі: шлюб з князем Данідавым рабіў яе стрыечнай сястрой расійскага імператара. Княгіні Соф'і толькі споўнілася трыццаць, яе блакітныя вочы надзіва прыемна кантраставалі з цяжкімі чорнымі косамі, яна была надзвычай прыгожай і чароўнай. Трымалася свецкага ладу жыцця

і не меней як паўгода праводзіла ў Парыжы, дзе спынялася па-амерыканску ў «Раяль-Палацы».

Княгіня Соф'я мінула вялікую гасцёўню свайго нумара і зайшла ў спачывальню. Яна павярнула ўключальнік на сцяне, пырснула святло.

— Надзін! — паклікала яна нізкім голасам.

З невысокай канапы, што стаяла ў куце, адразу ж падхапілася маладая дзяўчына — відаць, княгіня пабудзіла яе.

— Надзін, памажы мне распрануцца,— загадала княгіня,— і прывядзі да ладу мае валасы, я стамілася.

— Прахалодны вечар, ці не так, княгіня? — рызыкнула спытаць дзяўчына ў гаспадыні і накінула ёй на плечы шырокі пеньюар.

Надзін была чаркешанкай: зграбная, рухавая брунетка, з донцаў блакітных вачэй прабівалася прыхаванае полымя.

Надзін яшчэ марыў сон, і яна неасцярожна правяла грэбенем па валасах.

— Цішэй ты! — ускрыкнула княгіня і раз'юшана хвастанула дзяўчыну па шчацэ.

Надзін адскочыла, вочы яе бліснулі нянавісцю.

— Я не прывыкла, каб мяне білі!

Княгіня здзіўлена паглядзела на яе.

— Надзін, на калені! — загадала яна.— Прасі прабачэння або сыходзь прэч!

Надзін кінулася ў ногі да княгіні, тая, задаволеная, ласкава падняла яе.

— Добра,— сказала яна.— Я ўжо не сярдую, а цяпер я мушу пабыць адна!

— Я прашу дазволіць мне застацца. Я хацела б дапамагчы.

— Не,— адказала княгіня,— ідзі да сябе.— Але адразу ж перадумала, кранула лоб рукою: — Хаця, добра, падрыхтуй ванну.

Праз колькі хвілін княгіня Соф'я распранулася і сабралася ўжо легчы ў ванну, але раптоўна вярнулася ў спачывальню.

— Надзін,— паклікала яна,— ты яшчэ тут?

Ніхто не азваўся.

— Мне падалося, што нехта ходзіць,— сказала сама да сябе княгіня,— але, відаць, сапраўды прымроілася.

Яна абышла спачывальню, зазірнула і ў ярка

асветленую гасцёўню, потым вярнулася да свайго ложка, агледзела, ці спраўны шчыток са званкамі, з дапамогаю якіх яна магла выклікаць да сябе кожнага супрацоўніка гатэля і асабістую прыслугу. Супакоіўшыся, маладая жанчына вярнулася ў ванны пакой, скінула пеньюар і зайшла ў водарную ваду. Ванны пакой асвятляла лямпачка ў маціцовым шкляным плафоне. Соф'я ўпівалася ў вадзе асалодаю, з задавальненнем прыслухоўвалася да таго, як адпачывае яе цела, калі ізноў пачуўся шоргат. Княгіня знерухомела, потым рэзка выпрасталася, азірнулася, да паловы паднялася з вады,— нікога...

Яна разгарнула кнігу, пачала чытаць, і тут у яе над галавой прагучаў дзіўны кплівы голас: той, хто быў за яе плячыма, уголас прачытаў сказ з разгорнутай кнігі. Княгіня не паспела ані ўскрыкнуць, ані зварухнуцца, ёй шчыльна зашчамілі рот, а руку, што пацягнулася да званка, сціснулі, нібыта абцугамі. Яна чакала, што на яе вось-вось абрынецца жахлівы ўдар або якая-небудзь страшная зброя рассячэ яе цела, але адчула, што рот яе ўжо вольны. Невядомы абышоў ванну і стаў перад ёю. Княгіня ўзняла позірк. Гэта быў мужчына гадоў каля сарака, элегантна апрануты. Калі меркаваць па ягоным адмыслова пашытым смокінгу, ён наўрад ці быў тыповым парыжскім злодзеем. Рукі, якія толькі што сціскалі яе, былі белыя і дагледжаныя, шляхетны твар, чорная падстрыжаная барада, высокі лоб з залысінамі. Аднак праз меру вялікая галава і глыбокія зморшчыны, што перасякалі яго лоб, непрыемна здзіўлялі кожнага, хто глядзеў на гэтага чалавека. У Соф'і задрыжэлі вусны. Княгіня памкнулася да званка, устала з вады па пояс, дэманструючы пяшчотнааголеныя грудзі.

— Божа літасцівы! Якая дасканаласць! Пані! — прамовіў дзіўны наведвальнік.

Княгіня Соф'я зноў схавалася ў ваду.

— Што пану тут трэба? Я паклічу паліцыю!

— Адзін гук — і пані загіне! — строга сказаў невядомы. І кпліва заўважыў: — Каб пазваніць, давядзецца высунуцца з вады. На жаль, я не змагу гэтага дазволіць, але, шчыра кажучы, такое відовішча прыйшлося б мне даспадобы...

Княгіня перапыніла яго:

— Калі пану патрэбны грошы і каштоўнасці, няхай забірае. А потым сыходзіць!

Мужчына кінуў позірк на пярсцёнкі і бранзалеты, якія княгіня, перад тым як увайсці ў ваду, паклала на столік.

— Няблага, але пярсцёнак на руцэ — лепшы.

Ён узяў княгініну руку і сціснуў у сваёй. Жаночая рука дрыжэла.

— Нашто так хвалявацца? Лепш пагаворым,— прапанаваў ён.— У каштоўнасцях няма нічога прывабнага, калі яны пазбаўлены сваёй індывідуальнасці, калі яны адасоблены ад таго, хто іх звычайна носіць. Напрыклад, бранзалет, які аблягае руку, пярсцёнак на пальцы...

Княгіня Соф'я, белая як смерць, спрабавала здагадацца, да чаго хіліць гэты таямнічы наведвальнік.

— Я не магу аддаць пярсцёнак, ён не здымаецца.

Мужчына з'едліва засмяяўся:

— Магу запэўніць, ці зможа пані зняць пярсцёнак, ці не, гэта не мае ніякага значэння: мне зрабіць такое няцяжка.

Мужчына нядбайна апусціў руку ў кішэню, дастаў маленькую брытву-складанчык, расклаў і паднёс бліскучае лязо пад самы твар княгіні. Яна глядзела на яго шырока вырачанымі ад жаху вачыма.

— З такім вострым лязом,— дадаў ён,— чык — і пальчыка няма, і разам з ім гэты цудоўны пярсцёнак пяройдзе да мяне... Княгіня,— сказаў ён спакойна і ласкава,— не варта трымцець, іду ў заклад, пані мяркуе, што я рабаўнік. І з чаго б толькі княгіні так думаць? Магу запэўніць, пані такая прыгожая, што мужчыны вар'яцеюць і робяць непрадказальныя ўчынкі.

Незнаёмы казаў шчыра і з непадробнай павагай, так, што княгіня збольшага супакоілася.

— Але ж мы не ведаем адзін аднаго,— сказала яна.

— Гэта да лепшага! — адказаў незнаёмы, падсунуў да сябе нагой невысокае крэсла, сеў, апёрся на край ванны.— У нас дастаткова часу, каб пазнаёміцца. Я ведаю пані, а гэта асноўнае.

— Не ведаю, жарт гэта ці не, але паводзіць пан сябе жахліва,— перапыніла яго Соф'я. Страх праходзіў, і нянавісць узрастала.

— Арыгінальнасць, толькі арыгінальнасць, княгіня, мяркую, не памылюся, калі скажу: калі б нас пазнаёмілі ў адным з салонаў, дзе мы часам

былі разам, наўрад ці пані звярнула б на мяне больш увагі, чым сёння. А зараз пані так пільна і дакладна вывучае мой твар, што запомніць яго назаўсёды.

Княгіня праз сілу паспрабавала ўсміхнуцца.

— Мне прыемна, княгіня, што мы пачынаем давяраць адзін аднаму, так справа пойдзе хутчэй.

Княгіня адмоўна пахітала галавой.

— Пойдзе, пойдзе,— запэўніў ён.— Вось ужо пяць хвілін, як пані не спрабуе больш званіць і клікаць на дапамогу, гэта прагрэс. Да таго ж мне цяжка ўявіць, што княгіня, жонка вялікага камергера, кузіна расійскага імператара, пакліча сюды ўсю гатэльную чэлядзь, каб гэтае быдла ўбачыла яе ў ванне поруч з незнаёмым мужчынам. Плёткі пра такія прыгоды абавязкова пачуе князь Данідаў.

— І ўсё ж,— з трывогай прамовіла княгіня,— як пан сюды трапіў?

— Зараз гэта не мае значэння. Зараз важнейшае, як я адсюль выйду... Я не збіраюся злоўжываць гасціннасцю, аднак спадзяюся наведацца сюды і заўтра ўвечары.

— Толькі не гэта!

Незнаёмы, быццам незнарок, апусціў руку ў ваду і выняў адтуль тэрмометр-патапок.

— Трыццаць градусаў,— сказаў ён,— ванна астывае, давядзецца выходзіць, княгіня.

Соф'я не ведала, ці то ўсміхнуцца, ці то заплакаць. А мо ён вар'ят? Або закахаўся ў яе?

— Прэч!

Мужчына адмоўна пахітаў галавой.

— Злітуйцеся,— маліла яна.

Незнаёмы задумаўся.

— Што ж нам рабіць? — разважаў ён.— Мы мусім хутчэй шукаць выйсце, бо, баюся, пані пераахалодзіцца. Спадзяюся, пані добра арыентуецца ў сваім ванным пакоі і нават навобмацак знойдзе пеньюар? Я нікуды не сыду, але згашу святло, у цемры можна выйсці з ванны, і сорам больш не будзе замінаць нашай размове.

Незнаёмы падаўся да выключальніка, але вярнуўся.

— Забыўся на званок, да яго лёгка дацягнуцца, часам можна выпадкова націснуць, а потым давядзецца шкадаваць.— Мужчына ўзмахнуў лязом і абрэзаў абодва драты.— Вось і ўсё,— сказаў ён.—

Але я бачу яшчэ адзін дрот, вось тут, уздоўж сцяны... А што, калі гэта другі званок?

Незнаёмы яшчэ раз узмахнуў лязом, але ў той момант, калі брытва кранула ізаляцыю, бліснула электрычная іскра, мужчына адскочыў.

— Халера! Я апёк сабе руку. Пані гэтаму ўзрадуецца.

Соф'я ўстрывожана глядзела на яго.

— Не варта хваляваца,— сказаў незнаёмы.— Наша ўмова яшчэ не скасавана.

Ен павярнуў уключальнік.

Соф'я ўстала ў поўны рост у ванне, абвяла рукою ў цемры, баючыся сустрэць перашкоду. Але рука сустрэла пустату. Княгіня ступіла на падлогу адной нагою, потым другой, нарэшце кінулася да крэсла і паспешліва накінула пеньюар, сунула ногі ў пантофлі, на хвіліну знерухомела, потым, наважыўшыся, запаліла святло. У ванным пакоі нікога не было. Соф'я пайшла ў спачывальню. У глыбіні пакоя ўбачыла задаволенага госця.

— Трэба пагадзіцца, княгіня, я паводзіў сябе больш чым галантна.

— Жарт зацягнуўся,— сказала Соф'я.— Я патрабую — прэч!

— Патрабую? — перапытаў мужчына.— Я не люблю, калі са мною так гавораць. Але пані дарую, бо я не назваў сябе. Але чаму пані мяне не слухае?

Княгіня Соф'я на самой справе больш не слухала. Яна згадала, што на сакрэтніку, які стаяў паміж ёю і незнаёмым, ляжаў рэвальвер з перламутравай інкрустацыяй. Княгіня выдатна валодала зброяй і цяпер вырашыла, што, калі яна схопіць рэвальвер, ёй будзе лягчэй паразумецца з госцем. Да таго ж у адной з шуфлядаў сакрэтніка ляжаў партманет, а яго начынне складала 120 000 франкаў. Шуфляда сакрэтніка была крыху высунута, і княгіня трывожна падумала: ці на месцы партманет, ці не звычайны злодзей яе таямнічы залётнік?

— Я тут, княгіня, заўважыў адну рэч, якую не заўсёды сустрэнеш у жаночых апартаментах!

Жанчына рушыла да сакрэтніка, але госць апярэдзіў яе і схапіў рэвальвер. Соф'я жахнулася, адскочыла назад.

— Не варта палохацца,— супакоіў яе.— Я не збіраюся рабіць замах на жыццё.— Адным рухам ён

вылушчыў усе шэсць набояў з барабана і пачціва перадаў княгіні абясшкоджаную зброю. — У мае планы не ўваходзіць забойства.— Нечакана ён выняў з кішэні гадзіннік.

— Ужо другая гадзіна ночы! — адзначыў ён.— Як позна! Іду, іду. Але не хочацца знікаць ані праз акно, ані праз комін, ані праз патаемныя дзверы ў сцяне, нібыта я злодзей з казкі. Лепш выйду, як джэнтльмен,— я ж заходзіў выказаць сваё шанаванне цудоўнай жанчыне праз дзверы!

Княгіня міжволі зірнула ў сакрэтнік, у якім, вядома, не было ўжо партманета. Што ей цяпер рабіць?

— Дарэчы, я ж не назваўся,— незнаёмы дастаў з кішэні візітоўку і абапёрся на сакрэтнік.— Спадзяюся, пані дазволіць мне пакінуць сваю візітоўку вось у гэтай шуфлядзе?

Незнаёмы кінуў у шуфляду кардонную картку.

— Ну, а зараз,— сказаў ён,— покуль я не выйду за дзверы, каб ціха было, бо заб'ю.

Пад гіпнатычным позіркам незнаёмага княгіня Соф'я адступіла ў перадпакой, з намаганнем перакруціла ключ у замку, прачыніла дзверы. Незнаёмы бокам прайшоў у іх і праз імгненне знік. Соф'я адразу ж кінулася ў спачывальню і пачала націскаць усе званкі. Нарэшце ўспомніла пра перацяты дрот і патэлефанавала швейцару, што дзяжурыў на выхадзе з гатэля:

— Мяне абрабавалі. Нікога не выпускаць!

У дзяжурцы на ўсіх паверхах тужліва прагучаў сігнал трывогі. На калідоры пачуліся беганіна, галасы. Княгіня расчыніла дзверы:

— Спыніце яго! Спыніце! Ен толькі што выйшаў адсюль: мужчына, чорная барада, смокінг!

— Вы куды? Што здарылася? — хваляваўся швейцар на выхадзе з гатэля.

— Дакладна не ведаю. Некага абрабавалі. Наверсе нейкія крыкі,— адказаў калідорны, які выбег з ліфта.

— А ты сам з якога паверха? — спытаў швейцар.

— З трэцяга.

— Тады, відаць, крычаць на чацвёртым... Трэба даведацца, што здарылася.

Калідорны, старанна паголены руды бамбіза, зноў зайшоў у ліфт. Кабіна ўзнялася на чацвёрты паверх.

Мюлер, дзяжурны па паверсе, спрабаваў супакоіць княгіню. Яна трымала ў руках тую самую візітоўку, якую яе дзіўны госць пакінуў замест партманета са ста дваццаццю тысячамі франкаў. Папяровая картка была чыстая — ні імя, ні прозвішча.

— Ну што? — спытаў Мюлер у рудога хлопца, які выходзіў з ліфта, і, калі зразумеў, што ягоны твар яму не знаёмы, дадаў: — Ты адкуль?

— Я новы, з трэцяга паверха. Швейцар паслаў мяне дазнацца, што тут адбываецца.

— Абрабавалі княгіню,— сказаў Мюлер.— Трэба хутчэй прывесці паліцыю.

— Я пабег.

Праз хвіліну калідорны з трэцяга паверха быў зноў на нізе і прыспешваў швейцара:

— Хутчэй! Мне загадалі бегчы ў камісарыят.

Швейцар выпусціў яго на вуліцу.

Тым часам паспелі пабудзіць адміністратара гатэля Луі. Ён пабег на чацвёрты паверх. Па дарозе яго спыніла баранеса Ван дэн Розен:

— У мяне ўкралі дыяментавыя каралі!

Да іх падбег Мюлер:

— Я загадаў нікога не выпускаць з гатэля. Так што злодзей нікуды не падзенецца!..

Тут з'явіліся дзве пакаёўкі з шостага паверха. Разгубленыя, яны неслі вопратку і фальшывую бараду з парыком, якія знайшлі ў ліфце. Яны паклалі іх на падлогу перад Луі. Мюлер адразу западозрыў няндобрае:

— Які з выгляду новы калідорны з трэцяга паверха?

Тут да іх падышоў яшчэ адзін калідорны: мужчына ў гадах, лысы, з белымі бакенбардамі.

— Дык вось ён. Яго імя Арнольд,— здзівіўся Луі.

— Халера! — вылаяўся Мюлер.— А руды хлопец?

— Руды? — перапытаў Луі і адмоўна пакруціў галавой.— Рудых у нас наогул няма.

Мюлер збег па сходах.

— Хто-небудзь выходзіў? — спытаў у швейцара.

— Ніхто,— адказаў,— апроч калідорнага з трэцяга паверха. Вы паслалі яго па паліцыю.

— Руды?

— Руды,— пацвердзіў швейцар.

Княгіня напаўляжала ў фатэлі і ўсё яшчэ трымала ў руках візітоўку. Нібы загіпнатызаваная, княгіня глядзела на яе, вочы яе шырока раскрыліся ад жаху. На кардонцы, да гэтага спрэс белай, паступова пачалі з'яўляцца знакі, літары, і княгіня прачытала:

— Фан... та... мас!

ФАНТАМАС!!!

## XI

## Следчы і паліцыянт

Судовы следчы Фузілье спыніўся пасярод свайго кабінета ў Палацы Правасуддзя. Далікатны грукат у дзверы перапыніў ягоны роздум. Дзверы прачыніліся. Фузілье пазнаў наведвальніка і шчыра прывітаўся:

— Гэта мой дарагі камісар Жуў! Рады бачыць пана! Нарэшце!

— Пан Фузілье,— адказаў Жуў,— цудоўна ведае, як я да яго стаўлюся. Але зараз шмат працы і мала часу.

— Поспехі паліцыі ані ў кога не выклікаюць сумненняў.

Камісар Жуў махнуў рукою:

— Не разумею, пра што гаворка.

— Што новага па справе лорда Белсома? — спытаў Фузілье.

— Нічога. Я кручуся на адным месцы.

— Але ж лорда знайшоў менавіта сам камісар.

— Знайшоў, толькі што з таго?

— Гэта ж выдатна, дарэчы, растлумачце, як прыйшло на думку зазірнуць у чамадан пана Гурна?

— Усё вельмі проста, пан Фузілье. Пасля таго як знік лорд Белсом, я адразу здагадаўся, што мы сутыкнуліся са злачынствам. Неўзабаве я даведаўся, што пад час вайны ў Трансваалі лорд пазнаёміўся з англічанінам Гурнам... Вядома, я вырашыў сустрэцца з гэтым Гурнам.

— Пан камісар залішне сціплы! — сказаў Фузілье.

— Мне толькі пашанцавала,— не згадзіўся Жуў.

— А калі агледалі труп,— усміхнуўся Фузілье,— таксама пашанцавала? Вы дазналіся, што

лорду Белсому ў жылы быў уведзены сульфат цынку, такім чынам цела забальзамавалі, каб прыпыніць распад.

— Я проста быў уважлівы, не больш за тое,— ізноў запярэчыў камісар.

— Як пан мяркуе, хто забіў маркізу? Ці вінаваты Эцьен Рамбэр? Ці справядлівы прысуд?

— Пан Фузілье,— сказаў камісар Жуў,— каму іншаму я не адказаў бы, а калі па-сяброўску, то справа дэ Лангрун яшчэ не скончана, і покуль нельга казаць што-небудзь пэўнае.

— То што, Шарль Рамбэр не забіваў?

— Я гэтага не казаў.

— Ну, добра, а Эцьен Рамбэр, ён не вінаваты ў смерці сына?

— І гэта магчыма.

— Пан камісар,— нарэшце сказаў Фузілье і паківаў пальцам,— ці не Фантамаса вы збіраецеся абвінаваціць у забойстве маркізы?

— Менавіта так.

— Мне здаецца, што вы ані пра кога іншага і думаць не можаце, паўсюль гэты Фантамас! Тады, мой шаноўны камісар, як можна было абмінуць і не зацікавіцца рабаўніцтвам у «Раяль-Палацы»?

— Гісторыя з Соф'яй Данідавай?

— ... і з Фантамасам!

— Наўрад ці, Фантамас ніколі не пакідае пасля сябе такіх слядоў. Не ягоны стыль.

— А калі Фантамас пажадаў падражніць паліцыю? Ці да такога ён не здатны?

— Я, пан Фузілье, мяркую інакш. Звычайны злодзей вырашыў згуляць у Фантамаса...

— Наўрад ці, пан камісар! Звычайны злодзей не здолее ўкрасці столькі дыяментаў і сто дваццаць тысяч франкаў. Тут Фантамасаў маштаб і галоўнае — нахабства!

— Я хачу ведаць падрабязнасці, пан Фузілье!

— Самае дзіўнае — гэта спрытнасць злодзея: ён абрабаваў княгіню, заскочыў у ліфт, пераапрануўся калідорным і паспрабаваў уцячы на вуліцу, але швейцар спыніў яго, толькі злодзей не разгубіўся, зноў сеў у ліфт, узняўся, падышоў да дзяжурнага Мюлера, ад якога атрымаў заданне папярэдзіць паліцыю. І цяпер ужо швейцар, падпарадкоўваючыся загаду дзяжурнага, выпусціў злодзея з гатэля. Рабаў-

нік, які мае такі спрыт, можа звацца толькі Фантамасам!

— Неабавязкова,— задумаўся камісар Жуў,— кожны злодзей-прафесіянал зрабіў бы тое ж самае.

— Але трэба было яшчэ мець пэўнасць, што ў нумары ёсць вялікая сума наяўных грошай, яму магла дапамагчы ў гэтым Надзін. Аднак нават калі ведаць, што грошы ёсць, трэба дазнацца, дзе яны схаваныя. Не сама ж княгіня паказала яму шуфляду сакрэтніка?

— Самае дзіўнае, што паказала! — камісар Жуў наблізіўся да Фузілье.— Княгіня кладзецца ў ванну, а рабаўнік дакладна ведае, як яму сябе паводзіць. Ён выходзіць з-за фіранкі, пагражае княгіні, запалохвае, потым супакойвае, прытвараецца закаханым. А потым фокус са святлом, і, магу запэўніць, не для таго, каб злітавацца над цнатлівасцю княгіні, а каб агледзець яе рэчы. Я маю пэўнасць, што, каб ён знайшоў грошы, то адразу ж уцёк бы... Але ён не знайшоў і застаўся ў спачывальні чакаць княгіню. Ён не ведаў яшчэ, дзе грошы, і таму ўважліва сачыў за кожным рухам княгіні, міжволі яе погляд спыніўся на сакрэтніку... Ён цудоўна зразумеў, што непакоіць ахвяру. Выцягнуў грошы і кінуў у сакрэтнік сваю візітоўку. Адзінае, што мы маем сёння, гэта тое, што злодзей, калі пераразаў электрычны дрот, моцна апаліў сабе далонь.

— Так,— пацвердзіў следчы.

## XII

## Удар у скроню

Полудзень у «Раяль-Палацы» заканчваўся. У вялікай зале мэтрдатэль гатэля казаў слугам:

— Вы ведаеце, я толькі што чуў размову паміж герцагам і герцагіняй дэ Вінжале. Яны казалі, што гэтыя рускія дамы не вартыя даверу, да таго ж гэтая гісторыя з ваннай. На мой розум, усё лёгка вытлумачыць, калі пашукаць сярод яе каханкаў.

За суседнім столікам таксама гаварылі пра крадзеж. Мюлер размаўляў з Анры Верб'е.

— Следчы каго-небудзь падазрае? — спытаў Анры.

— Нікога,— адказаў Мюлер.

— Выбачайце,— умяшаўся ў іх размову мэтрдатэль Луі,— паліцыя ўсё ж падазрае нашую мілую паненку Жанну.

Анры Верб'е павярнуўся да касіркі Жанны:

— Як паліцыя ўблытала вас у гэтую справу?

— Проста, раніцою ў той дзень я выдала княгіні сто дваццаць тысяч франкаў.

— У гэтым няма ніякага крыміналу,— адказаў Анры Верб'е.

— Вядома,— пагадзіўся Мюлер.

Не паспела касірка Жанна вярнуцца ў свой пакой на шостым паверсе, як да яе пагрукалі. У дзвярах з'явіўся Анры Верб'е.

— Я цяпер ваш сусед,— сказаў ён,— вось убачыў вас і вырашыў, што, можа, вы не адмовіцеся выпаліць егіпецкую цыгарэту?

— Што ж, ахвотна.

— Я чалавек сентыментальны і вельмі пакутую ў адзіноце. Надараюцца такія моманты, калі хочацца закахацца.

Жанна пагардліва зірнула на яго.

— Каханне — гэта глупства.

— Не, не глупства. Уявіце сабе, што мы закаханыя...— Маладая жанчына маўчала, і Анры Верб'е ўзяў яе за руку.— Гэта цудоўна. Я бяру вашу руку вось так і цалую яе. Пяшчотна, пяшчотна.

Жанна выслабаніла руку:

— Досыць,— закрычала яна.— Я не распусніца!

— Я і не казаў гэтага. Проста хацеў, каб мы трошкі пагрэліся,— Анры Верб'е падсеў бліжэй і прыгарнуў дзяўчыну да сябе, але яна імгненна вырвалася і нечакана перайшла ў наступ. Моцна ўдарыла ў скроню кулаком. Верб'е страціў прытомнасць і паваліўся на падлогу.

Праз колькі хвілін паненка Жанна прайшла побач са швейцарам і развіталася з ім:

— Я ненадоўга, крыху прайдуся.

Анры Верб'е неўзабаве апрытомнеў. У пакоі нікога не было. Дзверы былі замкнёныя. Ён кінуўся да акна, хацеў клікаць на дапамогу, але ўбачыў свой адбітак у люстэрку: на скроні была кроў.

— Як гэта я, камісар Жуў, дазволіў абвесці сябе вакол пальца жанчыне!

Але тут камісар — Анры Верб'е быў, вядома, загрыміраваны камісар Жуў — тупнуў нагою і вылаяўся:

— Так можа ўдарыць толькі мужчына...

## XIII

## Будучыня Тэрэзы

У шыкоўным, нядаўна набытым палацы па вуліцы Эжэна Флаша гаспадар Эцьен Рамбэр прымаў банкіра Барб'е. Мужчыны толькі што дакурылі цыгары і абмяркоўвалі фінансавыя справы.

— Як пан мяркуе наконт уральскай медзі? — спытаў Эцьен Рамбэр.

— Я думаю, будзе няблага набыць гэтыя акцыі,— адказаў банкір.

З паўгадзіны мужчыны зацікаўлена абмяркоўвалі свае справы.

— Пана, відаць, цікавіць,— сказаў Рамбэр,— адкуль я вазьму тыя дваццаць мільёнаў? Супакойцеся, яны ў мяне ёсць! Але папярэджваю: я буду кантраляваць усе банкаўскія аперацыі.

— Мне няма чаго ўтойваць,— сказаў Барб'е,— наадварот! Але, на жаль, я мушу ісці.

Калі цяжкія дзверы зачыніліся за банкірам, Эцьен Рамбэр выйшаў у гасцёўню. У прыцішаным каляровым абажурам святле свяцілася толькі белая сукенка Тэрэзы Авернуа. Пачуўшы крокі, Тэрэза азірнулася і выйшла насустрач Эцьену Рамбэру.

Пасля трагедыі ў замку Бале сябры і сваякі маркізы яшчэ мацней з'ядналіся. Баранеса дэ Вібрэ не супакоілася, покуль ёй не даверылі апекавацца над сіратою — Тэрэзай Авернуа. Баранеса перавезла Тэрэзу ў свой замак. Мінулі дні і тыдні — найлепшы лекар зрабіў сваю справу. Вясёлыя сябры запрасілі баранесу ў Парыж, і пасля доўгіх ваганняў яна разам з Тэрэзаю паехала туды, як меркавала, на тыдзень. З таго часу мінуў месяц. Баранеса не раз пакідала Тэрэзу ў Эцьена Рамбэра.

— Выбачайце, пан Рамбэр, што з-за мяне вы не можаце легчы спаць,— Тэрэза паклала руку на плячо Рамбэру.— Мне хацелася б застацца тут.

Эцьен Рамбэр далікатна вызваліўся з яе пяшчотных абдымкаў і пасадзіў на канапу.

— Я б таксама быў шчаслівы, каб ты жыла ў мяне, але, на жаль, гэта немагчыма. У свеце палічаць непрыстойным, калі маладая дзяўчына будзе жыць у мяне.

— Пана палічаць маім бацькам.

Пры слове «бацька» Эцьенаў твар змяніўся.

— Не забывай, Тэрэза, я «ягоны» бацька.

Тэрэза пачырванела, і Рамбэр усміхнуўся:

— Ведаеш, у мяне з'явілася адна ідэя. Сярод маіх знаёмых ёсць адна вельмі радавітая пані — англічанка з вышэйшага свету. Я з ёю ў цудоўных адносінах. Яна заможная і шмат часу аддае дабрачыннасці. Яе імя лэдзі Белсом.

Ад здзіўлення Тэрэза шырока расплюшчыла вочы.

— Лэдзі Белсом,— працягваў Рамбэр,— колькі месяцаў таму страціла мужа. Цяпер яна даручыла мне весці яе фінансавыя справы. У яе доме жыве шмат маладых дзяўчат. Усе яны з вядомых англьскіх сем'яў. Я скажу лэдзі Белсом, каб яна прыняла цябе да сябе. У цябе будзе вельмі прыемнае акружэнне, і я не сумняваюся, што лэдзі Белсом паапякуецца над тваім далейшым лёсам.

— Дарагі пан Рамбэр,— усхвалявалася Тэрэза,— зрабіце гэта дзеля мяне, дамоўцеся з лэдзі Белсом, тады я буду шчаслівая!

## XIV

## Паненка Жанна

Пасля таго, што здарылася ў «Раяль-Палацы», паненка Жанна адчувала страшэнную стому, аднак неўзабаве акрыяла і пастаралася хутчэй трапіць на вакзал. Яна ўзяла білет у другі клас. У Курселі яна раптоўна перадумала і сышла. Гадзіннік прабіў дванаццаць, калі з пляца Жанна рашуча скіравала на вуліцу Эжэна Флаша.

— Пана пытаецца нейкая жанчына,— абвясціў лёкай Эцьену Рамбэру.

Рамбэр чакаў баранесу дэ Вібрэ і таму загадаў:

— Хутчэй правядзі яе сюды!

Дзверы прачыніліся, і зайшла незнаёмая, яна адразу ж слізганула ў самы цёмны куток залы. Тэрэза заспяшалася ёй насустрач, але спынілася, бо не пазнала ў ёй сваю хросную маці — баранесу дэ Вібрэ.

— Мы, здаецца, незнаёмыя? — Эцьен Рамбэр таксама не пазнаў жанчыну. Але калі наблізіўся, ускрыкнуў:

— Божа літасцівы!

Зноў пачуўся званок. Гэтым разам у гасцёўню сапраўды зайшла баранеса дэ Вібрэ і заўважыла ў кутку незнаёмую жанчыну. Эцьен Рамбэр спачатку разгубіўся, але неўзабаве авалодаў становішчам і спакойна звярнуўся да незнаёмай:

— Зрабіце ласку, пачакайце мяне ў кабінеце,— ён правёў яе і адразу ж вярнуўся.

— Выбачайце, я стаміўся, апошнія дні шмат працаваў,— Рамбэр штучна ўсміхнуўся.

— Гэта з-за мяне, мы сыходзім,— сказала баранеса,— няхай пан кладзецца адпачываць.

Калі за жанчынамі зачыніліся дзверы, Рамбэр зайшоў у свой кабінет, замкнуў дзверы і кінуўся да незнаёмай.

— Шарль! — закрычаў ён.— Чаму ты тут?!

— Бацька,— адказала дзяўчына і села на канапу,— я больш не хачу, не магу, гэта невыносна!

— Так трэба! — уладна сказаў Рамбэр.— Я патрабую!

Жанна скінула з сябе цяжкі парык, расшпіліла гарсэт, пад кашуляй праступалі моцныя мускулы мужчынскага цела.

— Не! Я больш не магу! Толькі не гэта! — Шарль Рамбэр камячыў парык.

— Ты ж для ўсіх нежывы!

— Лепш мне і сапраўды памерці.

— Я ўратаваў цябе насуперак усім, рызыкуючы сабою, таму што лічыў цябе хворым... А ты...

— Я мушу ведаць, якім спосабам вы ўратавалі мяне. Адкуль узяўся тапелец?

— Я выпадкова заўважыў труп на рацэ, апрануў яго ў тваю вопратку, а ягоную закапаў. Табе знайшоў сукенку. А далей, Шарль, ты сам ведаеш, відаць, чытаў газеты: я сядзеў на лаве падсудных і не ведаў, што рабіць ад сораму.

— Дзіўнае супадзенне...— сумна сказаў Шарль.— Але не я забіў маркізу дэ Лангрун!

— Я забараняю называць гэтае імя! — Эцьен Рамбэр устаў.— Ты прыйшоў, толькі каб сказаць мне гэта?

— Я не магу больш!

— Здаецца, пачынаю разумець,— задумаўся Эцьен Рамбэр.— Так, цяпер разумею. У «Раяль-Палацы», дзе паненка Жанна выконвае адказную працу, адбыўся крадзеж. І калі хто раптам дазнаецца, што касірка — гэта Шарль Рамбэр...

— Я не краў!

— Краў! — рашуча сказаў Эцьен Рамбэр.

— Я не рабіў гэтага. Зноў, як у замку Бале, вы даймаеце мяне жахлівымі здагадкамі. Чаму вы так настойліва пераконваеце мяне, што я злачынца?

Рамбэр паціснуў плячыма:

— Ты аднекваешся, як дзіця, а мяне могуць пераканаць факты і толькі факты.

Страціўшы надзею пераканаць бацьку, Шарль Рамбэр маўчаў.

— Але калі ты тут,— нечакана зацікавіўся Эцьен Рамбэр,— калі ты прыбег да бацькі шукаць ратунку, то значыць — нешта здарылася?

— Колькі дзён таму ў гатэлі з'явіўся паліцыянт,— пачаў тлумачыць Шарль,— назваўся Анры Верб'е, але я адразу пазнаў яго. Гэта быў камісар Жуў.

— Жуў? — перапытаў Эцьен Рамбэр.

— Так, я пазнаў яго. Ен пад выглядам Анры Верб'е ўчыніў мне нешта накшталт допыту, а ўвечары прыйшоў да мяне ў пакой, узяў за руку і пачаў заляцацца. Я з усяе сілы ўдарыў яго кулаком, ён паваліўся, як нежывы, а я уцёк.

— Ен памёр? — спытаў Эцьен Рамбэр.

— Не ведаю.

Эцьен Рамбэр прынёс пакунак з рэчамі і аддаў Шарлю.

— Бяры, гэта мужчынская вопратка, апранайся і сыходзь.

## XV

## Змова з вар'яткай

Як пісалася ў рэкламных праспектах, неўралагічная лячэбніца ў Пасі дапамагала людзям у станеператамлення і пераўзбуджэння, а таксама хворым

з больш сур'ёзнымі формамі псіхічнага расстройства. Гэтую клініку наведаў лекар з Англіі Свелдзінг.

— Што ў нас тут цікавага? — перапытаў лекар Перэ лекара Свелдзінга.— У мяне тут ёсць адна хворая, яна падыходзіць пад ваш артыкул пра галюцынацыі. Пані Рамбэр, сорак гадоў, манія праследавання, беспадстаўная боязь.

— Цікавы выпадак. Як яна зараз?

— Ей лепш, а хворая лічылася безнадзейнай. Я нават даслаў ліст яе мужу, бо мушу атрымаць яго згоду, каб перавесці яе ў санаторый, але ён не адказаў. Баюся, што гэты Рамбэр не захоча забраць яе дамоў.

— Давайце наведаем яе,— сказаў лекар Свелдзінг.

У садзе на лаўцы сядзела немаладая жанчына і вышывала.

— Гэта пані Аліса Рамбэр,— прашаптаў лекар Перэ.— Яна ў мяне ўжо дзесяты год. Ей паўсюль мроіліся забойцы. Але я здолеў паправіць яе псіхіку, цяпер гэта зусім іншая жанчына.

— Хвароба не вяртаецца да яе? — спытаў Свелдзінг.

— Не,— лекар Перэ падвёў госця да жанчыны.— Пані Рамбэр, гэта прафесар Свелдзінг. Ен прасіў пазнаёміць вас.

— Я рада пазнаёміцца з панам Свелдзінгам,— пані Рамбэр паднялася,— але адкуль ён ведае мяне?

— Пані Рамбэр,— прафесар апярэдзіў мясцовага доктара з адказам,— мы, вядома, нідзе раней не сустракаліся, але пан Перэ расказваў мне пра вас, выбачайце, што патурбаваў.

Аліса Рамбэр села і зноў вярнулася да вышыўкі, але раптам падхапілася.

— Хто мяне клікаў? Хто сказаў «Аліса»? Гэта ягоны голас! Прэч, забойца!

Аліса Рамбэр пусцілася наўцёкі. Лекар Перэ і медыцынская сястра Берта кінуліся яе лавіць, але яна, спрытная, як усе вар'яты, не давалася ў рукі.

— Я яго пазнала! Прэч, забойца!

— Не варта хвалявацца,— суцяшаў яе доктар Перэ.

— Фантамас! Фантамас! Пачвара! — крычала Аліса Рамбэр, паказваючы пальцам на прафесара Свелдзінга.

Берта ўзяла Алісу Рамбэр пад руку і павяла ў палату. Прафесар Свелдзінг супакоіў Перэ:

— Як гэта сумна, пан лічыў яе здаровая, а з ёю здарыўся сапраўдны прыпадак, невядома чым справакаваны. Я ж, здаецца, не падобны да забойцы?

— Пані лепш, вы супакоіліся? — спытала Берта ў пані Рамбэр.

Хворая паціснула плячыма:

— Каб ты ведала; як я перажываю, што не здолела стрымаць сябе. Але я хачу спытаць: ты сапраўды лічыш мяне вар'яткаю?

— Што ж пра гэта думаць... Пані такая ж хворая, як і я,— адказала сястра.

— Адкажы, калі ласка, за той час, што я знаходжуся тут, мая хвароба праявілася як-небудзь?

— Не, доктар Перэ лічыць пані здаровай.

— Я казала, што на мяне палююць. А калі я казала праўду? І калі мяне выправяць дадому, то праз колькі дзён я зноў апынуся ў вар'ятні?

— Гэтага не можа быць! — абурылася Берта.

— Паслухай, Берта, я нікому не казала, але спачатку я нават узрадавалася, калі мяне паклалі ў вар'ятню, тут я адчула сябе ў бяспецы. Але цяпер усё змянілася, я павінна адсюль знікнуць, але не на тое, каб вярнуцца дадому, да мужа.

— Куды ж пані пойдзе?

— Я вельмі багатая, Берта, вельмі! Я магу забяспечыць усё тваё далейшае жыццё. Дапамажы мне ўцячы адсюль, і я аддзячу! — сястра Берта паспрабавала вырвацца і ўцячы, але Аліса Рамбэр моцна трымала яе за руку.— Колькі табе трэба? Трыццаць тысяч, сорак?

Берта, ашаломленая гэтымі казачнымі для яе лічбамі, маўчала. Аліса Рамбэр зняла з пальца пярсцёнак з дыяментам і аддала яго сястры.

— Бяры, гэта аванс, і пачынай рыхтаваць мае ўцёкі.

Берта стаяла і не разумела, сон гэта ці ява.

— Якое багацце,— прашаптала яна.

## XVI

## Грузчыкі

Берта адчыніла дзверы віннага склепа: каля цынкавай стойкі тоўпіліся распаленыя вінам мужчыны. Дзяўчына крыкнула ў залу:

— Жафруа! Бочка!

— Ен тут! Глядзі, вось і сястра. Не сысці мне з гэтага месца, калі я не згадваў цябе сёння.— Жафруа па мянушцы Бочка расцалаваў сястру ў абедзве шчакі. Берта ў адказ пацалавала брата. І ён пацягнуў яе да купкі дужых шыракаплечых хлопцаў з чаркамі ў руках.

— Есць прапанова якраз для цябе,— Берта ўсміхнулася.

— Відаць, недзе на дарозе грошы валяюцца, ■ грошы мяне заўсёды вабяць. Але зараз я ўдзельнічаю ў конкурсе грузчыкаў. Прыходзь а шостай на кірмаш, там будзе конкурс.

Штогадовы конкурс на замяшчэнне вакансій грузчыкаў праводзіўся на цэнтральным кірмашы ў канцы верасня. Трэба было перанесці на адлегласць дзвесце метраў мех мукі вагою ў сто пяцьдзесят кілаграмаў. У журы ўваходзілі высокія чыноўнікі гарадскога магістрата, самыя вопытныя і старыя грузчыкі.

Натоўп, які сабраўся паглядзець конкурс, быў стракаты. Берта заўважыла ў натоўпе мужчыну моцнага складу, гадоў каля трыццаці пяці, у сіняй куртцы з чырвонай хусткаю на шыі.

— Мяне завуць Жуло,— назваўся незнаёмы.

Берта ветліва яму адказала:

— А мяне Бабінетай, я сястра вунь таго, Жафруа-Бочкі.

Жуло ўзяў на сябе ролю рыцара Берты. Калі абвясцілі вынік, то аказалася, што Жафруа і ягоны сябар падзялілі першае месца.

Абмяркоўваючы гэта са сваім новым знаёмым, Берта-Бабінета не заўважыла, як да іх наблізіўся мужчына ў старым чорным паліто і ў жакейскім каптурыку на гладкіх валасах. Ён уважліва прыслухоўваўся да размовы.

— Хадзем,— Жуло ўзяў дзяўчыну за руку, цябе

чакае брат.— Паколькі Берта вагалася, ён прашаптаў ёй на вуха: — У гэтага чалавека выгляд мярзотніка.

— Сапраўды, якая гідкая фізіяномія,— адказала дзяўчына і дадала тонам медыка-прафесіянала: — Паглядзі на колер ягонага твару. Ён, мабыць, вельмі хворы, бо надзвычай бледны. Ён нават зялёны.

## XVII

## «Свіння святога Антона»

Жафруа-Бочка і Берта вырашылі павячэраць у шынку «Свіння святога Антона». Перад ганкам стаяў ровар валацугі Бузіля.

Пасля таго як Бузіль вылавіў у рацэ нябожчыка Шарля Рамбэра, ён нарэшце ажыццявіў свой план і прыехаў у Парыж, дзе наняўся ў шынок старога Франсуа.

У шынку тытунёвы дым гусцеў, а гамана гучнела. Час набліжаўся да дзвюх гадзін ночы. Гаспадар хрыпатым басам звярнуўся да наведвальнікаў:

— Каму цэлую выварку гарачага віна?

Берта сядзела побач з братам.

— Разумееш, мне патрэбны такі дужы чалавек, як ты. Трэба зламаць краты на вокнах.

— І гэта ўсё? — спытаў Жафруа.

Берта кіўнула і машынальна паглядзела на невысокага маладога чалавека, які сядзеў насупраць яе.

— Добры вечар, Жуло. Што новага чуваць?

Жуло павітаўся. Поруч з маладым чалавекам сеў Бенуа.

— Паглядзі, хто гэта? Гэта ж той самы зеленатвары! — здзівілася медсястра.

— Сапраўды, ён,— пагадзіўся Жуло.

Зеленатвары размаўляў з гітарыстам:

— Валодаць іншымі мовамі нескладана для такога майстра, як наш Гурн,— тут ён раптоўна змоўк. Яму падалося, што шынкарка пачула іх размову.

Тым часам Бенуа напіўся.́ Сігналам да бойкі стала талерка, якою Жафруа пусціў у свайго саперніка Бенуа. Усе падхапіліся са сваіх месцаў. У шынку ўсчалася бойка. У паветры пачаў лётаць посуд, нечакана выбухнуў рэвальверны стрэл. Нейкі муж-

чына ў чорным паліто стрэліў па адзінай лямпачцы, залу агарнула цемра. Спалоханая Берта адчула, як нехта нахіліўся да яе і абмацаў каптурык, у шынку яна была адзінаю жанчынай у каптурыку. Нехта, дыхаючы ёй у твар, вымавіў:

— Ты не дасі ўцячы вар'ятцы Рамбэр!

Нягледзячы на страх, Берта прамармытала:

— ... хто?

Голас сцішэў, але Берта здолела разабраць:

— Гэта забараняе табе ФАНТАМАС!!!

Тым часам бойка мацнела. Прызвычаеныя да такога, паліцыянты разматалі пажарны рукаў і пачалі залізаць шынок вадой. Нечаканы душ імгненна астудзіў усіх. Брыгадзір стаў з ліхтаром каля выхада і рашуча загадаў выходзіць па адным. Мокрыя кліенты падпарадкаваліся. Адзін за адным яны пакорліва з'яўляліся ў дзвярах, паліцыянты адразу ж надзявалі на іх кайданкі, злучалі за рукі па двох і вялі ў пастарунак.

Калі ўсе выйшлі, брыгадзір спусціўся ў склеп праверыць, ці не застаўся там хто. На падлозе ў крывавай калюжыне ляжаў гітарыст — яго ўдарылі нажом у грудзі.

Чарговай парай, якую прывялі ў пастарунак, былі Жуло і дужы мужчына, які пад час бойкі сціпла сядзеў у куце. Ён адразу запатрабаваў дзяжурнага па пастарунку і паказаў яму сваё пасведчанне. Той адразу выструніўся і аддаў загад:

— Гэтага пана выпусціць неадкладна...

— І гэтага юнака таксама выпусціць,— перапыніў яго дужы мужчына,— пад маю адказнасць.

З іх знялі кайданкі, пасля чаго незнаёмы схапіў юнака за руку і вывеў на вуліцу. Насустрач ім паліцыянты неслі труп гітарыста. Незнаёмы, усё гэтак жа моцна сціскаючы руку Жуло, наблізіўся да брыгадзіра, той выструніўся.

— Пан камісар, больш там сапраўды нікога не было.

Загадкавы незнаёмы ўзлаваўся:

— Халера! Гурн уцёк! — Ён шпарка пацягнуў юнака ў бок Манмартра.

Каля касцёла Сент-Эстаж яны спыніліся пад ліхтаром. Незнаёмы павярнуўся да юнака і абвясціў:

— Я камісар Жуў... а ты, касірка Жанна, ты — Шарль Рамбэр!..

## XVIII

## Палонны і сведка

У шэрым святле світанку мігатлівы ліхтар кідаў на зямлю брудна-жоўтае кола. Юнак зрабіў колькі крокаў... Але камісар Жуў схапіў яго за руку.

— Адказвай! Ты Шарль Рамбэр, і ты ж касірка Жанна?!

— Не разумею, пра што гаворка?

— Усё раскажаш! — усміхнуўся камісар.

Жуў спыніў начны фіякр, пасадзіў у яго юнака. Шэптам растлумачыў фурману, куды ехаць, і сеў сам.

Некаторы час камісар Жуў маўчаў, потым звярнуўся да юнака:

— Я ўпэўнены, ты — Шарль Рамбэр.

— Не, пан памыляецца,— запярэчыў той.— Шарль Рамбэр загінуў.

— Ты і гэта ведаеш? Чуў гэтае імя?

— Ну добра,— скарыўся юнак,— я — Шарль Рамбэр, і я — касірка Жанна! Але як вы пра гэта дазналіся? Пан прыйшоў у «Свінню святога Антона» арыштаваць мяне?

— Можа, і так.

— І куды цяпер, у турму?

— Ты занадта дапытлівы,— камісар паціснуў плячыма.

— Мы выехалі да Сены. Гэта мяне і непакоіць.

— Мы каля прэфектуры. Выбірацъ табе не выпадае. Супраціўляцца не варта.

Фіякр спыніўся перад Спічастай Вежай, адзін выгляд якой палохае злодзееў, бо праз яе браму можна трапіць адразу ў дзве турмы: «Кансьержэры» і «Дэпо»...

На ганак выйшаў паліцыянт.

— Пан камісар! Прывезлі здабычу? Гэты юнак ёсць у нашай картатэцы?

— Не,— перапыніў яго камісар Жуў тонам, які выключаў працяг размовы,— гэты юнак ніколі раней не быў у нас. Таму я і хачу, каб на яго завялі картку.

Покуль паліцыянт вымяраў Шарлеў рост, здымаў адбіткі пальцаў, камісар Жуў пайшоў у свой кабінет. Нарэшце дзяжурны паліцыянт прывёў Шарля Рамбэра.

— Ты ледзь стаіш на нагах,— спачувальна ўсміхнуўся камісар,— табе варта паспаць хаця б гадзіну.

Камісар завёў Шарля Рамбэра ў невялікі суседні пакой, дзе пераканаў яго легчы на канапу.

— Ні пра што не думай! Спі!

На калідоры камісар шэптам загадаў дзяжурнаму паліцыянту:

— Глядзіце за гэтым юнаком. Ён мой сябар. Але я не хачу, каб ён сышоў адсюль без майго дазволу. Зараз я мушу сустрэцца з адным чалавекам, а потым вярнуся зноў.

Перад кабінетам камісара ўжо чакаў наведвальнік.

— Я маю гонар бачыць камісара Жува?

— Менавіта так, а я — пана Жэрвэ Авантэна?

Наведвальнік устрывожыўся:

— Адкуль пан мяне ведае? Вы збіралі пра мяне звесткі?

Камісар усміхнуўся:

— Вядома. Мяне зацікавіла, чаму пан не адгукнуўся на абвесткі ў газетах, дзе я прасіў звярнуцца ў паліцыю ўсіх, хто дваццаць трэцяга снежня ўвечары выехаў з Парыжа пасажырскім цягніком на Люшон, першым класам.

— Вы сочыце за мною па даручэнні майго цесця? — збянтэжыўся Жэрвэ.

Камісар зарагатаў:

— Вы ездзілі ў Лімож да каханкі...

— Я не ведаў, што паліцыя цікавіцца прыватным жыццём.

— У мяне няма ніякага інтарэсу да вашага жыцця. Я хацеў бы атрымаць інфармацыю іншага характару.

У Жэрвэ Авантэна выцягнуўся твар.

— Не разумею, — прамармытаў ён.

— Я хачу, каб вы дакладна расказалі, як ехалі ў цягніку, як зайшлі ў вагон? Каго там бачылі? Я мяркую, што ў тую ноч вы ехалі разам з забойцам.

— Я сеў у цягнік у Верзоне, у вагон першага класа.

— Вагон быў з калідорам?

— Так, з калідорам, старой канструкцыі. Калі цягнік спыніўся, я знайшоў свой вагон і хацеў сесці ў купэ для тых, хто не курыць. Але тут была выбіта шыба. Давялося перайсці ў купэ для тых, хто ку-

рыць. Там на адной з паліц стаялі чамаданы і пакункі, але гаспадара не было. Я лёг на другую паліцу і неўзабаве заснуў. А свайго суседа я так і не пабачыў — калі выходзіў у Ліможы, яго зноў не было.

— Калі выходзілі, рэчы ляжалі на тым самым месцы? — спытаў камісар.

— Здаецца, так,— задумаўся Жэрвэ.

— Такім чынам,— падсумаваў камісар Жуў,— дваццаць трэцяга снежня вы ехалі ў вагоне першага класа цягнікам Парыж — Люшон і бачылі ў вагоне нечы багаж, але самога пасажыра не бачылі. Магчыма, яго там і не было.

— Так, але як вы даведаліся, што я ехаў гэтым цягнікам?

— Вы аддалі свой квіток кантралёру...

## XIX

## Жэром Фандор

Камісар Жуў ішоў па калідоры і высвістваў марш — прыкмета добрага настрою. Адчыніўшы дзверы ў маленькую пачакальню, дзе спаў Шарль Рамбэр, ён нейкі час глядзеў на яго.

— Юнаку пагражае катарга, а ён спіць, як міністр юстыцыі Французскай рэспублікі.— Жуў патрос юнака. — Уставай, гультай!

— Куды?

— Паедзеш да мяне!

Жуў запаліў дарагую цыгару, адкінуўся на спінку крэсла і заклаў рукі за галаву. Насупраць сядзеў Шарль Рамбэр.

— Хачу цябе павіншаваць,— нарэшце сказаў камісар,— ты не забіваў маркізу дэ Лангрун, не рабаваў княгіню Данідаву!

— Нашто мне пан гэта кажа? — насцярожана спытаў Шарль.— Я сам ведаю, што не рабаваў і не забіваў! Але як вы пазналі мяне ўчора ўвечары, калі я быў Жаннай?

Жуў усміхнуўся і адкінуў з ілба пасму валасоў.

— Слухай, хлопец, у «Раяль-Палацы» касірка Жанна дала мне так поўху, што на маім месцы кожны б задумаўся, што гэта за паненачка такая!

— Але як вы пазналі мяне сёння?

Жуў паківаў галавою.

— Запомні раз і назаўсёды: калі камісар Жуў хоць раз бачыў чалавека, то таму не дапаможа аніякі маскарад.

— Але ж факты супраць мяне?

— Ты памыляешся,— запярэчыў камісар,— княгіню Данідаву і пані Ван дэн Розэн абрабаваў адзін і той жа чалавек, а для такой справы ты надта нягеглы.

— Нягеглы? — абурыўся Шарль Рамбэр.— Але як быць з забойствам маркізы дэ Лангрун? Магчыма, я дзейнічаў як вар'ят.

Але Жуў зноў не пагадзіўся:

— Ты думаеш пра сваю маці? Мяркуеш, у цябе кепская спадчына, але пі спакойна сваю каву з малаком! Ніякі ты не вар'ят.

— У такім разе вы скажыце гэта майму бацьку!

— Які ты спрытны. Я адзіны чалавек, які перакананы, што ты не вар'ят і не забойца.

— Што ж цяпер са мною будзе? — сумна спытаў юнак.

Жуў адказаў пытаннем на пытанне:

— А што ты сам збіраешся рабіць?

— Пайду да бацькі.

— Не раю гэтага рабіць. Табе лепей зараз знікнуць. Вось калі я арыштую Фантамаса, то сам пагавару з Эцьенам Рамбэрам.

— А нашто чакаць арышту гэтага Фантамаса?

— Таму што ты не вінаваты ў злачынствах,— адказаў камісар Жуў.— Хутчэй за ўсё, гэта Фантамас.

— Што ж пан камісар мне параіць?

Жуў падняўся і прайшоўся па кабінеце.

— Скажу шчыра: ты мне спадабаўся, і я табе дапамагу, а ты дапаможаш мне знайсці Фантамаса. Вось што я прапаную: змяні імя, здымі дзе-небудзь пакой. Прыстойна апраніся і прыходзь да мяне, і я пазнаёмлю цябе з адным сваім сябрам — рэдактарам вячэрняй газеты. Ты адукаваны і энергічны, я ўпэўнены, у якасці рэпарцёра-журналіста ты неўзабаве зробіш кар'еру. Станеш вядомым чалавекам. Ну як, табе падабаецца?

— Гэта якраз тое, аб чым я марыў.

Але камісар перапыніў юнака, падаў яму пачак банкнот.

— Вось табе на першы час,— сказаў ён,— а цяпер сыходзь. І мне, і табе трэба выспацца. Уладкоўвай свае справы. Праз два тыдні ты ўжо павінен быць журналістам у газеце «Капіталь».

— Відаць, мне трэба ўзяць псеўданім, што-небудзь кідкае? — заўважыў Шарль Рамбэр.

— Як ты ставішся да таго,— прапанаваў камісар Жуў,— каб узяць першы склад з мянушкі Фантамас? Фан — гэта добрая аснова. Зараз прыдумаем табе імя цалкам: калі ты не супраць, яно будзе гучаць Жэром Фандор.

— Жэром Фандор? — задуменна сказаў юнак.— Што ж, пан мае рацыю. Імя гучнае, знакамітае.

— Вось і цудоўна, Жэром Фандор. А цяпер дай мне выспацца. Рыхтуйся да новага жыцця.

— Шчасліва!

# XX

## За кубкам гарбаты

Тэрэза Авернуа наблізілася да лэдзі Белсом, якая напаўляжала ў шэзлонгу ў вялікай гасцёўні свайго палаца ў Нэі. Па пратэкцыі Эцьена Рамбэра ўнучка маркізы дэ Лангрун ужо два месяцы была адной з асабістых сакратарак англійскай арыстакраткі.

Тэрэза пачціва звярнулася да лэдзі Белсом:

— Святар Уільям Хоўп просіць дазволу прыехаць да вас неадкладна. Ён з вашых паўночных маёнткаў.

— Шчыры чалавек! — Лэдзі Белсом загарнула кнігу і ўсміхнулася Тэрэзе.— Няхай прыходзіць.

Дзяўчына вярнулася да тэлефона, а лэдзі Белсом паглядзела на адну з маладых англічанак, якія разам з Тэрэзай працавалі ў яе сакратаркамі.

— Чаму вы ўсміхаецеся, Лізбэт? — спытала яна.

Лізбэт нават не сумелася:

— Мяркую, што гэты святы чалавек не павячэраў у цягніку і таму адчуў праз тэлефонны дрот водар вашых гарбаты і печыва.

Лэдзі Белсом не стрымлівала свайго смеху.

— Канчаткова, святар вышэй усіх гэтых спакус.

— Выбачайце, лэдзі Белсом,— настойвала дзяўчына.— Аднак, ці не ён сам надоечы тлумачыў Тэрэзе, што да хлеба трэба ставіцца з павагаю, бо на

ім ляжыць блаславенне Божае, што кепска засмажаны ростбіф — нейкім чынам святатацтва.

— А мне здаецца,— перапыніла яе Тэрэза,— што гэта быў не ростбіф, а фазан.

Лэдзі Белсом зрабіла ім вымову:

— Вам бы толькі кпіць, вы проста зайздросціце, што ў чалавека добры апетыт. Бярыце прыклад з Сюзанны.

Сюзанна, прыгожая брунетка, займалася пісьмамі.

— Лэдзі Белсом! — засаромелася яна,— з таго часу, як крэйсер з маім Гары вярнуўся ў Еўропу, я зусім страціла апетыт.

Лэдзі Белсом паднялася з шэзлонга, прайшлася па пакоі і спынілася каля дзяўчыны.

— Я не бачу тут сувязі. Каханне мацуе душу, але не цела. І калі я згадала ваш апетыт, то не збіралася кпіць, мая маленькая Сюзанна. Наадварот, вы абавязаны захаваць для будучага мужа свае ружовыя шчокі і цудоўнае здароўе, каб быць годнай яго жонкай і маці.

Тут Лізбэт перапыніла лэдзі Белсом і завяршыла яе думку:

— ...Маці шматлікіх дзяцей, сямі ці васьмі дзяўчынак.

Але на гэтым ёй давялося спыніцца, бо ўвайшоў лёкай і абвясціў:

— Святар Уільям Хоўп!

У гасцёўню зайшоў немалады чалавек у чорным арнаце, з паголенаю галавою і прыязным тварам.

Лэдзі Белсом падала святару руку, і той дакрануўся да яе вуснамі.

— Я рада вас бачыць,— сказала лэдзі Белсом,— і запрашаю выпіць з намі кубак гарбаты.

Святар павітаўся з дзяўчатамі і потым, нібыта прасіў прабачэння, што не адмаўляецца ад прапановы, адзначыў:

— Я не вячэраў у цягніку.

Лізбэт перапыніла яго:

— Сапраўды, ад гэтага кубка ідзе такі цудоўны водар.

Святар узяў кубак у руку.

— Менавіта гэта я і збіраўся сказаць.

Тэрэза і Сюзанна павярнуліся да сцяны, каб схаваць усмешкі, але лэдзі Белсом перайшла за свой

пісьмовы стол і звярнулася да іх, можа, залішне сур'ёзным тонам:

— Мы мусім абмеркаваць важныя справы, так што вазьміце, калі ласка, свае паперы.

Покуль дзяўчаты ціхутка разбіралі дакументы, лэдзі Белсом пачціва распытвала святара:

— Як даехалі?

— Дзякуй, лэдзі Белсом, добра, вашы сяляне са Скотуэл-Хіла поўняцца аптымізмам і спадзяюцца на лепшае, але зіма, відаць па ўсім, будзе халоднаю. У гарах ужо лёг снег.

— Вы раздалі дзецям і жанчынам цёплую вопратку? — спытала лэдзі.

— Тысячу дзвесце камплектаў,— святар падаў ёй спісаны аркуш.

— А санаторый для сухотных?

— Будаўніцтва амаль скончана,— кіўнуў Хоўп.— Гэта па-хрысціянску.

Нейкі час святар нерашуча вагаўся. Нарэшце, карыстаючыся тым, што лэдзі Белсом заглыбілася ў дакументы, ціха сказаў:

— Я хачу сказаць яшчэ вось пра што. Гэта тычыцца нябожчыка Эдварда Белсома.

Маладая жанчына спалохана глянула на святара.

— Слухаю...

Дзяўчаты далікатна выйшлі з пакоя.

— Калі вы ведаеце,— пачаў Хоўп,— у Шатландыі, пасля знікнення вашага мужа, усе занепакоены.

— Спадзяюся,— перапыніла святара лэдзі Белсом,— імя нябожчыка не ганьбяць?

— Не, не, не турбуйцеся. У Скотуэл-Хіле ўсе ведаюць, што забойцу не знайшлі. Але за яго прызначана вялікая прэмія. І ўсе спадзяюцца, што паліцыя...

На апошніх словах святара лэдзі Белсом яго перапыніла:

— Што ж зробіш?

Раптоўна дзверы гасцёўні расчыніліся, і лёкай абвясціў:

— Пан аканом Сілвертаўн...

Следам за лёкаем у пакой да лэдзі Белсом зайшла Лізбэт і падала даволі доўгі ліст. Перад тым як чытаць яго, лэдзі Белсом глянула на подпіс і заўважыла:

— А вось і навіны ад Эцьена Рамбэра.

Пачуўшы гэта імя, да лэдзі Белсом наблізілася Тэрэза.

— Прачытайце,— падала ёй ліст лэдзі Белсом,— потым раскажаце мне, што піша наш сябар.

Тыдзень таму Эцьен Рамбэр з'ехаў з Парыжа, паведаміўшы сябрам, што накіроўваецца ў доўгае падарожжа.

Лэдзі Белсом была занята размоваю з аканомам. Аканом супакойваў яе:

— Лэдзі Белсом можа не хвалявацца, я паставіў у доме новыя замкі. Дом добра ахоўваецца.

## XXI

## Забойца лорда Белсома

Гэтай жа ноччу, калі разышліся па дамах тэатральныя аматары, сціх грукат фіякраў і брычак і нічога болей не парушала цішыні ўтульнай парыжскай правінцыі Нэі, сціхла ўсё і ў палацы лэдзі Белсом. Але гаспадыня яшчэ не спала. Яна падсунула шэзлонг бліжэй да каміна, паставіла ногі на камінныя краты і задумалася. Раптоўна паднялася і падышла да акна. Аднекуль з цемры пачуліся рэвальверныя стрэлы. Лэдзі кінулася да дзвярэй у вестыбюль.

— Што адбываецца? Лізбэт, Тэрэза, Сюзанна, да мяне!

На калідоры загрукалі дзверы. Паўраспранутыя дзяўчаты падбеглі да яе.

— Які жах! — спалохана крычала Лізбэт.— Злодзей на першым паверсе. Ён залез праз аранжарэю. Уолтэр паваліў яго і душыць, яны б'юцца насмерць.— Расказваць далей яна не магла: у яе заняло дыханне.

Праз колькі хвілін да лэдзі Бэлсом падбег аканом Сілвертаўн. Ён пачаў узбуджана тлумачыць:

— Мы рабілі абход, калі нечакана заўважылі ў цемры чалавека — мяркуючы па ўсім — злодзея. Паклікалі яго — ён уцякаць. Мы за ім, схапілі яго, ён супраціўляўся. Давялося раз ударыць. Карацей, мярзотнік у нашых руках. І неўзабаве сюды з'явіцца паліцыя.

У лэдзі Белсом дрыжалі рукі.

— Але чаму вы вырашылі, што гэта злодзей?

— А што ж нармальнаму чалавеку рабіць у чужым доме?

— Як ён сам тлумачыць гэта? — спытала лэдзі Белсом.

— Ды ў яго не было часу тлумачыць,— адказаў аканом,— яго ўбачылі і злавілі дзякуючы нашаму Уолтэру. Лэдзі ведае, якое здароўе яму даў Бог.

Лэдзі Белсом перапыніла аканома:

— Спачатку трэба было яго распытаць, я не дазволю ў сваім доме пачынаць бойку, бо не прымаю жорсткасці. Спадзяюся, гэтаму чалавеку не нанеслі шкоды.

Аканом разгубіўся і не ведаў, што адказаць.

— Паклічце сюды Уолтэра,— загадала лэдзі Белсом.

Праз колькі часу з'явіўся вартаўнік — сапраўдны асілак.

— Як трапіў у дом незнаёмец?

Уолтэр камячыў у руках фуражку.

— Я сам дзіву даюся! Я згледзеў гэтага чалавека, а ён пачаў біцца, і я яго ўдарыў, потым прыбеглі слугі, зараз яны вартуюць яго.

— Як ён тлумачыць сваё з'яўленне?

— Ен сцвярджае, што лэдзі мусіць прыняць яго.

— Я прыму яго,— адказала лэдзі Белсом.

Але тут умяшаўся аканом Сілвертаўн:

— Гэта небяспечна, несумненна, гэты чалавек вар'ят або злодзей, асабліва пасля забойства лорда Белсома...

Лэдзі Белсом не дазволіла аканому скончыць фразу.

— Няхай яго прывядуць сюды,— і рашуча крыкнула: — Я загадала, выконваць!

Да яе прывялі стомленага мужчыну ў цёмным гарнітуры, з растрапанымі валасамі і барадой.

— Я скажу ўсё толькі вам і толькі сам-насам!

— Пакіньце нас адных,— звярнулася лэдзі Белсом да слуг.

На зачыненыя дзверы апусцілася аксамітная парцьера. У пакоі, ледзь асветленым слабай электрычнай лямпачкай, лэдзі Белсом засталася сам-насам з падазроным мужчынам, якога смела згадзілася выслухаць без сведак.

Яна замкнула дзверы на ключ і кінулася да незнаёмага, абняла яго.

— Мой каханы, Гурн! — прастагнала яна.— Божа літасцівы! Ды яны паранілі цябе. Табе, відаць, балюча! Гаротны мой!

— Я так доўга... Так доўга быў без цябе! — змрочна сказаў ён.— Сёння ўвечары я праходзіў непадалёк. Свяцілася толькі тваё акно...

— Я так кахаю цябе, ты смелы, я ўся твая! Але ж гэта вар'яцтва! Ты б мог апынуцца ў паліцыі.

— Я марыў убачыць цябе,— шэптам сказаў Гурн.— Я кахаю цябе.

Закаханыя глядзелі адно аднаму ў вочы.

— Як добра было нам разам! — уздыхнула лэдзі Белсом.

Яна ўспомніла вайну ў Трансваалі, дзе ўпершыню ўбачыла Гурна,— закуранага парахавым дымам сяржанта. А потым быў вялізны параход, на якім яны плылі па сінім моры да туманных берагоў Брытаніі.

— Там, на поўдні Афрыкі,— азваўся Гурн,— па дарозе на Радзіму...

— Пасля пекла вайны настаў спакой, мы пазнаёміліся бліжэй. І пакахалі адно аднаго,— лэдзі Белсом змоўкла, не маючы сілы казаць далей.

— Я ўкленчыў перад табой у нашым пакоі на вуліцы Левэра, і раптам... дзверы расчыніліся! Зайшоў твой муж! Злосны, раз'юшаны лорд Белсом!

— Я не памятаю,— перапыніла яго лэдзі Белсом,— не памятаю, як усё адбылося.

— Затое я памятаю! — крыкнуў Гурн і выпраставўся.— Ён прыставіў рэвальвер да тваіх грудзей. Варта было бачыць ягоныя вочы. Я кінуўся да яго, стукнуў малатком, а потым сціснуў яму горла...

— Так, я ўспомніла...— бясколерным голасам вымавіла лэдзі Белсом, погляд яе знерухомеў.— Я бачыла твае напятыя пальцы на ягонай шыі.

— І я забіў яго,— пагадзіўся Гурн.

Лэдзі Белсом спужана паглядзела на Гурна.

— Здаецца, паліцыя высачыла мяне,— казаў ён далей.— Вядома, я змяніў сваю знешнасць да непазнавальнасці, але мяне ледзь не арыштавалі.

— Мяркуеш, паліцыі вядома, як усё адбылося?

— Не,— сказаў Гурн,— яны толькі ведаюць, што я забіў яго малатком.

— Жах! — прастагнала лэдзі Белсом.

— За мною палююць, як за забойцам.

— Так, мы паводзілі сябе неабачліва. А можа, зрабіць усё так, каб падазраваць пачалі іншага? Ну, якога-небудзь вядомага злодзея? Фанта...

— Не згадвай Фантамаса,— перапыніў яе Гурн.— Магчыма, мне давядзецца ўцякаць — і, магчыма, у Англію.

— Гэта будуць нашыя з табою ўцёкі!

Гурн усміхнуўся, ён чакаў такога адказу.

— Да заўтра.

Лэдзі Белсом бязгучна адсунула засаўку, вярнулася да каміна і націснула гузік званка — з'явіўся Уолтэр.

— Правядзіце гэтага пана да брамы, я адпускаю яго!

Гурн моўчкі выйшаў. Уолтэр — за ім.

Раптам цішу ўскаланулі крыкі і тупат.

— Гэта ён! — крычалі знадворку.— Лавіце яго! Трымайце яго! Вось ён!

— Пан камісар, сюды! Забойца! Гурн!

Збялелая, як палатно, лэдзі Белсом прашаптала:

— Божа літасцівы, што з ім зробяць?

У калідоры Сілвертаўн крычаў:

— Арыштавалі Гурна! Забойца лорда Белсома быў тут!

А потым усхваляваны голас Лізбэт:

— Лэдзі Белсом... Раптам ён забіў і яе?!

Здалёк, з парку, прагучаў голас Гурна:

— Прэч ад мяне, быдла!

Лэдзі Белсом сцялася ад гэтых слоў. У гасцёўню зайшоў задаволены аканом Сілвертаўн:

— Я адразу здагадаўся, што гэта той самы нягоднік. Я пазнаў яго, не дапамагла барада. Я адразу патэлефанаваў у паліцыю. Яны і перахапілі яго.

— І што? — ледзь чутна спытала лэдзі Белсом.

— Дзякуючы мне арыштавалі забойцу.

Лэдзі Белсом самлела. У парозе з'явіўся камісар Жуў.

— Дазвольце зайсці? — спытаў ён.

# XXII

## Знаходка

Калі камісар Жуў прыехаў на вуліцу Левэра, гадзіннік прабіў тры разы.

Кансьержка дома нумар 147, таго самага, дзе ў кватэры Гурна знайшлі запакаваны ў чамадане труп лорда Белсома, сядзела за філіжанкай кавы. Узнімаючыся па сходах, камісар Жуў разважаў:

«Дагэтуль невядома, нашто Гурн забіваў лорда Белсома? Ды і наогул, хто ён такі, гэты Гурн? Дзёрзкае, да драбніц прадуманае, бліскуча здзейсненае забойства — ніхто не бачыў, ніхто не чуў».

Камісар адамкнуў дзверы сваім ключом і прайшоў у гасцёўню.

«Я агледзеў усе шафы. Нічога. Перабраў усе рэчы, што запакаваў Гурн, але нічога вартага ўвагі не знайшоў...»

Камісар перайшоў у спачывальню. Каля каміна, пад сцяною, стаяў невысокі сакрэтнік, над ім віселі паліцы з кнігамі.

«Можа, паглядзець сярод кніг? Мае хлопцы ўжо займаліся гэтым, наўрад ці якая дробязь абмінула іх».

Камісар Жуў пачаў метадычна перакладаць паперы. Нарэшце знайшоў патрэбную. Ён разгарнуў вялікі аркуш шчыльнай гербавай паперы і ўважліва прачытаў пасведчанне на прысваенне сяржанцкага звання Гурну.

— Неверагодна! — ускрыкнуў ён.— Дакумент сапраўдны, і ён сведчыць пра тое, што некалі гэты нягоднік быў сумленным чалавекам.— Камісар Жуў пляснуў па стале.— Дык няўжо Гурн — гэта толькі Гурн? Няўжо я памыліўся?

Камісар пачаў праглядаць лісты, потым падняўся з-за стала і падышоў да паліц з кнігамі. Пагартаў асобныя томікі, яшчэ раз прагледзеў чыгуначны даведнік, потым марскі расклад.

«Атрымліваецца, Гурн — гэта Гурн,— думаў камісар.— І калі быць аб'ектыўным, то трэба пагадзіцца: знойдзенае тут сведчыць пра тое, што гэты Гурн, куды ні кінь, шчыра займаўся сваёю справаю. Але ж гэта немагчыма!»

Паліцыянт зняў з паліцы кардонку, якая імітава-

ла кнігу, у ёй знаходзіўся кamплект буйнамаштабных турысцкіх карт.

— Праверым яшчэ раз,— сказаў сам сабе Жуў. І нечакана з ягоных вуснаў зляцела: — Халера! Вось гэта тое, што трэба!

Камісар нават падхапіўся.

«Так, гэта сапраўды карты цэнтральных раёнаў! Вось Кагор, вось Брыў... А вось тут мусіць быць Бале! Не хапае якраз гэтай часткі».

Камісар зачаравана глядзеў на карту, дзе замест плана замка маркізы дэ Лангрун чарнела акуратна прарэзаная дзірка: «Эх, каб удалося давесці, што кавалак, які я знайшоў недалёка ад вакзала ў Вер'еры на наступны дзень пасля забойства, выразаны менавіта з гэтае карты, якая належыць Гурну!»

Жуў паглядзеў на нумар карты, потым склаў яе і сабраўся выйсці з кватэры Гурна, але не паспеў зрабіць і кроку, як цішыню працяў пранізлівы званок. Камісар спыніўся. «Хто гэта можа званіць у кватэру Гурна? — падумаў ён.— Увесь Парыж ведае, што яго арыштавалі!» Камісар на ўсялякі выпадак праверыў, ці на месцы рэвальвер. Дзверы адчыніліся, у парозе стаяў Шарль Рамбэр.

«Нічога сабе»,— здзівіўся камісар Жуў.

— Гэта ж Шарль!.. Выбачай, Жэром Фандор!

## XXIII

## Знікненне «Ланкастара»

Не кажучы ні слова, юнак зайшоў у кватэру і зачыніў за сабой дзверы.

— Што здарылася? — спытаў камісар.

— Трагедыя,— адказаў Жэром Фандор.— Загінуў мой бацька!

— Што ты кажаш? — здзівіўся камісар.— Эцьен Рамбэр загінуў?

Жэром Фандор паказаў Жуву газету, якую трымаў у руцэ.

— Чытайце,— вымавіў ён і паказаў артыкул на першай старонцы.

Буйны загаловак быў, відавочна, разлічаны на тое, каб спыняць увагу: «Вада! Агонь! Порах! 150 чалавек загінула!» Ніжэй падзагаловак уда-

кладняў: «Затануў карабель «Ланкастар»!»

— Пры чым тут твой бацька? Нічога не разумею,— здзівіўся Жуў.

— Пачытайце,— настойліва паўтарыў Жэром Фандор.

Юнак быў настолькі ўсхваляваны, што камісар вырашыў прачытаць артыкул:

«Толькі што здарылася яшчэ адно жахлівае няшчасце: параход «Ланкастар», які належаў кампаніі «Рэд Стар» і курсіраваў паміж Каракасам і Саўтгэмптанам, затануў з пасажырамі, як толькі выйшаў у мора і яшчэ знаходзіўся ў зоне бачнасці маяка. Выратаваўся толькі адзін чалавек [redacted] каманды. За выключэннем гэтага марака, уся каманда і ўсе пасажыры загінулі...

Не паспеў параход выйсці [redacted] порта, як на маяку ўбачылі, што ён разваліўся на кавалкі і праз імгненне знік у моры. У той жа час да яго накіраваліся караблі з порта. На жаль, яны прыплылі занадта позна.

Нашаму калегу з «Таймс» пашчасціла ўзяць інтэрв'ю ў выратаванага матроса. Яго прозвішча Джэксан. Вось што ён расказаў:

— Мы выйшлі з порта, і карабель пайшоў поўным ходам, мора было даволі спакойнае. Я нацягваў брызент над рубкай [redacted] багажом, раптоўна грымнуў выбух незвычайнае сілы, ён дагэтуль гучыць у маёй галаве. Узарвалася нешта ў грузавым труме. Гэта адзінае, што я магу сказаць дакладна. У той жа момант карабель разнесла на кавалкі. Калі апрытомнеў, то ўбачыў, што ляжу на вадзе. Цудам удалося схапіцца за выратавальны буй, як вы самі разумееце, у такім стане я наўрад ці ўсведамляў, што раблю, аднак інстынкт самавыратавання прымусіў мяне з усяе сілы трымацца за яго. Праз нейкі час мяне заўважылі і выратавалі».

Жуў адклаў газету.

— Што гэта азначае? Узарваўся карабель? Адкуль на пасажырскім параходзе порах? — Камісар убачыў спіс загінуўшых пасажыраў. — Сапраўды, тут напісана, што Эцьен Рамбэр лічыцца сярод пасажыраў першага класа. Дзіўна!

Жэром Фандор цяжка ўздыхнуў.

— Гэта цяжкі ўдар, і мне з ім ніколі не суладаць,— вымавіў ён.— Калі ў той дзень вы сказалі,

што не лічыце мяне забойцам, мне трэба было сустрэцца з бацькам,— юнак ледзь стрымліваў сябе.

— Не перажывай,— Жуў паляпаў яго па плячы.— Трымайся, нягледзячы ні на што. Павер мне, перажываць яшчэ рана.

— Што вы маеце на ўвазе? Усё скончана...

— Мы не маем аніякіх доказаў, што твой бацька загінуў.

— Як? — здзівіўся Жэром Фандор.— Вы, відаць, няўважліва прачыталі артыкул? Там напісана, што выратаваўся толькі адзін матрос і няма аніякае надзеі знайсці яшчэ каго-небудзь пасля катастрофы.

— А раптам твайго бацькі не было на параходзе?

— Але ён лічыцца ў спісе пасажыраў.

Жуў нервова прайшоўся па пакоі.

— Кажу табе, не перажывай. Такія памылкі здараюцца. Можа, твой бацька і збіраўся плыць на «Ланкастары», але ў апошні момант перадумаў або яму нешта перашкодзіла.

Словы камісара здзівілі Жэрома Фандора.

— Пра што вы, пан камісар?

— Нічога пэўнага, але ты мусіш мне верыць. Магчыма, бацька твой жывы. Да таго ж у цябе ёсць яшчэ і маці,— камісар Жуў нечакана змяніў тэму.— Як ты знайшоў мяне тут, у Гурна?

— Выпадкова,— збянтэжыўся Жэром Фандор.

— Гэта не адказ!

— Я ішоў за вамі.

— Ішоў? — здзівіўся Жуў.

— Ад самага вашага дома.

— Скажы шчыра, ты сочыш за мною?

— Ну што, пан камісар, так! Я сачу за вамі штодня.

— Я гэтага не заўважаў,— здзівіўся Жуў.— Але нашто ты гэта робіш?

— Прашу даравацъ мне,— сумеўся Жэром Фандор.— Цяпер гэта гучыць дзіўна... Я думаў — вы Фантамас!

— А з чаго ты ўзяў, што я Фантамас? — рассмяяўся камісар.

— Я паабяцаў сабе,— пачаў тлумачыць Фандор,— што абавязкова знайду чалавека, які сапсаваў мне жыццё. Але я ведаў, што Фантамас надзвычай спрытны злодзей. А мне вядомы толькі адзін такі хітры чалавек. Гэта вы, пан камісар.

— Сапраўды, цікава, тут ёсць логіка.

— Не, я больш не веру ў гэта. З таго часу, як вы ўвайшлі ў гэты дом. Фантамасу няма чаго шукаць у Гурна, таму што...

Юнак змоўк. Жуў пільна глядзеў на яго.

— Паслухай, Фандор, ты, як журналіст, неўзабаве зробішся лепшым крымінальным хранікёрам нашага часу, калі і надалей будзеш такі здагадлівы і знаходлівы! — Камісар Жуў нечакана пацягнуў яго за сабою.— Пайшлі ў Палац Правасуддзя. Мне трэба выклікаць па справе Гурна аднаго сведку.

Дождж, што ішоў з самае раніцы, нарэшце сціх. Мажардом Далон паглядзеў на неба, каб упэўніцца, што ён не пачнецца зноў, потым выйшаў з пакоя і паклікаў сына:

— Жак! Дзе ты?

— Тут! У майстэрні.

Праз колькі месяцаў пасля забойства маркізы дэ Лангрун баранеса дэ Вібрэ ўзяла Далона на працу і была задаволена ім. Ён пераехаў у флігель замка Керэль і, вядома, не мог падумаць, што лёс яго дзяцей неўзабаве зменіцца.

Баранеса па-сапраўднаму прывязалася да ягонай дачкі Элізабэт, да якой і Тэрэза Авернуа ставілася як да сяброўкі, і да Жака, якога лічыла вельмі разумным хлопцам. Яна не раз казала, што дапаможа знайсці яму ў жыцці сваю дарогу.

Разам з сынам Далон выйшаў у парк, але тут Жак спыніў яго:

— Тата, нас кліча паштар.

— Пан Далон,— звярнуўся да яго паштар,— гэта афіцыйны ліст, і я абавязаны аддаць яго вам асабіста.

— Кабінет судовых следчых? — здзівіўся Далон, калі разгарнуў бланк.— Хто мне можа пісаць з Палаца Правасуддзя?

Ён пачаў чытаць уголас:

— Пан Далон, я не маю часу выклікаць Вас праз судовага ўпаўнаважанага павесткай, таму прашу Вас тэрмінова, пажадана, не пазней чым паслязаўтра, прыехаць у Парыж і з'явіцца ў мой кабінет, бо мне неабходныя Вашыя сведчанні, каб завяршыць следства па справе, у выніках якой зацікаўлены і Вы самі. Прашу Вас прыхапіць усе без выключэння дакумен-

ты, якія перадаў Вам судовы сакратар пасля завяршэння разгляду справы маркізы дэ Лангрун.

— Ад каго ліст? — пацікавіўся Жак.

— Падпісаў Жэрмэн Фузільe.

Покуль паштар адпачываў, Далон напісаў у адказ такі тэкст тэлеграмы:

«Пану Жэрмэну Фузільe, судоваму следчаму. Парыж. Выязджаю заўтра, дванаццатага лістапада, цягніком на сем дваццаць увечары, у Парыжы буду а пятай раніцы. Час сустрэчы прызначце тэлеграмай. Гатэль «Фран Буржы», дом 152, вуліца дзю Бак».

## XXIV

## У турме Сантэ

Гурн імкліва хадзіў па двары турмы Сантэ, ён выкарыстоўваў кожную хвіліну, адведзеную турэмным раскладам, для шпацыру.

Ужо мінула пяць дзён з таго часу, як забойца лорда Белсома быў арыштаваны, калі выходзіў ад сваёй каханкі лэдзі Белсом, і вось пяць дзён ён сядзеў за кратамі.

Спачатку вязню было невыносна цяжка прызвычаіцца да зняволення. На яго находзіў то шал, то адчай, але цвёрды характар і сталёвая воля дапамаглі Гурну авалодаць сітуацыяй.

Гурн імкнуўся не згубіць выдатную фізічную форму і кожны шпацыр колькі разоў хутка абыходзіў двор.

— Пан так шпарка ходзіць,— звярнуўся да яго ахоўнік,— што, відаць, служыў у спецыяльным атрадзе пешых стралкоў. Некалі і я належаў да гэтай вайсковай эліты. Колькі часу ўжо прайшло! Пан таксама ваяваў? Я чуў, вы даслужыліся да сяржанта ў Трансваалі?

Гурн моўчкі кіўнуў.

— А мне не выпала ўзняцца вышэй капрала.— Ахоўнік Сьежанталь паклаў Гурну на плячо руку.— Прызнайцеся, гэта ж усё з-за жанчыны? Забойства на глебе рэўнасці, у стане шалу? Праўда?

Гурн пацiснуў плячыма. Прабіў гадзіннік.

— Зняволены Гурн, час вяртацца ў камеру!

Гурн падпарадкаваўся. Ахоўнік Сьежанталь зам-

кнуў за ім дзверы. Гурн застаўся адзін. На калідоры пачуўся голас:

— Камера сто дваццаць сёмая, зняволены Гурн, падрыхтавацца, вас выклікаюць да адваката!

Гурн моўчкі ішоў па калідоры паперадзе ахоўніка. Дарогу да адвакацкага пакоя ён ведаў добра. У ім Гурн убачыў не свайго знакамітага адваката Барберу, а яго сакратара, маладога Ражэ дэ Сера́ — элегантнага адваката-стажора.

Як высветлілася, спатканне мусіла быць нядоўгім. Ражэ дэ Сера папрасіў за гэта прабачэння, бо быў чалавекам далікатным, але Гурн абыякава пацісну́ў плячыма.

— Ну, у маёй справе што новага?

— Нічога, наколькі мне вядома,— адказаў дэ Сера. Але адразу ж спахапіўся: — Дарэчы, лэдзі Белсом...

— Што лэдзі Белсом? — перапытаў насцярожаны Гурн.

— Ды так... Проста я з ёю знаёмы. Я нярэдка бываю на афіцыйных прыёмах. Мне даводзілася бачыць яе ў салонах. Прывабная жанчына!

Гурн разгубіўся, не ведаў, як паводзіць сябе з адвакатам, які стаў ці не залішне нахабным. Стажор ужо збіраўся адыходзіць, але раптам спахапіўся і сказаў, смеючыся:

— Так, на галоўнае я забыўся! Уяўляеце, камісар Жуў, гэты хітрун, які марыць стаць нацыянальным героем, учора правёў яшчэ адзін, не ведаю ўжо які па ліку, вобыск у вашай кватэры!

— Сам, асабіста? — зацікавіўся Гурн.

— Нават уласнаручна. І ён сцвярджае, што зрабіў сенсацыйнае адкрыццё. Іду ў заклад, вы ніколі не здагадаецеся, што ён знайшоў.

— Я ніколі не іду ў заклад! — перапыніў яго незадаволены Гурн.

Адвакат-стажор узрадаваўся, што здолеў зацікавіць такога вядомага кліента, вытрымаў паўзу, паківаў галавою і вымавіў:

— На вашых кніжных паліцах ён знайшоў падраную карту Тарыда...

— Што з гэтага вынікае? — Гурн змяніўся з твару.

— А тое, што для камісара Жува,— адказаў адвакат-стажор,— гэта, відаць, мае вялікую вагу! Па-

між намі кажучы, камісар апошнім часам зашмат бярэ на сябе, а таму нярэдка памыляецца. І якім чынам, цікава, гэтая карта зможа паўплываць на следства? Вам не варта хвалявацца, мне даводзілася прысутнічаць не на адным судовым працэсе, я кажу як прафесіянал: у вашым выпадку шмат абставін, якія зменшаць вашу віну, гэта напэўна. Хаця...— раптам ён перамяніў тэму.— Яшчэ адна навіна! Следства запатрабавала новага сведку.

— Новага сведку? — здзівіўся Гурн.

— Так, яго завуць, здаецца, Далон, мажардом Далон.

— Не разумею,— ціха сказаў Гурн і адвёў позірк убок.

— Не, сувязь тут ёсць! Мажардом Далон служыць у баранесы дэ Вібрэ.

— То што?

— А гэтая баранеса дэ Вібрэ апякунка той самай дзяўчыны, якая была ў лэдзі Белсом у той самы дзень, у той самы вечар... Калі вы... Ну, карацей, яе завуць Тэрэза Авернуа.

— І што далей? — спытаў Гурн.

— А далей я не ведаю,— сказаў стажор.— Тэрэзу Авернуа лэдзі Белсом наблізіла да сябе па рэкамендацыі нейкага Эцьена Рамбэра. А Эцьен Рамбэр — бацька маладога Шарля Рамбэра, ён летась забіў маркізу дэ Лангрун... Асабіста я не разумею, нашто следства запатрабавала ў якасці сведкі мажардома Далона?

— Я таксама,— уздыхнуў Гурн.— А калі прыязджае гэты Далон?

— Вось копія тэлеграмы: «Выязджаю заўтра, дванаццатага, цягнік на сем дванаццаць увечары. У Парыжы буду а пятай раніцы».

## XXV

## Нечаканы саўдзельнік

Пасля размовы з маладым адвакатам Гурн усхвалявана крочыў па камеры. Грукнулі дзверы. За імі ўзнік ахоўнік Нібэ.

— Добры вечар,— павітаўся ён.— Ужо шэсць гадзін, у рэстарацыі пытаюцца, ці несці вам вячэру?

— Не, абыдуся казённай.

— Вам, відаць, цяжка з фінансамі?

Раззлаваны Гурн хацеў паказаць ахоўніку, што не хоча з ім гаварыць, але той зайшоў у камеру, наблізіўся да Гурна і паклаў яму ў далонь нейкую паперку.

— Трымайце вось гэта.

Гурн здзіўлена зірнуў на банкноту, якую атрымаў ад ахоўніка.

— Калі яшчэ спатрэбяцца грошы,— шаптаў Нібэ,— не саромейцеся, я ўсё зраблю.

Гурн хацеў спытаць, ад каго гэты падарунак, але ахоўнік перапыніў яго:

— Я зараз вярнуся, толькі закажу для вас добрую вячэру!

Калі Гурн застаўся адзін, ён з палёгкаю ўздыхнуў. Каханка не кінула яго ў няшчасці. Але і ён маўчаў пра сваю сувязь з ёю, ахоўваючы яе ад падазрэння ў саўдзеле.

Дзверы ў камеру зноў адчыніліся.

— Ну, што? — сказаў ахоўнік. Ён трымаў у руцэ плецены кошык, напоўнены markednymi ласункамі, з-пад якіх тырчала бутэлька віна.— Тут шмат смачнага.

— Я вельмі ўдзячны вам! — узрадаваўся Гурн.

Нібэ шматзначна падміргнуў, задаволены сваёй дапамогай.

За вячэрай Гурн казаў Нібэ:

— То гэта вы цяпер замест Сьежанталя?

— Так,— кіўнуў Нібэ, які час ад часу выбягаў на калідор, каб пераканацца, што ніхто не зловіць яго са шклянкай віна, якую прапанаваў Гурн.— Я шмат разоў дамагаўся, каб мяне павысілі, у маёй асабовай справе ёсць тры лісты дэпутатаў ад апазіцыі. Дык вось, уявіце сабе, на тым тыдні мяне выклікалі ў міністэрства юстыцыі і паведамілі, што маёй асобай цікавіцца нейкае пасольства, мяне спыталі, ці хачу я, каб мяне павысілі, я не адмовіўся. У выніку я апынуўся ў Парыжы.

Гурн ківаў галавою.

— А адкуль грошы? — спытаў ён.

— Учора ўвечары на вуліцы да мяне падышла пані,— пачаў тлумачыць ахоўнік.— «Гэта вы Нібэ?» — пытаецца. Адказваю: «Так...» Ну, пагаварылі. Яна дачакалася, калі побач не будзе людзей,

і паклала мне ў руку грошы, даволі вялікі стос банкаўскіх білетаў, сказала, калі я выканаю ўсё, як яна загадала, то дасць яшчэ грошай...

Покуль ахоўнік Нібэ расказваў, Гурн уважліва яго разглядаў: тоўстыя вусны, вузкі лоб сведчылі, што ахоўнік часцей глядзеў на зямлю, чым на неба. Гурн вырашыў адразу ж перайсці да справы.

— Слухай, мне тут абрыдла сядзець! — фамільярна сказаў ён і паклаў руку ахоўніку на плячо.

Той спалохана глянуў на Гурна.

— Зразумела. Што ж тут зробіш? Але з цягам часу ўсё неяк уладкуецца.

— Само па сабе нічога не ўладкоўваецца, дзеля гэтага трэба паклапаціцца. Вось ты і паклапоцішся. Зразумела,— пераконваў Гурн,— кожная праца павінна аплачвацца. І нельга, каб з-за ўцёкаў зняволенага ахоўнік страціў сваё месца.

— Гэта так,— пагадзіўся Нібэ.

— Не хвалюйся, Нібэ, памылкі мы не зробім, але давай пагаворым сур'ёзна. Калі ты сустракаешся зноў з тою пані, што дала табе грошы?

Павагаўшыся, ахоўнік адказаў:

— Мы дамовіліся ў адзінаццаць.

— Вось і цудоўна. Перадай ёй, каб яна прынесла дзесяць тысяч франкаў.

— Дзесяць тысяч? — перапытаў ашаломлены ахоўнік.

— Дзесяць тысяч,— пацвердзіў Гурн.— Да раніцы! З іх паўтары тысячы для мяне — заўтра ўвечары я адсюль знікну.

Ахоўнік Нібэ вагаўся:

— А калі мяне выкрыюць?

— Не бяры да галавы,— адказаў Гурн.— Усё будзе выглядаць, як звычайны недагляд.— Гурн заўважыў, што Нібэ ўсё яшчэ вагаецца, і прапанаваў: — Паслухай, табе дадуць яшчэ пяць тысяч франкаў. Калі што, ты зможаш уцячы ў Англію.

— У мяне жонка і двое дзяцей.

— Вядома, разам з сям'ёю.

— Але мне патрэбны гарантыі.

— Гарантыі атрымаеш ад той пані. І перадай ёй вось гэта.— Гурн вырваў аркуш з нататніка і накрэсліў на ім колькі слоў.

— Магчыма, я пагаджуся.

— Ты павінен згадзіцца зараз,— адказаў Гурн.

Мужчыны глянулі адзін аднаму ў вочы. Ахоўнік збялеў і нарэшце вымавіў:

— Я згодны.

Раніцай 12 лістапада Гурн вяртаўся са штодзённага шпацыру ў сваю камеру. Ён правёў цяжкую ноч. Яго не пакідалі сумненні. Ці здолее ахоўнік распрацаваць план уцёкаў? З раніцы ён убачыў Нібэ. З-пад фрэнча той выцягнуў пакунак і перадаў яго Гурну.

— Схавайце гэта ў ложку!

Да паўдня Гурн так і не здолеў перамовіцца з Нібэ. Толькі на шпацыры зняволены і ахоўнік пагаварылі.

— Вось ужо трэці тыдзень,— пачаў тлумачыць Нібэ,— як у турме працуюць муляры, чалавек дваццаць. Побач з тваёй камерай сто дваццаць дзевятая камера, і ў ёй незакратаванае акно. Якраз праз гэтае акно муляры выбіраюцца на дах, які рамантуюць. Яны прыходзяць раніцай, адыходзяць у шэсць. Ахоўнік каля брамы іх ведае, але наўрад уважліва разглядае, і я спадзяюся, ты здолееш праскочыць з імі. У пакунку, што я прынёс табе,— рабочая вопратка, пераапранешся. Без дзесяці шэсць муляры ідуць па сходах у двор, без чвэрці шэсць я выпушчу цябе, і ты схаваешся за комінамі, а потым уцячэш разам з імі. Але не падыходзь да іх. У двары рабі выгляд, быццам даганяеш іх. Калі вартавы пачне зачыняць браму, крыкні яму: «Гэй, Марэн, ці не хочаш ты пакінуць мяне тут? Я ж не з тваіх кліентаў!» Або што-небудзь падобнае. Як апынешся за брамай, выблытвайся сам. У правую кішэню курткі я паклаў грошы, дзесяць стофранкавых білетаў, гэта менш, чым ты прасіў, але ў мяне не знайшлося дробных.

Гурн не пярэчыў.

— А якой гадзіне высветліцца, што я ўцёк? — спытаў ён.

— Зараз палічым. Уночы маё дзяжурства. Пакладзеш сваю вопратку на ложку так, каб здавалася, нібыта ляжыш ты. Няхай лічаць, што ты мяне перахітрыў... Мяне заменяць а пятай раніцы. Да восьмай гадзіны абходу не будзе, камеру адамкне мой напарнік. Але на той час ты будзеш ужо далёка!

# XXVI

## Загадкавае злачынства

Каб хоць трошкі болей пабыць са сваім бацькам, Элізабэт і Жак Далоны выравалі яго правесці да вакзала ў Вер'еры, дзе ён мусіў сесці на цягнік, што ішоў у Парыж.

З аглушальным скрыгатам да станцыі падышоў цягнік. Покуль лакаматыў спускаў пару, мажардом прыгарнуў Элізабэт і Жака, потым зайшоў у вагон другога класа і ўзяўся за парэнчы.

Тым часам па чыгуначным насыпе ўпэўнена крочыў чалавек. Відаць, навальніца не палохала яго. Гэта быў мужчына гадоў пад трыццаць, на ім быў доўгі плашч, узняты да самых вушэй каўнер хаваў ніжнюю частку твару. Прыгнуўшыся ад ветру, невядомы ўпарта крочыў па шпалах.

— Ну і надвор'е! — бурчэў ён.— Ужо даўно не было такой брыды: вецер, дождж... Хаця няма чаго нудзіцца: месяца няма, а гэта тое, што трэба.

Бліснула маланка, і невядомы імгненна зарыентаваўся.

«Здаецца, ужо недалёка»,— падумаў ён і заўважыў, што абапал рэек стромыя адхоны ідуць угару; дарога праходзіла ў катлавіне.

— Так лепш, вецер сюды не трапляе, адно свішча недзе ў вышыні! — мужчына спыніўся, асцярожна паставіў на зямлю вялікі пакунак.— Толькі што на вежы прабіла тры гадзіны,— казаў ён сам сабе.— Калі верыць раскладу, то ў мяне яшчэ ёсць хвілін дзесяць. Мне няма чаго турбавацца: насып тут пясчаны, без гравію, трава невысокая, бегчы можна, паваротаў ніякіх. Святло ад паравозных фараў я ўбачу здалёк...— Вусны невядомага скрывіліся ва ўсмешцы.— І ўсё ж, ці мог я падумаць у тыя далёкія часы, калі бадзяўся па Амерыцы, што мне давядзецца заскакваць у цягнік, калі той едзе?

Далёкі, спачатку неакрэслены гул прымусіў яго насцярожыцца... У цемры ўзніклі два белыя мігатлівыя агні — фары паравоза.

Покуль цягнік набліжаўся, невядомы размінаўся: нахіляўся, прысядаў, махаў рукамі.

Але вось цягнік з грукатам наблізіўся да яго. На

прыканцы доўгага пад'ёму ён ішоў не вельмі хутка, кіламетраў дваццаць на гадзіну. Мужчына спрытна, як леапард, кінуўся бегчы з ім навыперадкі. Гэта давалася яму з цяжкасцю, але, падхоплены ветрам, невядомы прайграваў яму не так і шмат.

Міма прамільгнулі паравозны тэндар, багажныя вагоны, вагоны трэцяга класа. Мужчына ўбачыў, што вагон другога класа апынуўся поруч з ім, ухапіўся за парэнчы і ўскочыў на прыступку. Ён адчыніў дзверы і апынуўся ў пустым вагонным калідоры. Загрукатаў сустрэчны цягнік, невядомы ўсміхнуўся: «Я ж казаў, што мой спадарожнік паспее да цягніка! Цераз пяць хвілін яны сустрэнуцца, цераз пяць хвілін мярцвяк разам са сваім багажом ператворыцца ў крывавы фарш!..»

— Жывізі! Стаім дзве хвіліны!

Уздоўж цягніка, які спыніўся на станцыі, беглі праваднікі. Была палова на пятую раніцы, трэба было будзіць пасажыраў.

З купэ другога класа спрытна саскочыў на зямлю невядомы і падаўся да выхада з перона. Паказаў кантралёру праязны білет і выйшаў.

Праз некаторы час рабочы-муляр у сваёй звычайнай працоўнай вопратцы наблізіўся да касавага акенца і папрасіў касірку:

— Калі ласка, мне білет у трэцім класе рабочага цягніка да Парыжа і назад...

Пасажырскі цягнік Люшон — Парыж нечакана спыніўся перад Аўстэрліцкім вакзалам. Покуль пасажыры маглі толькі здагадвацца аб прычынах гэтай стаянкі, да цягніка наблізіліся трое мужчын і пайшлі ўздоўж яго.

— Паглядзіце, пан камісар! — сказаў адзін з іх.— Зірніце сюды. На гэтых дзвярах не зачынена страховачная засаўка.

— Сапраўды... — камісар узяўся за клямку і адчыніў дзверы ў купэ.

Двое пасажыраў, якія пакавалі свае чамаданы, здзівіліся, што нехта сядае ў цягнік так недалёка ад канечнага прыпынку.

— Панове, выбачайце за турботы, але мы тут па службовым абавязку.— Камісар расхінуў плашч і паказаў трохколерную стужку — сімвал дзяржаўнае ўлады.— Я спецыяльны камісар Аўстэрліцкага вак-

зала. Мне паведамілі, што на рэйках, непадалёк ад Жувізі, знайшлі труп мужчыны,— хутчэй за ўсё, яго выкінулі з гэтага цягніка.

— Труп? — жахнуўся адзін з пасажыраў.— Нас было трое ў купэ, пан камісар, але калі мы спалі, трэці знік. Памятаеце? — звярнуўся ён да другога пасажыра.— Мы нават падумалі — ён сышоў на нейкай станцыі...

— Як ён выглядаў? — спытаў камісар.

— Даволі прыкметны, пан камісар: бакенбарды, мажны, год каля шасцідзесяці...

— Калі б вам сказалі, што ён служыць мэтрдатэлем ці мажардомам, вы здзівіліся б?

— Не, ён менавіта так і выглядаў.

— Тады гэта ён. Але мне цяжка вызначыць,— сказаў камісар,— забойства гэта ці самагубства? На рэйках знайшлі таксама багаж нябожчыка. Самагубца не будзе выкідаць свой багаж, а забойца-рабаўнік і тым больш.

Другі пасажыр, які дагэтуль моўчкі слухаў, сказаў:

— Пан камісар, тут у купэ застаўся пакунак. Я не ведаю, чый гэта.

Камісар раскруціў абгортку і здзівіўся.

— Божа, гэта бутля з-пад вуглекіслаты? Але нашто? — разгубіўся камісар.— Яна належала нябожчыку?

— Наўрад,— сказаў адзін з пасажыраў,— такое я напэўна заўважыў бы.

— Дзіўна,— сказаў другі,— але мне прыгадваецца, што покуль мы спалі, у нашае купэ нехта заходзіў.

## XXVII

## Гурн вярнуўся ў турму

Да турэмнай брамы Нібэ набліжаўся з хваляваннем. Што скажа яму вартавы?

Але вартавы Марэн павітаўся з ім.

«Неверагодна!» — падумаў Нібэ.

Ані слова не сказаў яму начальнік аховы!

Як магло здарыцца, што ўцёкі забойцы лорда Белсома засталіся незаўважанымі?

Не выклікаючы падазрэнняў, Нібэ падняўся на

свой паверх якраз у той час, калі гадзіннік пачаў біць дванаццаць.

— Кала́,— Нібэ звярнуўся да зменшчыка,— можаш ісці.

— Усё добра! — адказаў ахоўнік.— Да шасці вечара.— Кала павярнуўся, каб пайсці.

— Што новага? — спытаў Нібэ, ён імкнуўся, каб голас гучаў абыякава.

— Нічога,— спакойна адказаў Кала.

Праз тры хвіліны, як сышоў ахоўнік Кала, Нібэ не вытрымаў і падышоў да камеры Гурна. Расхінуўшы дзверы, ён аслупянеў ад здзіўлення: Гурн спакойна сядзеў на сваім ложку.

Забойца лорда Белсома сядзеў, закінуўшы нагу на нагу, і, не заўважаючы ахоўніка Нібэ, засяроджана нешта натаваў.

— Ах вось як? — пакрыўджана закрычаў Нібэ.— Ты застаўся тут?

Гурн узняў галаву і пасля паўзы адказаў:

— Як бачыш!

Нібэ збялеў і абапёрся аб сцяну.

Гурн усміхнуўся.

— Што ты так расхваляваўся, дарма! Я, сапраўды, застаўся тут. Усё добра. Давай лічыць, быццам мы ні пра што не гаварылі.

— Ты застаўся... — прамармытаў Нібэ.

— Так,— кіўнуў Гурн.— І калі цябе гэта цікавіць, то скажу праўду: у апошні момант я спалохаўся і адмовіўся ад таго, што задумаў.

Вопытным вокам Нібэ агледзеў камеру і заўважыў пад рукамыйнікам пакунак з вопраткаю, які ён учора прынёс зняволенаму. Нібэ вырашыў найперш пазбавіцца ад гэтых небяспечных рэчаў: раптам хто іншы знойдзе пакунак у камеры? Ён схаваў пакунак пад фрэнч. Гурн спакойна сядзеў на ложку, а Нібэ раптам адчуў, што праз паперу, у якую загорнута вопратка, выступіла халодная вільгаць. Абмацаўшы адзежу, Нібэ пераканаўся, што яна наскрозь вільготная.

— Гурн, не дуры мне галавы,— закрычаў ён.— Адзежа змокла, значыцца, ты недзе быў гэтай ноччу.

Гурн кіўнуў і ўсміхнуўся.

— Няблага для звычайнага ахоўніка! Ты маеш рацыю, учора ўвечары я спрабаваў уцячы, аднак у самы апошні момант спалохаўся, зноў залез на дах

і праседзеў там цэлую ноч. А да сябе ў камеру вярнуўся толькі раніцою, калі прыйшлі рабочыя...

Нібэ слухаў, што казаў Гурн, і адначасова разважаў. Наогул яго задавальняў такі вынік, аднак ён не ведаў, што скажа таямнічая пані, якая так добра плаціць. І Нібэ шчыра выказаў свае сумненні Гурну. Гурн зарагатаў і супакоіў Нібэ:

— Не хвалюйся, у цябе яшчэ ўсё наперадзе. Мы рашылі выпрабаваць цябе, паглядзець, да чаго ты здатны. Магу запэўніць: калі я зараз у турме, то на гэта ёсць падставы.

У Палацы Правасуддзя судовы следчы Фузільё размаўляў ■ камісарам Жувам.

— Паўтараю, пан следчы,— казаў камісар,— я лічу, што карта Тарыда, якую знайшлі на кватэры ў Гурна, мае вялікае значэнне.

— Нават так? — іранічна спытаў следчы.

— Калі я не памыляюся, летась, калі я займаўся расследваннем забойства маркізы дэ Лангрун у замку Бале, я знайшоў кавалак ад карты, карты Тарыда, на якой быў той самы кавалак мясцовасці, дзе знаходзіцца замак. Я аддаў карту следчаму дэ Прэлю, упаўнаважанаму весці тую справу, аднак ён не звярнуў на яе ўвагі. Ды і я сам не ведаў, да чаго яна прыдасца.

— Сапраўды,— кіўнуў следчы Фузільё,— што дзіўнага ў тым, калі ў нейкім раёне знаходзяць карту гэтага ж раёна?

Жуў усміхнуўся.

— Вы разважаеце дакладна так, як у свой час разважаў дэ Прэль. Тым не менш я паўтару вам тое ж, што адказаў дэ Прэлю: калі дзе-небудзь раптам знойдзецца карта, з якой выразалі гэты кавалак, і мы даведаемся імя гаспадара, то гэта падштурхне нас на пэўныя думкі.

— Якія?

— Карту знайшлі ў замку Бале, а ў Парыжы на кватэры Гурна я знайшоў тую самую карту, ■ якой выразалі гэты кавалак. Калі мае думкі пацвердзяцца і гэты кавалак падыдзе да карты Гурна, то можна будзе зрабіць лагічны вывад, што менавіта Гурн быў у замку Бале і мае дачыненне да забойства маркізы дэ Лангрун.

— Як вы гэта давядзяце?

— Каб гэта давесці,— заўважыў Жуў,— мы выклікалі сюды Далона. Ён дапамагаў весці следства дэ Прэлю, і ў яго павінен захавацца кавалак той карты. Мы параўнаем яго з картай Гурна.

— Добра,— сказаў Фузілье,— нават калі абрывак падыдзе да карты Гурна, ці зможам мы давесці і катэгарычна сцвярджаць, што Гурн — забойца маркізы дэ Лангрун? Вы хочаце пераканаць мяне, што Гурн — гэта Фантамас?

Фузілье яшчэ хацеў абмеркаваць з камісарам Жувам іншыя судовыя справы, але яго перапыніў сакратар:

— Пан Фузілье, вы мусіце яшчэ распытаць дваіх чалавек, — і паклаў перад судовым следчым дзве поўныя папераў папкі.

На верхнім дасье камісар Жуў прачытаў назву: «Справа «Раяль-Палац».

— Па рабаўніцтву ў гатэлі няма нічога новага?

Следчы адмоўна пахітаў галавою.

— А цяпер пан выкліча Мюлера, дзяжурнага парцье, ці не так? — спытаў камісар?

— Але.

— Тады папрашу дапамагчы мне. Пасля Мюлера вы будзеце дапытваць Гурна па справе Белсома?

— Так.

— Трэба зрабіць, каб яны сустрэліся тут на маіх вачах.

— Нашто?

— Я згадаў пра шнар на далоні,— усміхнуўся Жуў.— Памятаеце, невядомага рабаўніка ў «Раяль-Палацы» ляснула токам, калі ён перацінаў дрот у ванным пакоі Соф'і Данідавай. А такі ж самы шнар-апёк ёсць на далоні Гурна!

— Я дапамагу! Але пачнем з Мюлера?

— Вы ўсё яшчэ сцвярджаеце, што загадалі выпусціць з гатэля рудога злодзея памылкова? — знарок сурова звярнуўся Фузілье да Мюлера.

— Так,— умольна сказаў той.— Напярэдадні ў гатэльным штаце адбыліся змены, і я падумаў, што гэта новы калідорны, да таго ж на ім была уніформа.

— Вы яшчэ казалі,— прамовіў камісар Жуў,— што здолееце пазнаць таго чалавека.

— Вядома!

Двое вартавых увялі Гурна ў пакой.

Мюлер, нічога не разумеючы, абыякава глядзеў

на ўладны твар забойцы лорда Белсома, на ягоную моцную паставу.

— Хто гэты чалавек? — спытаў судовы следчы.

— Не ведаю,— адказаў Мюлер.

— Гурн, пакажыце яму правую далонь! — загадаў камісар.— А вы, Мюлер, пастарайцеся згадаць, ці не сутыкаліся вы з ім у «Раяль-Палацы».

— Я разумею, што каб я яго пазнаў, то ўсе абвінавачванні з мяне знялі б, але, на жаль, я сапраўды бачу яго ўпершыню...

— Дзякуй за шчырасць. Можаце ісці,— сказаў Фузільe.

Калі за Мюлерам зачыніліся дзверы, следчы звярнуўся да Гурна:

— Дзе вы былі летась у другой палове снежня?

Гурн няпэўна пацiснуў плячыма. Па ўсім было відаць, што ён разгубіўся ад такога пытання. Следчы, які і разлічваў на такі эфект, нахіліўся да сакратара і шэптам загадаў яму запрасіць у кабінет мажардома Далона, які, па ўсіх разліках, мусіў ужо быць у пачакальні. Але сакратар вярнуўся адзін і разгублена падаў следчаму Фузілье ліст, надрукаваны на службовым бланку:

«Сёння раніцай на чыгуначных рэйках, у пяці кіламетрах каля Вер'ера, знойдзены труп мужчыны, які, відаць, скінулі з цягніка, што ехаў у Парыж. Ідэнтыфікаваць знявечаны сустрэчным цягнікам труп практычна немагчыма, але пры ім знойдзены дакументы на прозвішча Далона і ліст, паводле якога можна меркаваць, што ён кіраваўся ў Парыж на сустрэчу з судовым следчым Фузільe.

Спецыяльны камісар Аўстэрліцкага вакзала».

Следчы перадаў ліст камісару. Жуў прабег яго вачыма і ціха сказаў:

— Я мушу неадкладна ехаць у Вер'ер...

Гурн спакойна сачыў за размовай следчага і камісара.

## XXVIII

## Пасяджэнне суда прысяжных

Чарговы сведка скончыў даваць паказанні. Старшыня суда — радца д'Асторг, павярнуўся да судовага сакратара і загадаў:

— Запрасіце лэдзі Белсом!

Покуль сакратар выконваў загад, судовую залу агарнуў неспакой.

Усе самыя вядомыя парыжане імкнуліся трапіць на гэтае пасяджэнне. Менавіта зараз яны ўбачаць і выкажуць свае адносіны да злачынцы Гурна — забойцы лорда Белсома.

Пасля неабходных умоўнасцей сакратар зачытаў абвінаваўчае заключэнне. Але ў ім былі толькі ўсім вядомыя, апублікаваныя ў друку факты.

Допыт Гурна, які з дзіўнай абыякавасцю сядзеў на лаве падсудных, таксама нікога не зацікавіў.

У першы ж дзень следства Гурн прызнаў сваю віну, так што цяжка было дадаць што-небудзь істотнае. Уся энергія старшыні суда ішла на тое, каб удакладніць некаторыя факты з біяграфіі падсуднага. Ён імкнуўся высветліць матывы, якія прымусілі Гурна пайсці на такую рызыку, як наведванне палаца лэдзі Белсом, удавы ягонае ахвяры, менавіта гэта дазволіла камісару Жуву яго арыштаваць.

Затое паказанні лэдзі Белсом абяцалі высветліць шмат цікавага. Маладая ўдава ў доўгім жалобным строі, які падкрэсліваў яе прывабную паставу, выклікала ў прысутных непадробную зацікаўленасць і сімпатыю. Зала падрыхтавалася лавіць кожнае слова. Судовы сакратар правёў лэдзі Белсом да паўкруглай балюстрады пасярод залы насупраць судовай трыбуны.

— Здыміце пальчаткі,— загадаў сакратар і вымавіў сакраментальную фразу: — Кляніцеся казаць праўду, толькі праўду і нічога, апроч праўды. Кажыце без нянавісці і боязі,— і шэптам падказаў: — Адказвайце: «Клянуся!»

Лэдзі Белсом узняла правую руку ўгору і адказала дрыготкім, але чыстым і мілагучным голасам:

— Клянуся!

Судовы старшыня заўважыў хваляванне маладой жанчыны і загаварыў з ёю не так афіцыйна, як з астатнімі сведкамі:

— Супакойцеся, калі ласка. Мне прыкра, што я вымушаны распытваць пані, але таго вымагаюць святыя інтарэсы правасуддзя... Такім чынам, вы сапраўды лэдзі Белсом, удава, па нацыянальнасці англічанка, якая жыве ў Парыжы ва ўласным маёнтку ў Нэі?

— Так, пан старшыня.

— Калі ласка, павярніцеся і адкажыце нам, ці ведаеце вы чалавека, які знаходзіцца на лаве падсудных?

Падпарадкоўваючыся, лэдзі Белсом зірнула на Гурна і адказала:

— Так, гэта Гурн.

— Выдатна. Адкуль вы яго ведаеце?

— Пад час вайны з бурамі мой муж, лорд Белсом, знаходзіўся ў Трансваалі, а Гурн служыў там у войску сяржантам. Там мы і пазнаёміліся.

— Пані ведала яго блізка?

— Я зрэдку бачыла Гурна і выпадкова запомніла яго імя. З-за вялікай адлегласці ў сацыяльным паходжанні паміж намі не магло быць ніякіх сур'ёзных адносін.

— Сапраўды, Гурн быў звычайным сяржантам,— пагадзіўся старшыня,— аднак пасля вайны вы сустракаліся з падсудным?

— Так, выпадкова, пад час таго, як вярталіся ў Англію, мы плылі на адным параходзе.

— Лорд Белсом падтрымліваў адносіны з падсудным?

— Што тычыцца мяне, то — не, а муж, наколькі мне вядома, даручаў яму розныя справы.

— Добра, мы да гэтага вернемся, а зараз, калі ласка, адкажыце на такое пытанне: вы сустракаліся з Гурнам?

Пасля кароткіх развag лэдзі Белсом адказала:

— Не, але ў той дзень, калі гэтага чалавека арыштавалі, я размаўляла з ім і нават не пазнала яго. Я не магла падумаць, што гэты валацуга — Гурн.

— Выбачайце за прамое пытанне,— працягваў допыт старшыня.— Дазволю сабе нагадаць, што вы пакляліся казаць праўду. Скажыце, вы кахалі свайго мужа?

Лэдзі Белсом не адразу здолела адказаць, але нарэшце вымавіла:

— Лорд Белсом быў нашмат старэйшы за мяне, пан старшыня... — І, баючыся, што яе недакладна зразумеюць, маладая жанчына дадала: — Тым не менш я вельмі паважала лорда Белсома. Нас шмат што звязвала.

На вуснах суддзі з'явілася іранічная ўсмешка.

— Пані здагадалася, нашто я спытаў пра гэта?

— Не.
— Ранейшыя сведкі паказвалі, быццам Гурн быў вельмі... э... захапляўся вамі?
— Я пра гэта не ведала. Яны манілі, пан старшыня!!!
— Калі ласка, запрасіце другі раз пані Дуланг, кансьержку Гурна,— загадаў старшыня.
Кансьержка зайшла ў залу і стала поруч з лэдзі Белсом.
— Пані Дуланг, раней вы паказвалі, што пан Гурн, жыхар вашага дома, час ад часу сустракаўся ў сваёй кватэры з невядомай жанчынай, сваёй каханкай. Вы нават сказалі, што зможаце яе пазнаць. Калі ласка, паглядзіце на гэтую жанчыну, ці не яна гэта?
Пані Дуланг пільна прыгледзелася да лэдзі Белсом.
— Цяжка сказаць. Можа, яна, а можа, і не.
Старшыня ўсміхнуўся.
— Пастарайцеся ўспомніць.
— Выбачайце, пан старшыня, але мне замінае яе чорны вэлюм.
Лэдзі Белсом адкінула свой жалобны вэлюм.
— Не, пан старшыня,— разгублена сказала кансьержка,— я не магу сказаць дакладна, гэтая жанчына ці іншая прыходзіла да яго...
— Але ўсё ж, як вам здаецца? — настойваў старшыня.
— Я паклялася казаць праўду і не маю права памыляцца: гэта магла быць яна, а магла быць і іншая жанчына!
Судовы старшыня параіўся з асэсарамі, пасля чаго спытаў у адваката, мэтра Барберу:
— Ці няма ў вас пытанняў да сведкі?
І падзякаваў лэдзі Белсом і кансьержцы.
Абвясцілі перапынак у пасяджэнні.

## XXIX

## Прысуд

— Суд ідзе, папрашу цішыні!
Суддзі занялі свае месцы. Адным толькі ўладным позіркам судовы старшыня ўсталяваў цішыню ў зале.

— Пасяджэнне працягваецца! Запрасіце сведку камісара Жува.

Камісар заняў сваё месца, даў прысягу.

— Вы, пан камісар,— звярнуўся да яго старшыня,— маеце вялікі вопыт удзелу ў судовых справах, мяркую, вы абыдзецеся і без маіх пытанняў.

За час сваёй кар'еры камісар Жуў зрабіў не адно сенсацыйнае выкрыццё. Таму цікаўнасць публікі да яго выступлення была вялікаю.

— Панове,— няспешна пачаў ён,— шмат якія з маіх дапушчэнняў могуць падацца неверагоднымі, але не спяшайцеся адкідаць іх. Памятайце, мажліва здзейсніць усё, што не пярэчыць законам прыроды. Да сённяшняга дня паліцыя і правасуддзе адступалі перад некаторымі крадзяжамі і забойствамі. За гэтыя злачынствы не было адплаты. Дазволю нагадаць пра іх: забойства маркізы дэ Лангрун, рабаўніцтва пані Ван дэн Розэн і княгіні Соф'і Данідавай, крывавае забойства мажардома Далона і, нарэшце, забойства лорда Белсома, у якім абвінавачваецца прысутны тут Гурн. Панове, я перакананы і маю доказы: усе гэтыя злачынствы здзейсніў адзін чалавек — Гурн! Гэта ён абрабаваў княгіню Данідаву. Рабаўнік, калі перацінаў дрот, апёк сабе руку, а ў Гурна такі самы шнар на далоні. Забойства маркізы дэ Лангрун адбылося пры загадкавых абставінах. Маркіза сама запрасіла забойцу ў свой пакой. Але матывы дагэтуль не высветленыя — нічога каштоўнага з замка не знікла. Аднак нядаўна высветлілася, што маркізе належаў латарэйны квіток, які выйграў буйную суму грошай. І гэты квіток знік пасля яе забойства. А потым у адным з банкаў той самы квіток падаў да аплаты ад імя Эцьена Рамбэра невядомы чалавек. Адначу таксама, што з гэтага часу Рамбэр зрабіўся вельмі заможным. Таксама ёсць паказанні, што Эцьен Рамбэр сеў у дзень забойства ў цягнік Парыж — Люшон, але няма сведак, каб пацвердзіць, што ён сапраўды ехаў гэтым цягнікам. Наадварот, ніхто з апытаных пасажыраў яго там не бачыў. Адсюль вынікае, што ён садзіўся на цягнік ■ мэтаю стварыць сабе алібі, а сам тут жа на пероне вылез праз акно і перасеў на хуткі цягнік, які прыязджае ў Вер'ер на некалькі гадзінаў раней. Нашто гэта яму было патрэбна? У Вер'ерскім тунелі, што перад самым замкам Бале, ідзе рамонт. І ўсе цягнікі спыняюцца перад самым уваходам. Эцьен

Рамбэр сышоў з хуткага цягніка, трапіў у замак, забіў маркізу і вярнуўся, дачакаўшыся пасажырскага цягніка, сеў у яго і выйшаў на платформу ў Вер'еры з таго ж цягніка, у які садзіўся ў Парыжы. Такім чынам забойца маркізы дэ Лангрун — Эцьен Рамбэр! А пры супастаўленні слядоў, якія пакінуў забойца маркізы і рабаўнік княгіні, неаспрэчна вынікае, што гэта адна і тая ж асоба. Эцьен Рамбэр — гэта Гурн.

Камісар вытрымаў паўзу, і ягоны голас зноў загучаў у прыціхлай зале:

— Такім чынам мы звязалі ў адно забойствы лорда Белсома, маркізы дэ Лангрун і рабаўніцтва ў «Раяль-Палацы». Іх здзейсніў Гурн!.. Але застаецца яшчэ забойства мажардома Далона.

Панове, калі Гурна арыштавалі і абвінавацілі ў адным толькі злачынстве: забойстве лорда Белсома, то ён адразу ж прызнаўся ў ім. Чаму? Каб ніхто не западозрыў яго ў іншых злачынствах. Але я працягваў шукаць, мне неабходна было давесці, што Гурн і Рамбэр адное і тое ж. Я знайшоў такі доказ. Гэта кавалак турыстычнай карты, які знайшлі непадалёк ад замка Бале, яго згубіў па дарозе да замка Эцьен Рамбэр. А вялікую карту, з якой быў выразаны гэты кавалак, я знайшоў на кватэры Гурна. Але гэты кавалак карты захоўваўся ў мажардома Далона. Па маёй просьбе судовы следчы выклікаў яго ў Парыж. Толькі адзін чалавек быў зацікаўлены ў тым, каб Далон і следчы не сустрэліся — гэта Гурн-Рамбэр. Далона забілі па дарозе. Відаць, не варта ўдакладняць, што забіў яго Гурн, Гурн-Рамбэр.

А цяпер трэба высветліць, хто такі сам Гурн, чалавек, які з'яўляецца ў адно месца як Эцьен Рамбэр, у другое — як Гурн, у трэцяе — як элегантны жыхар «Раяль-Палаца», чалавек, які здольны задумваць і здзяйсняць жахлівыя злачынствы, які спалучае дзёрзкасць з эрудыцыяй, талент злодзея з талентам актора: чалавек, які ўжо столькі часу перамагае паліцыю і правасуддзе,— гэтага чалавека завуць не Гурн і не Рамбэр! Ягонае імя — ФАНТАМАС!!!

Камісар змоўк. Імя, якое ён вымавіў, пранеслася ў зале, падхопленае напалоханай публікай:

— Фантамас! Фантамас! Фантамас!

— Пан камісар,— нарэшце сказаў старшыня,—

але ж гэта немагчыма: Эцьену Рамбэру — пяцьдзесят гадоў, а Гурну трыццаць пяць.

— Для Фантамаса няма нічога немагчымага! — адказаў камісар.

— Няхай сабе будзе так,— сказаў старшыня,— але вы забыліся пра Шарля Рамбэра, якога дагэтуль усе лічылі забойцам маркізы. Калі забіў Эцьен Рамбэр, то нашто было Шарлю канчаць жыццё самагубствам?

Камісар Жуў адказаў не зусім дакладна:

— А што, калі Фантамас запалохаў гэтага юнака? Пераканаў яго, што той самнамбул і забіў несвядома?

— Можа, і так,— старшыня ўсё яшчэ сумняваўся,— але ёсць яшчэ два факты, якія пярэчаць вашым высновам. Вы кажаце, што Эцьен Рамбэр — гэта Гурн, але Эцьен Рамбэр загінуў пад час аварыі «Ланкастара», вы кажаце, што Гурн забіў мажардома Далона, але на той момант Гурн сядзеў пад вартаю ў турме Сантэ!

Камісар пацiснуў плячыма.

— Пан старшыня, у мяне, вядома, няма неаспрэчных доказаў на ўсе выпадкі, але ў мяне ёсць упэўненасць. Я не магу болей маўчаць. Можа, мне не хапае падрабязнасцей, але ўпэўнены, што ў хуткім часе ўсё высветліцца. Вы кажаце, што Рамбэр загінуў, а дзе доказы? Труп жа не знайшлі?!

— Але спіс пасажыраў...

— Так, пан старшыня, спіс ёсць. Аднак у гэты спіс лёгка трапіць, нават не ступіўшы на палубу «Ланкастара». А што мы наогул ведаем пра катастрофу? Карабель выбухнуў і разваліўся. А чаму? Ніхто не ведае! Калі Фантамас вырашыў пазбавіцца ад маскі Эцьена Рамбэра, то яму няцяжка дзеля гэтага арганізаваць выбух на караблі, свядома знішчыць сто пяцьдзесят чалавек.

Судовы старшыня ахарактарызаваў тэорыю інспектара сцісла:

— Сапраўды дэтэктыў! Але што вы скажаце наконт забойства Далона?

Жуў усміхнуўся.

— На жаль, растлумачыць гэта сёння я не ў стане.

— Вам ёсць што дадаць? — спытаў судовы старшыня.

— Нічога, адказаў камісар,— апроч аднаго: для Фантамаса няма нічога немагчымага.

Судовы старшыня павярнуўся да падсуднага:

— Гурн, вам ёсць што сказаць суду?

Гурн падняўся.

— Гэты паліцыянт расказвае жахлівыя байкі!

Старшыня звярнуўся да Жува:

— Вы прапануеце вярнуць справу на дследаванне?

— Так, пан старшыня.

Судовы старшыня д'Асторг спытаў у пракурора:

— Пан пракурор, вы падтрымліваеце гэтую прапанову?

— Не,— адказаў той,— тое, што сцвярджае сведка, нічым не падмацавана.

— Добра, зараз суд вырашыць.

Асэсары наблізіліся да судовага старшыні і пасля нядоўгай нарады зноў расселіся па сваіх месцах.

Судовы старшыня абвясціў:

— Суд, узяўшы пад увагу паказанні сведкі Жува, выносіць пастанову: на даследаванне справу не вяртаць...

Пасля паўзы д'Асторг звярнуўся да пракурора:

— Пан пракурор, вам слова.

Пракурор выступіў з прамоваю, у якой націскаў на «жахлівую жорсткасць Гурна, які забіў лорда Белсома малатком». Але на працягу ўсёй прамовы ён не згадаў аніводнага факта з прамовы камісара Жува.

Геніяльная здагадка камісара была настолькі нечаканай і ашаламляльнай, што яе ніхто не ўспрыняў усур'ёз.

Хваляванне ў зале выклікалі выступленні пракурора і адваката, але судовы старшыня спыніў спрэчкі і абвясціў перапынак для таго, каб прысяжныя вынеслі вердыкт.

Калі падсуднага выводзілі ў суседні пакой, камісар Жуў, не звяртаючы ўвагі на тое, што ягоную прапанову адхілілі, падышоў да маладога журналіста.

— Хадземце, Фандор,— запрасіў камісар,— у нас ёсць чвэрць гадзіны, каб прайсціся.

Калі яны апынуліся на калідоры, Жуў ляпнуў журналіста па плячы і спытаў:

— Ну, што ты пра гэта скажаш?

Жэром Фандор быў надзвычай усхваляваны.

— Вы абвінавацілі майго бацьку?! — вымавіў ён.— Вы сцвярджаеце, што Эцьен Рамбэр — гэта Фантамас! Мне здаецца — гэта сон.

Камісар зазлаваў:

— Ды зразумей жа ты, я не абвінавачваю твайго бацьку, твайго сапраўднага бацьку! Я абвінавачваю Фантамаса, што ён выдаваў сябе за твайго бацьку. Ну падумай, нашто твайму бацьку забіваць маркізу дэ Лангрун? Яе забіў Гурн! Ён проста прыняў аблічча твайго бацькі.

— Але дзе мой сапраўдны бацька?

— Гэтага я не ведаю,— адказаў камісар,— гэтым мы яшчэ зоймемся. Ты мусіш зразумець: справа не скончана, яна толькі распачынаецца...

— Але суд адмовіў вярнуць справу на даследаванне,— заўважыў Фандор.

— Я чакаў гэтага,— пагадзіўся Жуў.— У мяне бракуе доказаў, каб пераканаць суд. І потым, самы цікавы факт, які я меў, мне давялося замаўчаць...

— Што вы маеце на ўвазе?

— Тое, што ты жывы, Шарль Рамбэр!

— Сапраўды, чаму вы не сказалі пра мяне?

— Я ўтойваў гэта таму, што не такі заможны і трымаюся за сваю пасаду камісара паліцыі. Каб я прызнаўся, што здаўна ведаю, быццам нябожчык Шарль Рамбэр жывы і здаровы і, акрамя таго, выдае сябе то за Жанну, то за Поля... Ведаю і маўчу. Мяне звольняць з пасады, а цябе пасадзяць за краты.

Нарэшце ўзняўся старшыня прысяжных і ўпэўнена абвясціў вердыкт:

— Перад Богам і людзьмі клянуся гонарам і сумленнем. Большасцю галасоў прысяжныя адказалі «так» на ўсе пытанні...

Скончыўшы, ён сеў.

Змякчальных абставінаў прысяжныя не ўлічылі. Было зразумела, што на вырашэнне далейшага лёсу злачынцы пойдуць лічаныя імгненні, і сапраўды... Суддзя падняўся і загадаў:

— Прывесці падсуднага!

Калі вартавыя прывялі Гурна ў залу, судовы старшыня спытаў яго:

— Ці жадаеце што-небудзь сказаць?

— Не, нічога,— адказаў Гурн.

Судовы старшыня пачаў чытаць прысуд. Працэдура здавалася доўгаю і нуднаю, але нарэшце наблізілася развязка.

— ...прыгаворвае падсуднага Гурна да смяротнае кары... — І паспешліва загадаў: — Вывесці асуджанага.

## XXX

## У тэатральнай грымёрнай

— Не, баранеса, ён загадаў нікога не пускаць! Вы ж самі разумееце, сёння прэм'ера. Пана Вальграна ўжо стамілі наведвальнікі.

Стары тэатральны грымёр Шарло заступіў дарогу ў грымёрную Вальграна вялікаму натоўпу.

— Каб вы ведалі, як цяжка было сёння пану Вальграну.

— Ён цудоўны актор,— баранеса дэ Вібрэ ўсё ж пераступіла парог грымёрнай і ўрачыста ўсміхнулася: — З'ехаць з тэатра і не пацiснуць яму руку проста немагчыма.

— Але яго там няма,— пачаў тлумачыць Шарло,— адразу па заканчэнні спектакля яго запрасіў да сябе міністр культуры. Гэта вялікі гонар. Пан Вальгран прыняў прапанову.

— То яго зараз прымае міністр? — са здзіўленнем спытала баранеса.

Тым часам яна пачала разглядаць фотаздымкі на сцяне.

— Паглядзіце, тут подпіс Сары Бернар,— звярнулася баранеса дэ Вібрэ да жонкі палкоўніка Ольбара.

— Сімона,— паклікаў жонку палкоўнік Ольбар,— паслухай, што расказвае наш сябар маркіз.

Маладая жанчына наблізілася, і маркіз сказаў:

— Вы не так даўно вярнуліся з Конга і, вядома, не звярнулі ўвагі на адну цікавую дэталь. Дык вось, у сённяшнім спектаклі Вальгран быў адзін да аднаго — Гурн — забойца лорда Белсома.

— Гурн? — перапытала Сімона Ольбар; гэтае імя яе зацікавіла.

— Як, вы не чулі? — здзівілася баранеса дэ Вібрэ.— Апошнім часам толькі і гавораць пра справу Гурна — Белсома.

— Так, так, я, здаецца, нешта чытала,— успомні-

ла Сімона Ольбар.— Але забойца, здаецца, здолеў уцячы.

— Яго ўсё ж такі схапілі,— растлумачыў маркіз.— Як вы мяркуеце дзе? У лэдзі Белсом. Так, у яе палацы ў Нэі.

— А як яго арыштавалі? — пацікавіўся палкоўнік Ольбар.

— Вельмі проста. Забойцу злавілі ў парку. Яго пазналі, схапілі і месяц таму судзілі судом прысяжных. На працэсе быў увесь Парыж. Вядома, і я таксама,— маркіз нахіліў галаву.— Гэты Гурн вельмі дзіўны злодзей, і невядома, што прымусіла яго пайсці на забойства, магчыма, палітыка, магчыма, грошы, а магчыма, каханне. Ва ўсялякім разе, трэба адзначыць адно супадзенне. Калі лэдзі Белсом вярталася ў Англію пасля вайны, тры гады таму, яна трапіла на адзін параход ■ Гурнам. Гурн быў смелым салдатам і вярнуўся з медалём. Дакладна вось што: паводзіны лэдзі Белсом далі падставы для плётак. Адны выказваюць меркаванні, што лэдзі Белсом пасля смерці мужа вельмі змянілася. Іншыя сцвярджаюць, што яна страціла розум, але не з-за мужа, а праз яго забойцу. Да нас нават даходзяць плёткі, нібыта яна таемна падтрымлівае Гурна ў турме. Чаго толькі не кажуць людзі! — развёў рукамі маркіз.— Праўды не ведае ніхто, але працэс над Гурнам нарабіў шмат шуму. Смяротны прысуд прынялі як належнае, дый сама справа Белсома так непакоіла парыжанаў, што ў нашым тэатры паставілі п'есу «Крывавая пляма» — спектакль, на якім мы сёння прысутнічалі, ён самым дакладным чынам адлюстроўвае ўсе падзеі працэсу над Гурнам. А наш сябар Вальгран, ведаючы, што яму давядзецца выконваць ролю забойцы, пераўвасобіўся ў Гурна. Такая ідэя была ўдалай!

З грымёрнай нарэшце выйшаў сам Вальгран, ён спяваў на ўвесь голас рэфрэн аперэтачнай арыі. Непаўторны трагік, здольны трымаць у напружанасці ўсю глядзельную залу, у жыцці ён быў надзвычай гарэзлівым і няўрымслівым.

Вальгран павітаўся з баранесай і хацеў ужо вярнуцца ў грымёрную, але баранеса затрымала яго.

— Дазволіце пазнаёміць вас з маладымі аматарамі вашага таленту?

Вальгран папрасіў прабачэння:

— Выбачайце, што прымусіў столькі чакаць, але мяне затрымаў пан міністр, ён цудоўны чалавек.— І дадаў: — Ён нават пачаставаў мяне цыгарай!

Усе пачалі віншаваць актора з удалай роллю.

— Вы дасягнулі вяршыняў мастацтва! — выказаў агульны настрой палкоўнік Ольбар.

— Вам сапраўды спадабалася? — узрадаваўся Вальгран.

— Гэта было цудоўна!

— Самае цікавае,— шэптам сказаў Вальгран,— што калі мы пачалі рэпеціраваць, то маёй цяперашняй ролі ў п'есе не было. Было нешта невыразнае, і я адказаў драматургу: «Тут трэба зняць прамову адваката! Я сам павінен абараняцца на судзе! І навошта святар у турме? Я сам скажу замест яго!» Так што ўсё зрабіў я сам!

— Трыумф! — у захапленні прамовіла Сімона Ольбар.

Вальгран самазадаволена зірнуў на свой адбітак у люстэрку.

— Ну што, падобны я да Гурна? — спытаў ён маркіза.— Вы бачылі яго на судзе зблізку?

— Падабенства проста загадкавае!

Яшчэ некаторы час яны размаўлялі, але нарэшце Вальгран сказаў, што мусіць адпачыць, зайшоў у грымёрную і прымкнуў за сабою дзверы.

## XXXI

## Спатканне

— Халера! — звярнуўся Вальгран да свайго грымёра.— Ведаеш, Шарло, можна тройчы staміцца, але ад аднаго выгляду чароўных дзяўчат падымешся нават з труны!

— Пан Вальгран, няўжо вы ніколі не станеце сур'ёзным чалавекам?

Нечакана ў дзверы ціхенька пастукалі. Шарло прачыніў дзверы і вярнуўся да Вальграна, паклаў яму на столік капэрту.

— Нейкая пані прасіла перадаць ліст...

— Цікава, на капэрце жалобная аблямоўка.— Спачатку ён чытаў няўважліва, але потым зацікаа-

віўся.— Нішто сабе! Паслухай, Шарло: «На сённяшняй прэм'еры «Крывавай плямы» вы з нечаканым майстэрствам загрыміраваліся пад Гурна, забойцу лорда Белсома... Сёння ў дзве гадзіны ночы вас чакаюць у гэтым абліччы на вуліцы Месэ, дом 22, прыязджайце; вас кахаюць. Чакаю...»

— І хто гэта так піша? — пацікавіўся Шарло.

— Не скажу! Бо тут ёсць яшчэ і постскрыптум: «Прашу захаваць гэтае запрашэнне ў таямніцы, як прачытаеце, спаліце ліст...»

— Няўжо пойдзеце? — здзівіўся Шарло.— Здыміце хаця б турэмную вопратку, у якой былі на сцэне!

— Не, пераапранацца не буду, яна так прасіла! Не думай, гэта жарт, да таго ж я неаднойчы бачыў тую, што паслала ліст, апошні раз на судовым працэсе. Гэта такая жанчына! Яна надзвычай прыгожая, вытанчаная, зграбная...

— Вар'ятка,— перапыніў яго Шарло.

— Закаханая,— удакладніў актор.— Хутчэй, покуль я буду надзяваць плашч, знайдзі ў даведніку, дзе тая вуліца.

— Месэ, Месэ... — паўтараў назву Шарло і гартаў старонкі даведніка.— Пан Вальгран,— спуджана прамовіў грымёр,— на гэтай вуліцы турма, дзе сядзяць прысуджаныя да смяротнай кары, там сядзіць Гурн.

— Дык мне прызначылі спатканне ў турме? — засмяяўся Вальгран.

— Амаль што — у доме насупраць!

— Я спадзяюся,— Вальгран спыніўся ў дзвярах,— сённяшняя ноч будзе надзвычай цікаваю!

Шарло застаўся адзін у грымёрнай і, нягледзячы на тое, што Вальгран кідаўся ў такія прыгоды не ўпершыню, усё адно прабурчаў:

— Жанчыны давядуць яго да згубы! Гэта ж трэба, забыўся надзець пальчаткі і кашнэ!

## XXXII

## Здрада

Лэдзі Белсом нервавалася. Яна крочыла па пакоі, штохвілінна спынялася і прыслухоўвалася да гукаў парыжскай ночы.

— Ен не прыйдзе,— шаптала яна,— не прыйдзе. Што тады рабіць?

Дом нумар 22 на вуліцы Месэ меў два паверхі. У ім ніхто не жыў колькі тыдняў. Вялікі пакой другога паверха, дзе стаялі старая абшарпаная канапа, такі ж занядбаны фатэль, колькі саламяных крэслаў і стол, у ноч на васемнаццатае кастрычніка зняла лэдзі Белсом.

На пліце грэўся чайнік, стаяла колькі філіжанак і ляжалі на сподках маленькія піражныя. Лэдзі Белсом падбегла да дзвярэй і прыслухалася: блізіліся нечыя няўпэўненыя крокі.

«Мужчына!» — вызначыла яна.

Вальгран любіў прыгоды і таму спакусіўся прапанovаю прыйсці на спатканне ў грыме Гурна якраз да той жанчыны, якую забойца павінен быў напалохаць больш за іншых: лэдзі Белсом, удава лорда-нябожчыка!

«Магчыма, гэта новы від мазахізму,— разважаў Вальгран,— і ёй падабаецца, калі яе палохаюць? Нічога, зараз паглядзім».

Вальгран адчыніў дзверы, кінуў паліто з капелюшом у фатэль, стаў перад лэдзі Белсом і сказаў:

— Вось і я!

Лэдзі Белсом прыкрыла свой твар далонямі, але неўзабаве авалодала сабою.

— Дзякуй вам,— сказала яна.— Дзякуй, што прыйшлі. Вальгран хацеў запярэчыць, але лэдзі Белсом казала далей: — На дварэ холадна, спадзяюся, вы вып'еце кавы, пан Вальгран? — Яна падала свайму госцю філіжанку. Яе рука прыкметна дрыжэла.

— З гэтых рук я гатовы браць усё! — адказаў Вальгран. Ен насыпаў сабе цукру, калі ж хацеў насыпаць у філіжанку і лэдзі Белсом, яна спыніла яго:

— Дзякуй, але я заўсёды п'ю без цукру.

Пілі яны моўчкі. Вальгран усё не мог прыдумаць, з чаго яму пачаць, усё чакаў, што лэдзі Белсом сама згадае пра дасланы ліст. Калі яны дапілі каву, лэдзі Белсом дапытліва паглядзела на актора, той хацеў ёй нешта сказаць, але раптоўна адчуў жахлівую санлівасць, словы і думкі змяшаліся ў ягонай галаве. Твар лэдзі Белсом яшчэ раз мільгануў перад ягонымі вачыма і знік у цемры. Вальгран паваліўся на падлогу.

Лэдзі Белсом нахілілася над ім і, калі ўпэўнілася, што ён спіць, сказала:

— Ну вось і ўсё!

Праз сон Вальгран раптам адчуў, што нехта звязвае яму рукі за спінаю вяроўкай. Ён прачнуўся і крыкнуў:

— Што такое?

На яго наваліліся двое мужчын у форме турэмных ахоўнікаў. Вальгран хацеў закрычаць, але адзін з іх зацiснуў яму рот і сказаў:

— Ціха!

— Пусціце мяне! — Вальграну давялося напружыцца, каб сказаць гэта, бо ён і цяпер ледзь трымаўся на нагах.

— Пайшлі, ты ж ведаеш, Гурн, цябе ўжо нішто не ўратуе!

Вальгран паспрабаваў выслабаніцца.

— Я Вальгран! Трагік Вальгран! Мяне ўсе ведаюць! Дастаньце з маёй кішэні партманет! Там дакументы! — Вальгран нарэшце трохі апрытомнеў і зразумеў, што знаходзіцца ў тым самым пакоі, дзе лэдзі Белсом частавала яго каваю. Ён азірнуўся. Лэдзі Белсом стаяла каля акна і моўчкі глядзела на яго.

Вальгран вылаяўся і звярнуўся да яе:

— Гэтыя дурні лічаць, што я Гурн! Скажыце, што гэта не так!

Але лэдзі Белсом толькі адвяла позірк і маўчала. Вальгран адчуў, што можа зноў страціць прытомнасць, і пачаў упрошваць турэмшчыкаў:

— Дастаньце мой партманет! Там мае дакументы, на маё прозвішча! Там ліст — доказ таго, што мяне заманілі ў пастку. Ліст ад гэтай жанчыны!

— Паглядзі, Нібэ,— параіў адзін ахоўнік другому, а сам зашыпеў на вуха Вальграну: — Ды цішэй! Што ты задумаў? — Нібэ праверыў усе кішэні, але, вядома, ніякага партманета не знайшоў.— Ты добра заплаціў нам, каб мы прывялі цябе сюды на спатканне. Ты абяцаў быць тут адну гадзіну, а мы забіраем цябе праз паўтары, мы чакалі пад дзвярыма і не заходзілі сюды, як дамаўляліся. А цяпер трэба вяртацца ў турму! Пайшлі!

Вальгран апошні раз паспрабаваў вырвацца, але намаганне забрала ў яго апошнія сілы, ён павіс на

руках ахоўнікаў, і тыя пацягнулі яго на вуліцу. Вальгран яшчэ некалькі разоў няўпэўнена прамармытаў:

— Я не Гурн.

З хвіліну лэдзі Белсом прыслухоўвалася, потым канчаткова пераканалася, што ўсё скончылася, перавяла дыханне і вярнулася ў пакой. Яна села на канапу, расшпіліла каўнерык і раптоўна самлела.

У сцяне насупраць прачыніліся дзверы, з цемры выйшаў Гурн і бязгучна наблізіўся да лэдзі Белсом. Ён кінуўся да сваёй каханкі і пашукаў які-небудзь сродак, каб вярнуць ёй прытомнасць.

— Гэта ты? Падыдзі бліжэй,— вымавіла лэдзі Белсом.— Яшчэ трошкі, і я не вытрымаю. Якія жахлівыя хвіліны! Я ўсё яшчэ чую, як ён крычыць. Каб толькі ніхто яго не заўважыў.

Гурн не сумняваўся ў поспеху гэтай рызыкоўнай задумы і пераконваў лэдзі Белсом:

— Варце добра заплацілі. Яны будуць усё адмаўляць.— Потым шэптам спытаў: — А што ён выпіў? Соннае?

Лэдзі Белсом сцвярджальна кіўнула.

— Яно пачало дзейнічаць імгненна, я нават спалохалася, каб ён не паваліўся на мяне.

— Каханая! — глыбока ўздыхнуў Гурн.— Ты выратавала мяне!

Ён пацалаваў яе. Тут Гурн заўважыў на падлозе шырокае паліто Вальграна, накінуў яго на плечы.

— Ну як, пасуе мне?

— Выдатна, але нам час ісці.

— Хвілінку! — Гурн дакрануўся да свайго твару.— Мне трэба пазбавіцца вусоў і барады.— Ён узяў нажніцы і падышоў да люстэрка.

Унізе рыпнулі сходы. Гурн збялеў, лэдзі Белсом кінулася да дзвярэй. Яна не паспела іх зачыніць. Гурн насунуў на вочы Вальгранаў капялюш. Зашпіліў паліто і наставіў каўнер.

Тым часам у дзвярах з'явіўся грымёр Шарло.

— Хто вы, што вам трэба? — спытала лэдзі Белсом.

— Я — Шарло.— Тут ён заўважыў у пакоі Гурна і паказаў на яго рукою: — Пан Вальгран мяне ведае. Я прыйшоў таму, што пан Вальгран спяшаўся і пакінуў у тэатры свой партманет.— Шарло дастаў з кішэні чорны партманет і наблізіўся да Гурна. Але лэдзі Белсом заступіла яму дарогу.

— Сыходзьце,— загадала яна.

— Выбачайце, я зараз сыду. Уся гэтая гісторыя... сёння ўвечары... дакладна гэтай ноччу, праз якія-небудзь дзве гадзіны, я прачытаў выпадкова ў газеце, будзе здзейснены смяротны прысуд. Дык вось, я спалохаўся і вырашыў прайсціся следам за панам Вальгранам. Выбачайце і не злуйце на мяне.

Шарло павярнуўся да дзвярэй і глянуў у акно.

Ранішняе сонца кранула край неба. На рагу вуліцы ўздоўж турэмных муроў узвышаўся насып, побач з якім ужо сабраўся натоўп. Шарло ўзняў руку і сказаў:

— Там эшафот! Гэта ж гільяціна! Вунь блішчыць лязо!

Апошняе слова перайшло ў смяротны крык. Гэта Гурн дастаў з кішэні нож і ўдарыў ім старога Шарло. Лэдзі Белсом здрыганулася і адступіла на крок. Гурн схапіў яе за руку.

— Мы мусім уцякаць.

## XXXIII

## На эшафоце

Ноччу, за колькі гадзін да гэтага здарэння, людзі пачалі сыходзіцца да месца пакарання. Сярод іх было нямала вясёлых кампаній. Да раніцы перад эшафотам ужо стаяў натоўп.

Пракурор рэспублікі скончыў усе неабходныя фармальнасці. Над горадам узняла свае крывавыя рукі гільяціна. Гэтай раніцай павінен загінуць забойца лорда Белсома. Навіна абляцела ўвесь горад. І публіка збіралася на крывавае відовішча, не раўнуючы, як на свята. У гэты момант да турмы Сантэ набліжаліся двое мужчын: Жуў і Фандор.

— Вунь муніцыпальная гвардыя,— Жуў пацягнуў Фандора за руку. — Давайце схаваемся за газетнымі кіёскамі, покуль яны адсунуць натоўп.

Камісар Жуў дакладна прадказаў дзеянні гвардзейцаў. Яны хутка адагналі натоўп. Камісар Жуў і Фандор мелі спецыяльныя пасведчанні, якія прэфектура выдавала толькі абраным і па якіх дазвалялася знаходзіцца непасрэдна перад эшафотам.

Жуў і Фандор цяпер стаялі пасярод пляца, перад

гільяцінай. Па эшафоце праходжваліся мужчыны ў чорных рэдынготах і цыліндрах.

— Гэта мае калегі,— сказаў Жуў Фандору.— А вось і твае калегі — кіраўнікі аддзелаў хронікі галоўных сталічных газет. Табе пашанцавала, што менавіта ты будзеш прадстаўляць такую газету, як «Капіталь».

— Прызнаюся вам, пан камісар,— адказаў Жэром Фандор,— што я сюды прыйшоў таму, што хацеў убачыць, як адсякуць галаву Гурну, які, як вы давялі, і ёсць Фантамас. Я хачу на свае вочы пераканацца ў ягонай смерці. На іншае катаванне я б не прыйшоў.

— Я гляджу, ты перажываеш.

— Так.

— Я таксама,— прызнаўся паліцыянт.— Вось ужо пяць гадоў я змагаюся з Фантамасам. Пяць гадоў пераконваў усіх у ягоным існаванні. Пяць гадоў жадаў смерці гэтага мярзотніка, і смерць пакладзе канец усім яго злачынствам.— Жуў зрабіў паўзу, Фандор маўчаў, і камісар загаварыў зноў: — Няхай я сам тройчы перакананы, што Гурн — гэта Фантамас. Няхай мне ўдалося пераканаць у гэтым усіх, хто ўважліва вывучаў матэрыялы расследавання. Але з юрыдычнага боку я так і не змог нічога давесці. Для ката Дэйблера (дынастыя французскіх катаў), для пракурора і для грамадскасці галаву страціць Гурн, а не Фантамас.

Паліцыянт змоўк. З боку публікі пачалі даносіцца воплескі і заклікі «брава!».

— Што гэта? — спытаў Фандор.

— Гэта натоўп сустракае гільяціну.

З'явілася чорная фура, якую суправаджалі на конях чацвёра жандараў з аголенымі шаблямі. У фуру быў запрэжаны белы конь. За колькі метраў ад Жува і Фандора фура спынілася, жандары паскакалі далей, следам пад'ехала аблупленая карэта, адтуль выйшлі трое ў чорным адзенні.

— Дэйблер і ягоныя памагатыя!.. — сказаў камісар.— Міне не больш за гадзіну, і Фантамас спыніць шлях на зямлі.

Памагатыя ката выцягнулі з фуры доўгія цяжкія брусы ў чахлах з шэрага палатна і асцярожна расклалі іх на зямлі.

— Глядзі,— сказаў камісар,— вось брусы гільяціны, як яны далікатна з імі абыходзяцца!

Мужчыны ў чорным падмялі пляц, каб ніводны каменьчык не парушыў раўнавагі канструкцыі, паставілі чырвоныя слупы памоста. Дошкі падганялі ўсутыч, а каб было надзейней, мацавалі іх тоўстым медным дротам. У загадзя прарэзаныя пазы эшафота вертыкальна ўставілі брусы, па якіх павінен быў слізгануць нож гільяціны.

Кат Дэйблер узроўнем праверыў гарызантальнасць сабранай канструкцыі і замацаваў унізе брусоў дзве дошкі, выразаныя паўколам,— люнет, якім заціскаюць шыю асуджанага. Прысунуў скрыню, упэўніўся, што яна лёгка адкідваецца, і загадаў:

— Нож!

Ён прыняў галоўную дэталь. Уставіў нож у пазы вертыкальных брусоў і падняў бліскучую прыладу ўгару, пад самую папярэчыну, прыдзірліва агледзеў гільяціну і загадаў:

— Салому!

У люнет усунулі тоўсты пук. Дэйблер выслабаніў стопар. Нож бліскавіцай слізгануў па пазах і рассек салому. Рэпетыцыя прайшла паспяхова, можна было заняцца сапраўднаю справай.

— Цяпер кат можа спакойна ўскласці рэдынгот,— камісар Жуў нервова смактаў цыгарэту,— і чакаць, покуль да яго прывядуць Фантамаса.

Каля падножжа гільяціны паставілі два кашы з вотруб'ем. У адзін з іх павінна зваліцца галава пакаранага, у другі — безгаловае тулава.

Кат здзьмухнуў пылінкі з рукавоў і звярнуўся да членаў магістрата, якія стаялі каля турэмнай брамы:

— Панове, праз чвэрць гадзіны світанак. Можна пабудзіць асуджанага.

Ахоўнік Нібэ бязгучна адамкнуў дзверы камеры. Пракурор увайшоў першы. Ён спадзяваўся, што асуджаны будзе спаць, але вязень, апрануты, сядзеў на ложку і глядзеў шклянымі вачыма на сцяну перад сабою.

— Гурн,— сказаў пракурор,— мацуйцеся! У памілаванні вам адмоўлена!

Твар вязня сказіўся. Вусны зрушыліся, ён здолеў толькі вымавіць:

— Я... Не...

Да яго наблізіўся турэмны святар:

— Вы жадаеце памаліцца?

Вязень прыўзняўся і паўтарыў:

— Я... Не...

Адвакат Барберу, збялелы, наблізіўся да яго:

— Гурн, ці магу я што-небудзь для вас зрабіць?

Асуджаны паспрабаваў устаць, але, зняможаны, зноў прываліўся да сцяны і ледзь гучна вымавіў:

— Я... Я...

Дэйблер рашуча падышоў да начальніка крымінальнай паліцыі.

— Пан Авар, падпішыце, што асуджаны вызвалены з-пад варты!

Покуль той няцвёрдаю рукою ставіў подпіс пад актам перадачы Гурна, Дэйблер адрэзаў нажніцамі каўнер кашулі вязня і валасы на патыліцы... Тым часам адзін з ягоных памагатых зацягваў вяроўку на руках асуджанага да смерці.

Калі яго схапілі пад рукі і пацягнулі па калідоры, ён захроп:

— Я...

Але яго ніхто не слухаў...

— Пяройдзем сюды! — камісар павёў Фандора за сабой да таго месца гільяціны, дзе адсечаная галава праз колькі хвілін скоціцца ў кош.

З турэмнай брамы выехаў аўтамабіль. Усе знялі капелюшы і глядзелі на яго. Усталявалася цішыня — як на могілках. Дэйблер саскочыў з падножкі і адкінуў заднія дзверцы, што леглі, як карабельны трап, на зямлю.

— Божа! — сказаў Фандор.

— Смелы чалавек,— заўважыў Жуў.— Ён нават не збялеў. Звычайна ў такі момант асуджаныя белыя як смерць.

Усё адбылося хутка.

У адно імгненне вязня прывязалі да дошкі і перакулілі яе, Дэйблер злавіў яго за вушы і паклаў галавой на люнет.

Шчоўкнуў стопар.

Бліскавіцай мільгануў нож.

Выбухнуў фантан крыві.

Галава скацілася ў кош з вотруб'ем.

Але раптам камісар адштурхнуў Фандора і кінуўся да эшафота. Паліцыянты глядзелі на яго і нічога не разумелі. Камісар засунуў рукі ў набрынялае крывёю вотруб'е, схапіў адсечаную галаву за валасы, узняў і прыгледзеўся да яе. Паліцыянты кінуліся да

яго. Дэйблер таксама паспрабаваў супакоіць камісара:

— Спыніцеся, што з вамі?

— Прэч!

Фандор бачыў, што з камісарам здарылася нядобрае. Ен падбег і разгублена спытаў:

— Што вы робіце?

Адчужаным голасам Жуў растлумачыў:

— Гэта не Гурн... Глядзі, твар нават не збялеў, на ім грым! Як у актора! Халера! Фантамас уцёк! Фантамас на волі. Замест яго пакаралі бязвіннага. Кажу табе: Фантамас жывы!!!

Літаратурна-мастацкае выданне

СУВЭСТР П'ер, АЛЕН Марсель

ФАНТАМАС

Раман

Рэдактар М. М. Зарэмба. Мастацкі радактар У. М. Жук. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар Л. К. Паплаўская.

Здадзена ў набор 19.02.93. Падпісана да друку 27.01.94. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друкарская. Гарнітура Школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 5,04. Ум. фарб.-адб. 5,46. Ул.-выд. арк. 4,90. Тыраж 4500 экз. Зак. 83.

Выдавецтва «Юнацтва» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 7. 220600, Мінск, Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.